СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ:

# «НІЯКАЯ ПАСАДА НЕ ЗМЕНІЦЬ ПРЫНЦЫПАЎ, ЯКІМІ Я КІРУЮСЯ ЎСЁ ЖЫЦЦЁ»



**— У адрас Вярхоўнага Савета чуецца нямала папрокаў: сесіі нярэдка нагадваюць пустую гаварыльню, калі ўсцешваюцца палітычныя амбіцыі дэпутатаў: рашэнні парламента — неканкрэтныя, іх не спяшаюцца выконваць... Вы згодны з такой крытыкай!**

— Не зусім. Наш Вярхоўны Савет сталее на вачах. Паглядзіце, якія дакументы ён прыняў на дзвюх апошніх сесіях! Год таму назад аб гэтым толькі марыць можна было. Так, і зараз чуюцца заклікі да яго роспуску. Але прымаць такое рашэнне недапушчальна. Спачатку трэба выпрацаваць новую канстытуцыю, прыняць новы выбарчы закон, і толькі тады можна праводзіць новыя выбары. Сённяшні парламент, хочацца верыць, эвалюцыяніруецца і будзе патрэбен Беларусі да канца тэрміну свайго абрання.

Я ўжо не раз падкрэсліваў: прафесіяналізм павінен прыйсці на змену эмоцыям. Нельга ператвараць у кірмаш сур'ёзны дзяржаўны інстытут. Зараз работа палітыка заключаецца ў тым, каб плюралізм меркаванняў абапіраўся на рэаліі, каб людзі сапраўды змаглі абменьвацца думкамі, каб не ўтойвалася ніякая думка.

І яшчэ адна вельмі сур'ёзная заўвага: ва ўсіх галінах нашага жыцця мы працуем імпульсіўна, не адвыкаем ад штурмаўшчыны. Не грэх пашукаць падыходы да работы парламента без перапынкаў, у тым ліку без перапынкаў з-за новых выбараў усіх дэпутатаў. Перайма́льнасць неабходна: нельга губляць так цяжка і за такую вялікую цану вопыт, які мы набываем.

**— І ўсё ж, ці будуць нейкія захады, каб работа парламента стала больш выніковай!**

**ШОСТАЯ НЕЧАРГОВАЯ СЕСІЯ Вярхоўнага Савета, што адбылася ў верасні — кастрычніку, без перабольшання, прыняла гістарычныя рашэнні. Аб назве рэспублікі. Аб Дзяржаўным флагу і аб Дзяржаўным гербе. Над Рэспублікай Беларусь, нарэшце, залунаў нацыянальны бела-чырвона-белы штандар, а гербам стала — старажытная «Пагоня». Кіраўніком беларускага парламента сесія выбрала фізіка, доктара навук, прафесара, членкора АН РБ Станіслава Шушкевіча. Сёння Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч— госць «Беларусі».**

— Будуць, бо без паслядоўнай, але рашучай рэарганізацыі Вярхоўнага Савета прымаць актуальныя рашэнні вельмі цяжка. Трэба адшукаць варыянт карэнным чынам паменшыць колькасць членаў Прэзідыума, але захаваць функцыі ўсіх Пастаянных камісій, напрыклад, стварыць Камітэты Вярхоўнага Савета, якія аб'ядноўвалі б па некалькі камісій. Чаму? Таму што адны і тыя ж пытанні некалькі камісій адносяць да сферы сваёй кампетэнцыі і выносяць свае спрэчкі на Вярхоўны Савет, што ўскладняе работу сесій. Гэта — першае. Другое: неабходна дакладна вызначыць функцыі кожнага супрацоўніка Сакратарыята Вярхоўнага Савета, у якім зараз больш за дзвесце чалавек. Тым, хто думае стэрэатыпамі, чакае загадаў і падказак, давядзецца перавучвацца ці шукаць іншае месца, дзе можна прынесці больш карысці. Я прыхільнік удасканальвання дзейнасці вышэйшага заканадаўчага органа не за кошт колькасці функцыянераў, а за кошт прафесіяналізму прыстойных людзей.

**— Вы заўсёды галасавалі за Саюзны дагавор, як кажуць, дзвюма рукамі. А вашы апаненты, наадварот, сцвярджаюць, што дагавор не будзе спрыяць станаўленню культуры, беларускасці, аднаўленню праўды аб нашай гісторыі. Ці не памянялі вы сваю пазіцыю цяпер, стаўшы першай асобай у Рэспубліцы Беларусь?**

— Я заўсёды быў памяркоўным прыхільнікам Саюзнага дагавора і выступаў супраць таго дагавора, які рыхтаваўся да падпісання — хаця б з-за 23-га артыкула. Без ратыфікацыі рэспублікамі такі дагавор нельга прымаць. Тэндэнцыі да адлучэння ад Саюза мне не падабаюцца. Я гэтага проста баюся, супастаўляючы ўсе «за» і «супраць». Палічыце, колькі людзей іншых нацыянальнасцей жыве ў нас, а колькі беларусаў пражывае за межамі Беларусі. Мы з Саюзам — як сіямскія блізняты, і аперацыю па раздзяленню, калі нават да гэтага дойдзе, трэба зрабіць вельмі дакладна, на высокім палітычным, інтэлігентным, культурным узроўні. Калі мы нават да гэтай работы прыступім, то, я перакананы, усвядомім, што не мяжу трэба ўтвараць, а змяняць характар узаемаадносін.

Згодзен, нам трэба спыніць працэс русамоўнай асіміляцыі, трэба адрадзіць нашы традыцыі, культуру, але я не ўпэўнены, што для гэтага абавязкова трэба выйсці з Саюза. Шляхі да ўзаемаадносін могуць быць рознымі — і дэнансацыя старога дагавора ад 1922 года, і заключэнне новага.

Калі ж знойдуцца больш важкія аргументы, сур'ёзныя доказы правільнасці іншай пазіцыі, я ніколі не пасаромеюся сказаць, што памыляўся. І ніякая пасада не зменіць прынцыпаў, якімі я кіруюся ўсё жыццё.

**— У тым ліку і ў адносінах да «ўваходжання ў капіталізм»?**

— Так. Многія ўпэўнены, што калі мы пяройдзем на капіталістычныя метады гаспадарання — адразу станем шчаслівымі. Але ж давайце памятаць: Еўропа перажыла два стагоддзі «дзікага» капіталізму, перш чым прыйсці да капіталізму цывілізаванага. Я прыхільнік якраз капіталістычных метадаў цывілізаванага плана. У такога капіталізму не грэх і сацыялізму павучыцца: сацыяльнае забеспячэнне працоўных, пенсіянераў і нават беспрацоўных знаходзіцца там на дастойным узроўні.

**— У рэдакцыйнай пошце нямала лістоў такога характару: я рускі, карані мае ў Расіі. Таму, мажліва, мне лепш за ўсё падацца на радзіму, пакуль сілком не выгналі...**

— Я лічу, што ўзровень інтэлігентнасці людзей, якія сёння ў нас ва ўладзе, талерантнасць самога беларускага народа не дапусцяць, каб чалавек небеларускай нацыянальнасці адчуваў сябе «другасортным». Ніводная палітычная сіла, ніводная партыя, ніводная арганізацыя не хоча ў нас гэтага.

**— Ці будзе адменена заява Вярхоўнага Савета рэспублікі ад 1990 года па Літве?**

— Гэта балючае пытанне. На з'ездзе народных дэпутатаў я ад імя нашага Прэзідыума зрабіў заяву, што мы — за нулявы варыянт, які прадугледжвае стабільнасць існуючых меж. Пытанні, калі яны будуць узнікаць, мяркую, павінны вырашацца пры поўнай згодзе абодвух бакоў. Будзем шукаць дыпламатычныя шляхі ўрэгулявання праблем, у тым ліку і звязаных з нашымі нацыянальнымі каштоўнасцямі, што засталіся ў Вільні, з жыццём беларусаў на літоўскай тэрыторыі.

**— Паўтара года назад у час работы першай сесіі Вярхоўнага Савета прыхільнікі БНФ на плошчы перад Домам урада цэлы дзень скандзіравалі: «Шуш-ке-ві-ча!» На шостай сесіі апазіцыя на пасаду кіраўніка парламента вылучыла іншага дэпутата, Уладзіміра Заблоцкага, і ў першым туры галасавала супраць вас. Не задумаліся — чаму?**

— Мяне часта пытаюць аб адносінах да БНФ. Што можна сказаць? Яны непахісныя. Ставіўся і стаўлюся да гэтага руху з павагай. Больш таго, дзякуючы апазіцыі, парламент прыняў нямала важных дакументаў. Сярод яе членаў шмат адукаваных, сумленных людзей, патрыётаў Беларусі. Аднак мне не падабаецца, калі ад імя беларускага народа прадстаўнікі БНФ спрабуюць знішчыць усё, што набыта за 73 гады. А часта іх падтрымлівае не народ, а натоўп. І чакаць ад яго дабра, прабачце, ну ніяк не прыходзіцца. Наступіў момант, калі побач з палітычнай барацьбою павінны ісці звычайная чалавечая памяркоўнасць, пачуццё меры. Інакш нам не пазбегнуць паўтарэння горшага вопыту «Вялікай рэвалюцыі».

БНФ жа не толькі не падтрымліваў мяне, але і асуджаў. Такую пазіцыю лічу нармальнай. Я не хадок супраць свайго сумлення, не падладжваюся ні пад «правых», ні пад «левых».

**— Што вы думаеце аб інстытуце прэзідэнцтва ў Рэспубліцы Беларусь?**

— Думаю, што з цягам часу гэтае пытанне стане на парадак дня сесіі ВС больш канкрэтна, чым было дагэтуль. Я перакананы, што прэзідэнт павінен выбірацца ўсенародным галасаваннем. Але пакуль не ў прэзідэнцтва, а ў канкрэтыку выканаўчай улады ўпіраюцца нашы справы. Лічу, што трэба паступіць наступным чынам: прыняць новую канстытуцыю (з прэзідэнцкай формай кіравання) Вярхоўным Саветам гэтага склікання. Увесь час, а цяпер — асабліва — неабходна ўдасканальваць формы кіравання. Тады ўсе дэпутаты ўсвядомяць, якімі паўнамоцтвамі павінен быць надзелены Прэзідэнт.

**— І такое, Станіслаў Станіслававіч, пытанне: якія вашы прагнозы на 1992 год! Ці лягчэй уздыхнецца людзям!**

— Хуткае выздараўленне, на жаль, немагчымае, бо наша самае «вялікае» дасягненне — звычка працаваць без асаблівага напружання. І ўсё ж такі ў геннай памяці беларусаў захавалася жаданне ганарыцца вынікамі сваёй работы, яны дысцыплінаваныя, таму здабыткі будуць больш значнымі, чым у іншых рэспубліках. Галоўнае ў дзейнасці Вярхоўнага Савета — стабілізацыя эканомікі. Яна ў многім залежыць ад той палітычнай лініі, якую мы будзем праводзіць. Павінен не мага больш шырока працаваць не размеркавальны, а цэнасны механізм. І самае важнае: знойдзем спосаб прыцягнуць людзей да зямлі — галоўнага нашага багацця,— перамены будуць хутка!

Зямлю здолее адрадзіць толькі свабодны селянін, а у нас (я не баюся гэтага сказаць і сёння!) у наяўнасці мноства элементаў прыгонніцкага права.

**— У вашай асобе ўдала спалучыліся два дыяметральныя пачаткі: сур'ёзны фізік і класічны лірык — чалавек, добра вядомы ў рэспубліцы высокай гуманітарнай адукаванасцю. Гэта — ад бацькоў ці ад самаўдасканалення!**

— Хутчэй за ўсё — ад бацькоў. Яны працавалі настаўнікамі, з'яўляліся членамі Саюза пісьменнікаў. На нашай былой Сляпянскай вуліцы ў Мінску ўсе размаўлялі «па-тутэйшаму». Так што беларускае слова вельмі натуральна стала родным. Дзяцінства маё праходзіла ў чыста жаночым асяроддзі: бабка ды маці, бо ў 37-м годзе бацьку арыштавалі і адправілі ў ссылку. Перапісваўся з ім на беларускай мове. Тады мне здавалася, што самы лепшы твор — гэта казка «Звярыны баль» майго бацькі. Маці таксама была рэпрэсіравана, пра яе Алесь Кучар нават напісаў фельетон «Ліса ў воўчай шкуры», а з камсамола яе выключылі за тое, што ў анкеце яна напісала «замужняя», гэта значыць не адраклася ад «ворага народа». Мне няпроста было паступаць ва універсітэт, хаця з медалём тады ўсіх прымалі без экзаменаў...

Цяжка зразумець тых беларусаў, якія не ўмеюць двух слоў звязаць на роднай мове. Цяжка ўсвядоміць логіку тых беларускіх згуртаванняў, напрыклад, былога ЦК КПБ, які прымае пастанову (!), абавязваючы партыйныя камітэты на працягу трох гадоў (!) перайсці на беларускую мову.

**— Сёлетні год — год Багдановіча, у снежні мы адзначаем стогадовы юбілей нашага слыннага песняра. Вам блізкая яго творчасць?**

— Я не саромеюся гэтага сказаць: Багдановіча зразумеў толькі пад час майго абрання народным дэпутатам, хаця многія вершы памятаў яшчэ са школы. Многія яго творы здаваліся не надта зграбнымі, не зусім дасканалымі. Пільную ўвагу на яго творчасць звярнуў пасля размоў з суайчыннікамі, што аказаліся ў замежжы. І тады прыйшло сапраўднае разуменне ягоных твораў — чыстых, шчырых, глыбокіх. Сапраўды гэта той паэт, які здольны аб'яднаць беларусаў, запаліць любоўю і павагай да свайго роднага слова, да сваёй Бацькаўшчыны.

**— Але ж, калі згадаць паэтавы радкі, то «Брацця! Ці зможам грамадскае гора! Брацця! Ці хваце нам сілы!!»**

— А тут ужо ўсё залежыць ад нашай грамадзянскасці, ад здольнасці не стаць дробнымі птахамі, што ў цяжкую хвіліну абляпілі дужае цела Страціма-лебедзя і загубілі яго. Хопіць нам спадзявацца на нейкага героя, асілка, што здольны павесці ў лепшае жыццё. Нішто не пераменіцца, калі мы самі не станем іншымі — больш працавітымі, уважлівымі адзін да аднаго, калі не павернемся да матчынай мовы, да сваёй культуры.

**— Пазіцыя, творы якіх беларускіх пісьменнікаў вам самыя блізкія?**

— Пачыналася ўсё, як я казаў, з бацькавых казак. Потым каго ў нас можна любіць? Вядома ж, Купалу (калі, праўда, выключыць «Табе, правадыр, нашы словы і думы»), Коласа. Мой дзед, што жыў у Шчытамірычах, пад Мінскам, ведаў амаль усю «Новую зямлю» на памяць, і я пазнаёміўся з ёю — з дзедавых вуснаў, яшчэ не чытаўшы. Наогул няпроста мне было ўспрыняць таго ці іншага пісьменніка. Найперш аналізаваў не яго творы, не яго творчую манеру, а тое, як ён адносіўся да рэпрэсіраваных: ці бачыў у іх «ворагаў народа», ці ўсё ж верыў, падтрымліваў. Цяжкі быў час, цяжка было разабрацца ў людзях. Нават бацькі вельмі часта разыходзіліся ў меркаванні аб чалавеку — маці лічыла кагосьці лепшай сяброўкай, а бацька ведаў пра яе «сяброўчыны» даносы...

Што сёння? Малюся на Быкава, вельмі падабаецца жартаўлівасць Барадуліна. Шкада, што работа адбірае шмат часу, што многія цікавыя кнігі даводзіцца толькі пагартаць.

**— «Беларусь» з вашым інтэрв'ю з'явіцца да сваіх падпісчыкаў і чытачоў якраз напярэдадні Новага года. Што вы пажадалі б сябрам і прыхільнікам часопіса?**

— Перакананы, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пацвердзіць яшчэ не адзін раз, што ён ганарыцца Бацькаўшчынай, клапоціцца аб яе лёсе. Усіх беларусаў на Радзіме і за мяжой, усіх тых, дзеля каго Беларусь стала роднай і блізкай або яшчэ такой стане, я віншую з першым Новым годам суверэннай Рэспублікі Беларусь!

Будзьце добразычлівымі!



# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАННЕ МІТРАПАЛІТА МЕНСКАГА І ГРОДЗЕНСКАГА ФІЛАРЭТА ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ ЧЛЕНА СВЯШЧЭННАГА СІНОДА

*«Любоў Божая да нас адкрылася ў тым, што Бог паслаў у свет Адзінароднага Сына Свайго, каб мы атрымалі жыццё праз Яго»*

(1 Ін. 4, 9)

ЛЮБАСНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ ПРААСВЯШЧЭННЫЯ АРХІПАСТЫРЫ, ПАСТЫРЫ, ШАНОЎНАЕ МАНАСТВА І ЎСЯ БАГАЛЮБНАЯ ПАСТВА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ!

Сёння духоўна святкуе перамогу Святая Праваслаўная Царква, услаўляючы Нараджэнне Госпада Бога і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста, Які «дзеля нас людзей і дзеля нашага збавення сышоў з нябёсаў, і ўцялесніўся ад Духа Святога і Марыі Дзевы, і ўчалавечыўся» (Сімвал веры).

Святкуючы гэтую вялікую і цудоўную таемнасць выратавання роду чалавечага, мы вачыма веры сузіраем Хрыста Ісуса ў яслях Віфлеемскіх і разам з пастухамі пакланяемся народжанаму Багадзіцяці, радуемся з Яго слаўнага прышэсця разам з усходнімі мудрацамі і прыносім Яму ў дар нашую веру, надзею і любоў (1 Кар. 13, 13).

Любасныя! Сапраўды «Ён выбавіў нас не за дзеі праведнасці, якія б мы ўчынілі, а з Свайго міласэрнасці, праз купель адраджэння і абнаўлення Святым Духам, Якога выліў на нас шчодра» (Ціт. 3, 5, 6).

Дык прымем жа гэтую перамогу нашай веры не абыякава і не бяздзейна, а спяваючы Нябеснаму Айцу ангельскую песню: «Слава ў вышніх Богу, і на зямлі мір, і ў чалавеках добрае ўпадабанне» (Лк. 2, 14), ператворым жыццё сваё, падпарадкаваўшы яго закону ахвярнай любові да блізкага.

Дарагія і любасныя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, пастыры, багалюбныя манахі і манашкі, настаўнікі і навучэнцы нашых духоўных школ, усе праваслаўныя жыхары нашай Рэспублікі і праваслаўныя беларусы за мяжой! Сардэчна віншую ўсіх вас з вялікім святам Нараджэння Хрыстовага і з надыходам Новага года!

Малітоўна зычу ўсім нам уступіць у Новы год даброці Божай азоранымі святлом каляднага свята. Гасподзь наш Ісус Хрыстос прыйшоў у свет гэты, які «ў зле ляжыць» (1 Ін. 5, 19), каб замірыць людзей перш за ўсё з Богам, адкупіўшы наш грэх шчырай Сваёю Крывёю, і ўзвясціць нам новыя Евангельскія запаведзі. Першая з іх: «палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю, і ўсім разуменнем тваім, і ўсёй моцай тваёю» (Мк. 12, 30). А пастаяннае памятанне пра Бога і Ягоную любоў да чалавека дасць нам сілу выканаць і другую запаведзь, падобную да першай: «палюбі блізкага твайго, як самога сябе» (Мк, 12, 31).

Дык няхай жа Божая любоў і мір валадараць у сэрцы кожнага з нас!

Усе мы, паслядоўцы Хрыста, ва ўсе часы павінны, паводле запавету Гасподняга, маліцца і працаваць дзеля захавання паміж намі міру і згоды. Асабліва цяпер, у нялёгкія дні пераўтварэнняў.

Сёння на Беларускай зямлі працягваецца рух да дабратворных перамен у грамадстве — за духоўнае адраджэнне яе народа. Адбудоўваюцца і асвячаюцца храмы і манастыры, духоўныя вучэльні, таварыствы міласэрнасці, праваслаўныя брацтвы моладзі.

Адрадзілася і незалежная Рэспубліка Беларусь! Аднаўлена яе нацыянальная сімволіка, відавочныя яе духоўныя каштоўнасці і культурныя здабыткі. Гэта азначае, што народ не страціў веры ў Бога і любові да Бацькаўшчыны.

Разам з тым мы не можам не трывожыцца за тыя глыбокія ўзрушэнні маральнага і сацыяльнага характару, якія скаланаюць наша грамадства. Наш абавязак захоўваць біблійны закон, бо ў выкананні яго — зарука дабрашчаснасці народа. Любасныя! Будзем жа руплівa маліцца і памятаць у нашых цяжарах і скрухах, што Хрыстос прыйшоў у свет гэты не судзіць яго, а ўратаваць і павярнуць сэрцы нашыя да Боскага Закона. Любоў Айца да стварэння, да нас, такая бязмерная, што ўваскрашае і ажыўляе кожнае скамянелае сэрца!

І на супольную радасць нашу мы бачым, як наш народ выходзіць са стану забыцця нацыянальнага духу, скідае з сябе цяжар маны і няпраўды. У ім ажывае і адраджаецца памяць пра тое, што ён ад пачатку носіць у сабе пакліканне Божае да святасці, любові і духоўнага ўдасканальвання. Ён не страціў у сабе бацькоўскай праваслаўнай веры.

Любасныя браты і сёстры! Яшчэ раз віншую вас з вялікім святам Нараджэння Хрыстовага і з Наваголдзем!

Гэта нашае віншаванне я звяртаю да ўсіх хрысціян Беларусі і зычу ім Міру і Божага благаславення.

Хрыстос нараджаецца — слаўце! Хрыстос з нябёсаў — сустракайце! Хрыстос на зямлі — узносьцеся!

Амін!

**Мітрапаліт Менскі і Гродзенскі**
**ФІЛАРЭТ**
**ПАТРЫЯРШЫ ЭКЗАРХ УСЯЕ БЕЛАРУСІ.**

Нараджэнне Хрыстовае (Каляды)
1991/1992 гг.
г. Менск.



Споведзь



Таіса
БОНДАР

# НЯЎЖО ЧАЛАВЕК — ГЭТА НАЗАЎЖДЫ БЕЗНАДЗЕЙНА?

Паэты — з племені пракракаў, і калі праўда ў сумна вядомым выслоўі: няма прарока ў сваёй Айчыне, то дзе ж месца Паэта? У вечным выгнанні? У цямніцы сваёй адзіноты? У пыльнай памяці кніжных паліц?

Хто сёння згадвае, што душа народа — у паэзіі, у песні? З дня ў дзень, на вачах, зарастаюць крынічкі, якія жывяць духоўнасць, дух яго, і за спрэчкамі, дыялогамі і маналогамі палітыкаў, за бясконцымі пагрозамі то новай стачкі, то



Уладзімір
БОЙКА

# «НАШТО ХЛЕБ, КАЛІ НЯМА ВАСІЛЬКОЎ...»

новай грамадзянскай вайны і нястрымным віскам электраінструментаў ва ўмелых і не вельмі ўмелых руках не расчуць ужо некалі адухоўленага вечнасцю роднага слова. Ды і расчуеш, то, хутчэй, з вуснаў наваяўленага прэтэндэнта ў лідэры нацыі, як аздобу чарговай палітычнай прамовы, этнаграфічную падмалёўку яе, затапрабаваную часам. І міжволі крыўда пекане па сэрцы: няўжо мы, за ўяўны спакой і сваю абыякавасць расплачваючыся святынямі, так ніколі і не адчуем сябе народам? Няўжо чалавек — гэта назаўжды безнадзейна і мы, сагнаныя ў адзін вялікі загон, так і будзем пакорна стаяць у ім і мэкаць пра сваю самоту, душачыся ў мітусні і штурханіне, не слухаючы, не чуючы адзін аднаго?

Хуткаплынныя дні, гудучы, як надакучлівыя мухі, знікаюць у небыцці, хоць кожнае імгненне — гэта акно, шырока адчыненае на ўсе часы, у любое са стагоддзяў пражытай народам гісторыі, і трэба толькі прыпыніцца, азірнуцца, каб убачыць сябе на скрыжалях часу — сярод продкаў сваіх, перад нашчадкамі сваімі. Куды мы так спяшаемся, што прабягаем міма, міма? Прабягаем, а потым бяздумна нудзімся па чымсьці няўлоўным і навекі страчаным, перабіраючы цьмяныя спогады і хімеры: штосьці прыйшло, штосьці адышло — у гэтым уся ўбогая праўда жыцця, чым бы і як бы мы за яе ні апраўдваліся.

Адпушчаная на чалавечы век сіла, яе энергія трацяцца на тое, каб здабыць, агараць кавалак хлеба надзённага, і іх не застаецца на барацьбу за сваю душу, за сваю годнасць? Дух знясілены, зможаны жыццём, яго нясцерпнай часам шэрас- … пошасцю і збрыдлай будзённасцю? Так, …рыя прайшлася па нас, беларусах, усімі …валамі войнаў, голаду, задушлівай хлусні, расчараванняў, экалагічных бедаў і катастроф,— ды хіба гэта апраўдвае нас, сённяшніх, за тое, што так забуяла, так буяе сярод нас бездухоўнасць? Так, у зваяваным атамам стагоддзі нашым, адпрэчыўшы — каторы ўжо раз умярцвіўшы! — Бога, улады правілі ад імя сатаны, і ў абязбожаным, бездухоўным грамадстве запанавалі, пануюць безнадзейная надзея, ілжывая ісціна, разгул усёдазволенасці з тыраніяй грошай, якімі заменены, якімі падменены і рэлігія, і любоў, і вера. Ды чалавек жа на тое і чалавек, каб задумацца — задумацца над тым, што не веру ад сябе (няхай і пад прымусам!) адпіхваў і адпіхвае, а душу сваю. Мы ж, нават усвядоміўшы, што жывём на краі бездані, не імкнёмся зрабіць, намацаць адзіна бяспечны крок, каб хоць крыху адысціся і ўратавацца, а ў скрусе заплюшчваемся. Каб не глядзець, не бачыць. Ні сябе, пагуканых ужо гэтаю безданню, не бачым, ні бездані, да якой, пакорныя выбраным «пастухам», прыйшлі самі...

Сляпыя! Мы ўсе — сляпыя ад страху перад жыццём, перад тымі мукамі, якія давялося б сцярпець, і тымі намаганнямі, якія трэба зрабіць, каб застацца чалавекам. Каб ва ўсім, заўсёды заставацца чалавекам. Вось і перадаецца ўжо каторае пакаленне ў генах страх, дасюль перадаецца. Вось і расце ў душах спустошанасць, адцясняючы, выпінаючы наверх незадаволенасць, якая не, не ды і прарываецца, узрываючы, здавалася б, дабротна, на ўсё жыццё выбудаваны спакой.

Куды ні іду — натыкаюся на пустыя вочы, на твары, як павуцінаю, зацягнутыя дакукаю, і зноў і зноў з горыччу думаю пра тое, што мы духоўна выраджаемся, што ў няўцямным адчаі, чапляючыся адзін за аднаго і адштурхваючы адзін аднаго, усё часцей цураемся звыклае патрэбы заставацца сам-насам з сабою, жыць адухоўленым жыццём. Калі яшчэ сказана: «не хлебам адзіным...», а і дагэтуль, на словах схіляючыся перад мудрасцю біблейскага запавету, жывём зямным, плоцевым — нярэдка па прынцыпу: абы ўрваць што якое ў вечнасці, ці хоць бы ў суседа па планеце... Нібыта часовая, адабраная ў кагосьці са слабейшых ці папросту ўкрадзеная радасць або ўцеха дапамогуць, уратуюць. Не ратуюць. У вачах — ці пустата, ці сабачая туга. І ўжо ж, калі перастаеш што б там ні было любіць, дзеля чаго тады пуп надрываць, дзеля чаго жыць?

Калі і сапраўды чалавек галодны, калі сапраўды яму перш за ўсё патрэбен хлеб — сказана ж: будзе хлеб, будзе і песня! — то хоць памяць пра песню, пра акрыленую песняю душу павінна б жыць, павінна б выжыць. Ажно не, не выжыла... Выракліся сваёй мовы і сваёй культуры, распранаем, да ніткі абрабоўваем каханне, выстаўляем на сусветнае пасмешышча сваіх дзядоў і бацькоў, патураем дзецям у іх памкненнях да голага спажывецтва, адварочваемся ад добрыні і... І задыхаемся! Задыхаемся ад мярзотных выпарэнняў атручанага пошасцю страху часу, ад хлусні, якая гучыць паўсюдна, якая падаецца пад рознымі палітычнымі соусамі і ўсё-такі патыхае жорсткасцю, граззю, крывёю. І носа не заткнеш...

Божа, як хочацца чысціні, чыстага глытка паветра! Разумею, адчуваю, што, прыглядваючыся, не, не ды і да мяне цягнуцца па гэты чысты глыток паветра — і не магу, усё часцей проста не здольна ступіць насустрач: колькі разоў падманута ў сваіх спадзяваннях на чалавека, колькі разоў адпіхнута ад разумення! Колькі — яшчэ?!

Усе спробы разварушыць многія па-жабрацку нікчэмныя, пустыя, лянівыя душы — марныя: адно пасля ўдару, або пагардлівага пляўка, і скранецца, заварухнецца ў іх нешта, хоць і гэтае «нешта» часта выглядае такім слізкім, такім агідным, што ў самы час перахрысціцца.

І марна, выходзіць, я ўсім жыццём сваім, усімі кнігамі сваімі палка пратэстую супраць прыніжэння чалавечае годнасці. Марна даводжу сабе і іншым, што чалавека можна кінуць у самыя неверагодныя ўмовы, у самае пекла адчаю, але дух, калі асвятліў ён душу яго, растаптаць, змяшаць з граззю нельга, бо ўсё новыя і новыя парасткі яго падымаюцца над граззю, над крывёю, над адчаем. Не падымаюцца, не здольны, выходзіць, прабіцца...

Горка. Да болю горка. І колькі ні пераконвай сябе ў тым, што мастацтва, культура прадаўжаюць сваю адвечную, нялёгкую работу па гуманізацыі грамадства, антымастацтва, антыкультура (што б і хто ні даводзіў пра карысць, пра непазбежнасць і своеасаблівую карысць масавай культуры!) робяць сваю справу і хутчэй і актыўней: ніхто не прыбірае зямлю — прыбіраем толькі ўласныя кватэры, ніхто не бядуе ад страшнай душэўнай галечы — страшымся паніжэння ўзроўню жыцця...

«Дзе не ўладарыць мастацтва, там людзі не дабрадзейныя, а толькі практычныя, не маральныя, а толькі асцярожныя; яны не змагаюцца са злом, а пазбягаюць яго, пазбягаюць не па нянавісці да зла, а з разліку. Цывілізацыя тады толькі мае цану, калі дапамагае асветніцтву... Пачакайце, і ў нас будуць чыгункі і, не выключана, паветраныя пошты, і ў нас фабрыкі і мануфактуры ўдасканаляцца, народнае багацце ўзрасце; але ці будзе ў нас рэлігійнае пачуццё, ці будзе маральнасць — вось пытанне! Будзем цеслярамі, будзем слесарамі, будзем фабрыкантамі, але ці будзем людзьмі — вось пытанне!» — пісаў амаль паўтара стагоддзя таму В. Бялінскі, і яго пытанні можна адрасаваць і нам, і нашаму часу. Ці будзем людзьмі? Ду-

Калісьці непараўнальны Максім Багдановіч паставіў пытанне рубам: «Нашто хлеб, калі няма васількоў?..» Дзесяцігоддзямі вынішчаючы васількі, дажыліся да таго, што не стае ні хлеба, ні бульбы. Усяго — не стае. Затое навалам некампетэнтнасці, азлобленасці, дзікунства. На ўсіх узроўнях! Плюс — невычарпальныя амбіцыі, …энзіі на валоданне ісцінаю ў апошняй інстан… Бясконца паўтараючы, што ўсё ў нас «самае-самае», настолькі аглушылі сябе, што дасюль, бы страусы, хаваем галаву ў «ісцінах», аніяк не пацвярджаных рэальнасцю. Гісторыя спроб высунуць галаву з пяску заскарузлых догмаў пазначана надзвычайнай вынаходлівасцю на мянушкі: ад «нігілістаў» і «дысідэнтаў» да «пацыфістаў» і «так званых дэмакратаў».

Неўміручасць псеўдамарксізму, абсалютна відочная ў патоку публікацый у адыёзных перыядычных выданнях рэспублікі,— неабвержны паказчык глыбіні таго крызісу культуры, у нетрах якога мы апынуліся. Лішак ляноты і вяласць філасофскай думкі спараджаюць інерцыю азлобленага непрымання нестандартнага мыслення. А ад азлобленасці — паскораныя пошукі ворагаў. І — па шматдзесяцігадовай традыцыі — ворагаў знаходзяць якраз там, дзе іх няма. Затое не заўважаецца сапраўды «галоўны вораг» — тая татальная некультурнасць, якая, калі быць сумленнымі, так часта нагадвае элементарнае дзікунства. Аказваецца, у наш час зусім магчыма на поўным сур'ёзе друкаваць «размышлизмы», згодна якіх аніякіх агульначалавечых каштоўнасцей не існуе!..

Незадоўга да жнівеньскага путчу ў адной з газет на цэлую паласу выдаваліся сутаргі думкі, звездзеная да заклікаў «закрыць граніцы!» (г. зн. адрадзіць тую самую «жалезную заслону»), а ўсіх, хто выцягнуў галаву з пяску догмаў, паслаць «на нары»... Вось такая «канструктыўнасць» і «прастата» сродкаў выхаду краіны з крызісу!.. З неўтаймоўнай бессаромнасцю ў галаву абывацеля ўбіваюцца байкі пра «жыдамасонскую змову», каб адцягнуць увагу ад рэальнай «змовы раўнадушных» — тых, «з чые маўклівае згоды адбываюцца на зямлі здрады і забойствы», як ужо ў саміх нетрах эпохі сталінізму было сфармулявана ў эпіграфе да вядомага рамана Бруна Ясенскага. Гэтая «змова раўнадушных» сёння трымаецца на такіх «трох кітах», як ваяўнічая некампетэнтнасць, духоўнае жабрацтва і выхаваны дзесяцігоддзямі рэпрэсій жах, якога пазбываюцца, можа, толькі маладзейшыя пакаленні. Пакуль жа столькі «духоўных пастыраў» нечага чакаюць, адмоўчваюцца, зашыўшыся ў «вежы са слановай косці», раўнадушна цікуючы, хто там возьме верх — «так званыя дэмакраты» ці якія-небудзь «нінаандрэеўцы» або аднадумцы «Жырыноўскага», каб пасля выцягнуць нарэшце свае «хлебапрыёмнікі» з пяску і зноў вяшчаць пра «самае-самае»...

Хацелася б спадзявацца, што народжаны парламентам Беларусі Закон аб культуры дабратворна паўплывае на духоўныя працэсы ў грамадстве. Ён накіраваны на «ажыццяўленне прынцыпаў ідэалагічнай і палітычнай незалежнасці культуры ад грамадска-палітычных структур», на «свабоднае самаразвіццё культурных працэсаў».

Прыгадаю меркаванне акадэміка Д. Ліхачова: «Адзіным «ідэалагічным» патрабаваннем да культуры мусіць быць свабода. Бо нельга сказаць — якія светапоглядныя канцэпцыі з'явяцца ў будучым. Заключэнне культуры ў рамкі ідэалагічных патрабаванняў непазбежна будзе трымаць культуру ў рамках застою».

І з гэтага пункту гледжання наш Закон аб культуры спрыяе вызваленню мастакоў творчасці ад адміністрацыйнага дыктату. Аднак і гэта не вызваляе творцу і ўсялякага дзеяча ў сферы духоўнай ад неабходнасці выпрацоўваць светапоглядныя прынцыпы. Ад неабходнасці трымацца не менш важных для развіцця культуры «законаў няпісаных» — выпрацаваных гуманістычнай думкай маральных імператываў. Ці ж не парушэнне менавіта маральных імператываў і стварыла тую фантасмагарычную рэчаіснасць, у якой мы апынуліся? Так, скажам, пра якую культуру палемікі ў нашым друку можа ісці гаворка, калі не ўлічваць, што «тая філасофія, якую вы называеце марксісцкай, магчыма, мабыць, па ўвазе філасофію падручнікаў, не ёсць сапраўдная марксісцкая філасофія» (Мераб Мамардашвілі).

Бракуе культуры дыялектычнага мыслення перш за ўсё тым, хто прывык атаясамліваць сябе з «вядучай і натхняючай» сілай. Як прагна вышукваюць яны спосабы падтрымліваць абывацеля ў перакананні, быццам эканоміку і культуру краіны давялі да крызісу менавіта перабудова, хаця татальную вайну з народам, з інтэлігенцыяй, з культурай, са свабодай творчасці і думкі (а гэтыя ж свабоды і ў аснове культуры эканамічнай!..) псеўдамарксісты павялі ў першыя ж дзесяцігоддзі Савецкай улады.

Калі пагадзіцца з Андрэ Мальро, што культура — «пэўная якасць свету, атрыманая ў спадчыну», дык і ведаць гэтую «якасць свету» трэба ўсебакова і глыбока. Яшчэ Чаадаеў патрабаваў у дачыненні да сацыяльна-гістарычных праяў строгага мыслення. На жаль, сёння такое мысленне — таксама дэфіцыт. Вось і не паддаюцца тыя ці іншыя праявы мінулага маляванню адной светлай або адной змрочнай фарбай (дастаткова спасылацца на дзейнасць У. І. Леніна або, скажам, на акалічнасці ўтварэння БНР). Толькі паўната праўды пра мінулае здольная забяспечыць рух у напрамку ісціны. Можа, нарэшце, цяпер паўстане карціна развіцця беларускай культуры такая, якой яна была на справе, з усімі яе супярэчнасцямі, без замоўчвання.

Канечне ж, пры стварэнні такой поўнай карціны наўрад ці плённыя ацэнкі з'яў без уліку канкрэтна-гістарычных абставін, аўтаматычная зме-

шу ж чалавечую скрозь мераюць па вышыні яе жаданняў, як пра саборы мяркуюць па вышыні іх званіц, а нашы жаданні ўсё часцей вяртаюцца да старога, старажытнарымскага: хлеба і відовішчаў! Адно, магчыма, і дадалося б цяпер: з маркаю вядомай замежнай фірмы...

Не толькі з горыччу гэта гавару, але і з болем. Ці ж я супраць таго, каб народ жыў лепей, сытней? Ні ў якім разе! Ведаю ж яго жыццё не па афіцыйных зводках ці чутках — сама так жыву. І ўсё ж...

Колісь, даўно напісаўся верш:

**Калі б чаго і папрасіла —**
**Не ў тых, з кім побач састарэць.**
**Не дай мне, Божа, страціць сілу**
**Раней, чым перастрэне смерць.**

**Не дай мне, Божа! Не зынячыць**
**Ні шляху, ні жыцця свайго,**
**І ты — Адзіны, для каго**
**Жыццё маё што-небудзь значыць.**

**Адзіны. На ўвесь белы свет.**
**Штодня, штогод усё відочней:**
**Які я ні пакіну след,**
**Яго сляпы натоўп затопча.**

**Сляпы ў сваім памкненні ўперад,**
**У будучыню... Бедны люд!**
**Не дай мне, Божа, страціць веру**
**У гэты люд, у гэты суд...**

Пагадзіўшыся, пагаджаючыся на любы суд (усё ж гэтыя гады, пры амаль поўнай адсутнасці беларускамоўнага чытача, пражыла, лічыце, у духоўнай эміграцыі: які пісьменнік — без чытача?), не магу не сказаць гэтага слова ў абарону культуры, у абарону паэзіі: ніякі іншы час не мае гэткай патрэбы ў паэце, як той, што мяркуе, быццам можа абысціся без яго. Тым больш — наш час, наша «цяпер», калі, здаецца, само жыццё адступаецца ад чалавека і душа чалавечая сцінаецца, дзеравянее, паддаючыся ржы абыякавасці і распаду.

Дзе ён сёння — Паэт? Чый голас чуцён у свісце, улюлюканні ці пагрозлівым маўчанні плошчаў?

«Спакой і воля. Яны неабходны паэту для вызвалення гармоніі. Але спакой і волю гэтаксама адбіраюць. Не знешні спакой, а творчы. Не свабоду ліберальнічаць, а творчую волю — патаемную свабоду. І паэт памірае, таму што дыхаць яму больш няма чым: жыццё страціла сэнс»,— з горыччу звяртаўся да суайчыннікаў Аляксандр Блок незадоўга да сваёй смерці, незадоўга да смерці Сяргея Ясеніна і Уладзіміра Маякоўскага, і яго — не пачулі. Будзе хлеб, будзе і песня! — апраўдваліся. І вось — ні хлеба, ні песні... Пустуюць тэатры і канцэртныя залы, гулка перакочваецца цішыня ў пустых канцэртных галерэях і музеях, пыляцца кнігі ў абакрадзеных самымі заядлымі чытачамі бібліятэках, дзеля валюты, а то і дзеля танных модных ануч вывозяцца за мяжу каштоўныя іконы і карціны, у неразумнай злосці разбураюцца помнікі — і ўсё менш спадзяванняў, што некалі апамятаемся, што апамятаемся.

Дэтэктыў, часам самы нізкапробны, фільмы жахаў, эротыка і пошлыя пасцельныя сцэны — вось і ўсё, чаго чакаюць, а то і патрабуюць сёння ад мастацтва, апускаючы яго да ролі наркотыка, што задавальняе самыя нізкія страсці, не разумеючы, што падобны масавы попыт — не проста дыктат рынку (дзе-дзе, а на ніве культуры ён прыжываецца хутка!), не проста салодкі плод забароненай раней «клубнічкі», а ваніты атручанага заходняю масаваю культураю арганізма. І хто запэўніць мяне, ці каго хочаце, што бескультур'е, адсутнасць хоць бы якога імунітэту супраць пошласці і прывабнасці гвалту не прывядуць да поўнага дзікунства?

Бездухоўнасць, як ракавая пухліна, раз'ядае душы, а лекаў можа і не знайсціся — ні для дзяцей, ні для ўнукаў... І не гаварыць трэба — крыкам крычаць пра гэту пагрозу, а крык перасядае ў горле: куды крычаць? Каму? Словы, якія выдзіраюцца з натоўпу, каб спыніць натоўп, ацверазіць яго, вяртаюцца камянямі: няма прарока ў сваёй Айчыне, няма...

Божа, як я прагну разумення, простага разумення!

Разумею: камяні кідаюць у тое дрэва, якое пладаносіць. Не разумею, адкуль у свеце столькі камянёў, чаму яны заўсёды трапляюць пад руку нягодніку ці зайздросніку.

Жахлівыя вынікі чарнобыльскай катастрофы, салёная чума Салігорска, шалёная гонка абагачэння за кошт народа (за наш з вамі кошт!), кароста злачыннасці, якая распаўзаецца па гарадах,— а чыесьці рукі зноў слепа, сутаргава намацваюць чарговы камень, што паляціць у лепшага з нас, у смялейшага з нас, і мы не б'ём па гэтых руках, мы чакаем... Чаго чакаем?

■

на «плюсоў» на «мінусы» і наадварот. Спараджаецца і тэндэнцыя неадэкватна ўспрымаць культуру эпохі сталіншчыны і застою, хаця, да гонару беларускай культуры, яна выстаяла, нягледзячы на нічым не заменныя страты, здолела набыць урокі вытрымкі, шукаць шляхі ўратавання мастацтва, роднай мовы.

Увогуле, многае залежыць ад пункту гледжання. Ці не занадта прывыклі мы кідаць на беларускую культуру нейкі «прыбеднены» пагляд? Канечне ж, вятры гісторыі былі мала спрыяльныя для нашай культуры. Аднак яна аказалася мацнейшай за іх.

Птушка беларускай культуры па-заўсёднаму ў палёце. Ураганныя вятры гісторыі — з усіх бакоў. А яна не проста падтрымлівае нейкае кволае сваё існаванне, але і сусветнай культуры нясе істотныя дары. Скарына!.. Купала!.. Багдановіч!.. Быкаў!.. Адамовіч!.. Караткевіч!.. Міхась Савіцкі!.. Вось і выходзіць, што ў аснове сваёй культура **непахісная**. Мабыць, так і трэба на яе глядзець. І не варта падштурхоўваць яе на шляхі па мадэлі закрытай культуры. Наўрад ці адпавядаюць самому духу моцнай беларускай культуры, якая ніколі ў гісторыі не была замкнёнай на сябе, хоць бы тыя ж заклікі абмежаваць завоз на Беларусь іншамоўных кніг, абмежаваць вывучэнне замежных моў на карысць роднай і да т. п.

У многім падобныя настроі тлумачацца шчырым жаданнем ўратаваць мову. Але на шляхах замкнёнага існавання і самой мовы — таксама няшмат карыснага. Любая мова толькі ўмацоўваецца ва ўзаемадзеянні з іншымі. Ёсць законы развіцця мовы. Мова не менш рухомая, чымся любая галіна культуры. І ў дачыненні да мовы ці не з пляча сячом? Ці задумваюцца прыхільнікі неадкладных змен у правапісе, што на нашых вачах узнікае яшчэ адна **канфрантацыя!** Можа варта даць шматпакутнай нашай мове трохі «ачухацца» ад усялякіх эксперыментаў (у тым ліку і з правапісам), даць ёй асталявацца ў новых умовах, каб паступова ўводзіць найнеабходныя змены, якія б адпавядалі яе жывой душы, а не суб'ектыўным памкненням прыхільнікаў той ці іншай «правапіснай арыентацыі?»

Мова — арганізм рухомы, арыентаваны наперад, у будучыню, а не ў мінулае. Лексічныя і стылявыя пласты, узварушаныя, скажам, прозаю Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Івана Пташнікава, паэзіяй Рыгора Барадуліна і іншых індывідуальнасцей, нададуць неўзабаве нейкую новую якасць роднай мове, паколькі гэта намаганні, для моватворчасці арганічныя. А вось тая штучная архаізацыя мовы, якая ўступае ў супярэчнасць з жывымі яе працэсамі, наўрад ці здольная прынесці плён. Тут ёсць над чым падумаць не спяшаючыся.

Нам у культуры, у тым ліку і ў моўнай, бракуе вытанчанасці. Тае, якая ёсць, напрыклад, у строгай графіцы прозы Васіля Быкава або Міхася Стральцова, у такіх розных светах жывапісу словам, як проза Я. Брыля ці В. Сёмухі (хоць апошні «толькі» перакладае), у паэзіі А. Разанава.

Усялякія пераўтварэнні ў культуры, у мове патрабуюць ашчаднасці. Павышаць узровень культуры (у тым ліку і культуры мовы) — справа марудная, якая патрабуе вялікай цярплівасці і пастаянных неаслабных намаганняў. Адміністраванне ж у галіне культуры і мовы здольнае прыводзіць да вынікаў, процілеглых самым добрым намерам.

Не забудзьма ж Максіма Багдановіча...

■



# СПАЎНЯЕЦЦА 100 ГАДОЎ ГЕНІЯЛЬНАМУ ПАЭТУ, КЛАСІКУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ, ПАДЗВІЖНІКУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ Максіму БАГДАНОВІЧУ

**«БЕЛАРУСЬ» ПРЫСВЯЧАЕ СВАЕ СТАРОНКІ ВЯЛІКАМУ ЮБІЛЯРУ**

# БЕЛАРУСІ ПАТРЭБЕН БЫЎ ГЕНІЙ — І ЁН СТАЎ ІМ

**Віктар КАВАЛЕНКА**

Бацька Максіма Багдановіча, Адам Ягоравіч, калі пісаў сваю працу «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў», не мог ведаць, што і ў дваццатым стагоддзі гэтыя «перажыткі» вельмі добра захаваюцца. Але ж менавіта так адбылося ў нашай краіне. Пачынаючы з канца дваццатых гадоў, ужо мала-хто цікавіўся рэальным зместам твораў класікаў беларускага Адраджэння. Навуковасць, непрадузятасць, проста жывая цікавасць у літаратуразнаўстве сталі лічыцца ледзь не заганай. Усё гэта замяніў сумна вядомы «класавы падыход», які да таго ж у асноўным прымяняўся не для аналізу мастацкіх твораў, а для ацэнкі сацыяльнага паходжання і асобы таго ці іншага пісьменніка. Прыклады яго паказалі Лукаш Бэндэ, Алесь Кучар, Міхась Клімковіч. Яны паклалі пачатак цэлай эпохі ярлыкоў і каінавых пячатак, што раз і, як здавалася, назаўсёды выкідвалі таго ці іншага пісьменніка з гісторыі літаратуры ды і з жыцця. Вось якія перлы прапаноўваў чытачу ў сваіх артыкулах Л. Бэндэ: «Чалавецтва падзелена на класы, а класы маюць процілеглыя інтарэсы, класы вядуць паміж сабою барацьбу, агульначалавечы пункт гледжання ёсць проста пазіцыя, за якую хаваецца філістэр, падобны да пустой кішкі» («Маладняк». 1930. № 6. С. 159). Трэба было шукаць вобраз ворага. І гэты вобраз не замарудзіў з'явіцца перад беларускімі «неистовыми ревнителями» (тэрмін Ю. Лібядзінскага) пралетарскай чысціні ў мастацтве. Той жа Л. Бэндэ раней пісаў: «Апошнія літаратурныя падзеі яскрава паказваюць, у якіх вопратках хаваецца вораг і чужая нам ідэалогія. Часамі вораг хаваецца ў вопратцы «Старога лесуна» з «тугою і самотай», каб у другім месцы... скінуць гэту вопратку і вышчарыць свой кантррэвалюцыйны лычы» («Маладняк». 1929, № 5—6. С. 101).

Чым жа не дагадзіў Максім Багдановіч, аўтар «Возера» («Стаяў калісь тут бор стары, /І жыў лясун у тым бары...»), «Лесуна» (аж тры вершы з такой назвай), «Хрэсьбін лесуна», «Пугача», «Старасці», Бэндэ і кампаніі? Думаецца, што якраз агульначалавечая значнасць сваёй творчасці, блізкай усім людзям, нягледзячы на іх «класавыя інтарэсы». Да таго ж ён дазволіў сабе памерці да вядомых падзей, і яго ніяк нельга было «прыцягнуць да адказнасці», змусіць пакаяцца, як гэта ўдалося зрабіць з Купалам у 1930 годзе. Калі «нашаніўцы» пад непасрэдным уздзеяннем крынічнай чысціні лірыкі беларускага паэта назвалі яго «песняром чыстай красы», яны і не здагадваліся, што тым самым дадуць у рукі «барацьбітоў за пралетарскае мастацтва» казырную карту. Пазней гэтая якасць, якая, дарэчы, з'яўляецца толькі адной з многіх граняў багатага светаўспрымання паэта, была ўзведзена ў абсалют і дала падставу для абвінавачванняў у «дэкадэншчыне» і «прапаведзі мастацтва дзеля мастацтва». Вывад быў зроблены. Цяпер заставалася знайсці, падабраць творы ці хаця б урыўкі, які б яго пацвердзілі. Яны знайшліся без асаблівых цяжкасцей. У «Апокрыфе» Багдановіч ад імя Хрыста задае пытанне: «Нашто каласы, калі няма васількоў?» І сцвярджае: «Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсць той спажытак дзеля душы». А ў «Апавяданні аб іконніку і залатару...» майстар Антон Корж, таксама «праваднік» аўтарскай думкі, кажа: «Прызнаць мы мусім, што каштоўнасць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм узрастае і толькі красою форм каштоўнасць тую мераць можна». З другога боку, пісьменнік-дэкадэнт, якім аб'явілі паэта, павінен быць песімістам. Таму пачынаюць пісаць аб «сусветным смутку» Багдановіча, яго «надломленасці» і «адарванасці ад працоўных мас». Прыкладаў таксама доўга шукаць не прыйшлося. Нападкі і абвінавачванні былі «акумуляваны» ў першым томе Малой Савецкай Энцыклапедыі (1937 г.), дзе мастаку быў вынесены канчатковы «вердыкт»: «Багдановіч — найбольш яркі выразнік буржуазнай інтэлігенцыі перыяду, які папярэднічаў Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Яго творчасць пранізана нацыяналізмам, поўная песімізму, безнадзейнасці і жаху перад жыццём. Паклоннік мастацтва дзеля мастацтва, Багдановіч адыходзіць у свет таямнічых гукаў». Гэта — міф аб Багдановічу 30-х гадоў у яго найбольш закончаным выглядзе.

Удар вульгарна-сацыялагічнай дубіны быў настолькі моцны, што яго вынікі адчуваліся і ў 60-я, і ў 70-я гады, калі пісалі аб «асобных элементах» дэкадансу ў творчасці беларускага паэта, ужо не з «праведным гневам», а з лёгкім дакорам. Але гады ішлі, і з 50-х гадоў пачынае стварацца новы міф пра Максіма Багдановіча: цяпер яго творчасць прызнаецца «цалкам рэалістычнай». Такім чынам Багдановічаву спадчыну баранілі ад навязаных «бэндэўцаў» і нібы даравалі ёй амністыю, адкрывалі дарогу да чытача. З гэтага часу парупіліся забыць і пра «мастацтва дзеля мастацтва». І пра «сусветны смутак». Багдановіч аказаўся непапраўным аптымістам, і прыкладаў таму зноў-такі знайшлося процьма:

**Будзь жа, век малады,**
**Поўны светлымі днямі!**
**Пралятайце, гады,**
**Залатымі агнямі!**

Што датычыць поглядаў на ролю мастацтва, то ў яго спадчыне адшукалі выказванні, дзе гэта роля тлумачылася якраз у патрэбным аспекце: «Наша пісьменнасць неразвітая і каравая, але вялікім пачуццём напоўнена ўсё яе цела, не на грашовых справах трымаецца яна і ніколі не пойдзе чысціць боты капіталу!». Асаблівую ўвагу звярнулі на цыкл «З песень беларускага мужыка» і на «Вершы беларускага складу», якія адзін час нават лічыліся «вяршынай творчасці» пісьменніка.

Стварыўся другі міф пра Багдановіча: ён ледзь не цалкам выйшаў з фальклору і ішоў да рэвалюцыі, але гэтаму, як вядома, перашкодзіла заўчасная смерць.

Мы зусім не збіраемся драматызаваць сітуацыю, заяўляць, што «багдановічазнаўства» цалкам аказалася ў залежнасці ад міфаў, што ў даследаванні Багдановічавай спадчыны нічога не зроблена — гэта было б несправядлівым у адносінах да М. Грынчыка, А. Лойкі, А. Кабаковіч, Р. Бярозкіна, Н. Ватацы.

І ўсё ж, здаецца, прыйшоў час разгледзець тыя светапогляды, эстэтычныя і паэтычныя асаблівасці яго творчасці ў шырэйшых суадносінах з сусветнай паэтычнай культурай, што па прычыне зусім не літаратурнага характару слаба даследаваліся альбо атрымлівалі аднабаковую ацэнку. Вядома, гэта не спрыяла «вяртанню» беларускага паэта да чытача. А як нам сёння патрэбен Багдановіч — дзеяч Адраджэння, патрыёт і гуманіст. Ды і ці адзін? Прыйшла, нарэшце, пара вывучаць сапраўдных, а не «міфалагізаваных» Купалу, Коласа, Бядулю, Чорнага — падзвіжнікаў нашай літаратуры.

Літаратурная дзейнасць Максіма Багдановіча — менавіта падзвіжніцкая. Гэта штодзённы, руплівы, нястомны працэс стварэння новай беларускай літаратуры. Ён, жывучы далёка ад радзімы, меў з ёю якуюсь тэлепатычную сувязь. Беларусі патрэбен быў геній — і ён стаў ім. Багдановіч, можа, як ніхто, востра адчуваў, што надышоў час вывесці нацыянальную літаратуру на «сусветны» ўзровень, даказаць, што беларусы — «не абсевак у славянскім полі». Для гэтага трэба было даць узоры самых розных тэм, вобразаў, памераў, форм, паставіць вехі на ўчастках, на якіх пасля давядзецца працаваць іншым. Вось чаму такім шматтэмным, стылёва разнастайным атрымаўся «Вянок», яго адзіны прыжыццёвы зборнік.

«Вянок» пачынаецца вельмі важным для агульнай філасофскай і эстэтычнай канцэпцыі аўтара цыклам «У зачарованым царстве». Гэта зварот да жыцця продкаў, да сівой даўніны, да часоў, калі «нашых дзядоў душылі абшары лясоў».

«Дэманалогія» Купалы ўзнікае на іншай, чым у Багдановіча, светапогляднай аснове. З шэрагам яго міфалагічных вобразаў выразна звязана тэма зла, у тым ліку сацыяльнага. Яго міфалогія, па сутнасці,— гэта сучаснасць Беларусі, яе сённяшні дзень. Мінулае і сучаснае сплецена ў адзін клубок. Багдановічавы ж нячысцікі ў большасці сваёй безабаронныя і няшчасныя таму, што сіла іх — у далёкім мінулым, цяпер яны проста дажываюць свой век.

Да таго ж героі «Зачараванага царства» звычайна знаходзяцца ў летаргічным стане: «Ноч шапоча русалкам «Засніце», «І ўсё навокала сном адвечным спіць». Сон сімвалізуе тут не мару, не летуценне, а своеасаблівую неабходную ступень паміж жыццём і смерцю. Не выпадкова ў цэнтр цыкла аўтар змяшчае верш «Самнамбул», у якім сон ператвараецца ў смерць:

**...Але месяц правеў праз раку светлы шлях.**
**І развеяўся з сэрца дрыжачага жах.**
**Зіхацела яна — серабра пуціна,**
**Увадзіла ў той край, дзе пануе вясна.**
**Доўга, доўга цябе ён чакаў і шукаў,**
**Але вось час жаданы нарэшце настаў...**
**І пайшоў ён па шляху, пайшоў аж да дна:**
**Агарнула яго цішыня, глыбіня.**

Дарэчы, гэты верш, як правіла, выпадаў з поля зроку даследчыкаў. Яго «нязручнасць» — у эстэтызацыі смерці, якую «дапускае» паэт, а ад гэтага быццам бы ўжо «аддае» дэкадансам.

Тэма самагубства ў паэзіі Максіма Багдановіча ўзнікае зусім не выпадкова. Успомнім, што ў 10-я гады XX стагоддзя па Расійскай імперыі пракацілася хваля самагубстваў, выкліканых бязвер'ем і адсутнасцю ідэалаў у моладзі. У 1910 годзе пакончыў з сабою ва ўзросце 20 гадоў таленавіты беларускі пісьменнік С. Палуян, блізкі сябар паэта. Не дзіва, што Багдановіч яшчэ раз падыходзіць да жудаснай тайны дабраахвотнага расставання чалавека з жыццём у апошнім вершы цыкла «Места»:

**Калі патрыцый смерць з прыветам спатыкаў,**
**Прабіўшы жылы на руках,**
**Дрыжэлі спевы флейт, дзень ясны дагараў,**
**А праз акно струёю вецер павяваў**
**І... міндаловы горкі пах...**

У аўтабіяграфічным рамане «Жыццё Арсеньева» І. Бунін пісаў: «Людзі зусім неаднолькава чуйныя да смерці. Ёсць людзі, што ўвесь век жывуць пад яе знакам, з маленства маюць абвостранае пачуццё смерці (часцей за ўсё ў сілу такога ж абвостранага пачуцця жыцця)...» Вось да такіх людзей належаў і Багдановіч. З ранняга ўзросту ён ведаў аб сваёй невылечнай хваробе, а за кароткі жыццёвы шлях перажыў нямала смерцяў родных і блізкіх яму людзей. Што ж дзівіцца з таго, што сярод філасофскіх твораў Багдановіча сустракаюцца вершы, ад якіх сапраўды часам вее безнадзейным песімізмам:

**...І чаму паспяшаліся так,**
**Напружаючы ўсе свае сілы,**
**Калі ціха паўзушчы чарвяк**
**Усё ж дагнаў нас ля самай магілы!**

Але ці ўсё так проста і змрочна ў светапоглядзе беларускага мастака? Па-першае, у тэме смерці Багдановіча няма напружанасці, «запаленасці», якія можна сустрэць у творах таго ж Буніна. Тут можна выказаць думку аб тым, што культурная «напоўненасць» лірыкі пісьменніка як бы аддаляе і затушоўвае непасрэднасць пачуццяў і перажыванняў, зноў-такі эстэтызуе іх. Ва ўсякім выпадку, так здараецца з тымі паэтамі, што маюць за плячамі вялікі культурны багаж. Так, Б. Пастарнак пытаецца ў сучаснікаў: «Какое, милые, у нас/Тысячелетье на дворе?». А В. Мандэльштам мог сумнявацца: «Неужели я настоящий, /И действительно смерть придет?»

Па-другое, у Багдановіча досыць многа вершаў, прасякнутых любоўю да жыцця, захапленне ім. Большасць крытыкаў з гэтай нагоды пісала аб «пераадольванні» паэтам песімістычных настрояў. Але, калі ўважліва прыгледзецца да тых твораў беларускага паэта, у якіх ён услаўляе жыццё, то можна заўважыць, што смерць прысутнічае і ў іх, хоць і адышоўшы на задні план:

Заканчэнне на 12-й стар.

Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча Інстытут літаратуры АН РБ падрыхтаваў Поўны збор твораў паэта ў 3 тамах, які ў 1991—1992 гг. выйдзе ў выдавецтве «Навука і тэхніка». Упершыню ў такім аб'ёме будзе прадстаўлена чытачу творчая спадчына нашага выдатнага паэта, празаіка, крытыка, публіцыста.
У апошні, 3-ці, том мяркуецца ўключыць летапіс жыцця і творчасці М. Багдановіча. У працы над летапісам, апрача добра ўжо вядомых, былі выкарыстаны матэрыялы, выяўленыя апошнім часам, дзякуючы настойлівым і мэтанакіраваным пошукам супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Усе яны значна пашыраюць і дапаўняюць наша веданне аб жыцці і творчасці паэта.
Прапануем вашай увазе фрагменты летапісу.

# «ГЭТА ЁСЬЦЬ ФУНДАМЕНТ НАШАГА АДРАДЖЭНЬНЯ! ГЭТА І ЗА ТЫСЯЧУ ГОДАЎ БУДЗЕ СЬВЕДЧЫЦЬ АБ НАС!..»

Максім БАГДАНОВІЧ.

## 1891

**ЛІСТАПАД, 27 (9 снежня).**

У Мінску на былой Аляксандраўскай вуліцы ў доме Карказовіча (цяпер вул. М. Горкага) у сям'і настаўніка Адама Ягоравіча Багдановіча і яго жонкі Марыі Апанасаўны Багдановіч (Мякота) нарадзіўся другі сын — Максім (першы — Вадзім, нарадзіўся 6 сакавіка 1890 г.). (Богданович А. Материалы к биографии Максима Адамовича Богдановича.— Рукапісны фонд ІЛ АН РБ, адз. зах. 28, л. 11).

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Я — крестьянин. Отец мой, Юрий Лукьянович, был крепостным, дворовым, повар по профессии...

Что касается моей матушки Анэли, то... она была прекрасной рассказчицей народных сказок,— дар, несомненно, поэтический,— унаследовав эту способность частично от своей матери Рузали Казимировны Осьмак, обладавшей этим даром в высокой степени...

По этим сказкам Максим ознакомился впервые с белорусской речью. Она знала на память множество белорусских песен и вообще была носительницей и хранительницей народной старины...

...Мать Максима звалась Мария Афанасьевна по отцу Мякота, по матери, Татьяне Осиповне,— Малевич...

...как живой, богато одаренный способностями ребенок с роскошными волосами, она обратила на себя внимание попечительницы приюта губернаторши Петровой, которая взяла ее к себе в дом и посылала учиться в женское Александровское училище, а по окончании в нем обучения отправила ее в Петербург в женскую учительскую школу...

Это дало ей возможность получить основательное образование. Притом она много читала. Ее письма поражали и меткостью наблюдений, и живостью, и картинностью языка...»

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 2—8.

Бацька паэта, Адам Ягоравіч,— беларускі этнограф, фальклярыст, мовазнавец.

## 1892

**СЯРЭДЗІНА ЧЭРВЕНЯ — ЛІПЕНЬ.**

Сям'я Багдановічаў пераязджае ў Гродна пасля прызначэння Адама Ягоравіча на працу ў Гродзенскім аддзяленні Сялянскага банка.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Жили на окраине города, на Новом Свете по Садовой, занимали квартирку в последнем доме слева... Условия для воспитания детей были благоприятные: на дворе садик, кругом сады, поля, неподалеку лес, да и Неман недалеко. Дети все время на чистом воздухе, климат мягкий».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 19.

## 1893

**СНЕЖАНЬ, 29.**

У неафіцыйнай частцы «Гродненских губернских ведомостей», № 102, надрукавана апавяданне Марыі Апанасаўны Багдановіч «Накануне рождества» з подпісам: М. Б.

## 1894

**ЛІСТАПАД, 14.**

У сям'і Багдановічаў нарадзіўся трэці сын — Леў. (Богданович А. Материалы к биографии..., л. 11).

У Гродне асобнай брашурай выдаецца гістарычны нарыс А. Я. Багдановіча «Про панщину».

## 1895

**КРАСАВІК, 23,— ЖНІВЕНЬ.**

Марыя Апанасаўна разам з дзецьмі Вадзімам, Максімам і Лёвам адпачывала ў вёсцы Вяззе (непадалёку ад Асіповічаў).

З ліста Марыі Апанасаўны да Адама Ягоравіча ад 24 красавіка: «Выехали мы вчера 23 апреля в 4 часа дня из Минска... Левушка всю дорогу спал, заснул под конец и Максим, только Вадим наслаждался природой... Дети все и я совершенно здоровы; плохо только, что немного холодновато, и мы с Левой сидим в комнате, а Максима доктор велел не закупоривать и не обращать внимания на насморк и кашли, а держать побольше на чистом воздухе».

З ліста ад 3 мая: «Мы здесь все, слава богу, здоровы... наши — молодцы: целый день все молока да молока, едят за двоих, загорели как цыгане и в комнату ни на шаг... Вадима и Макса я обтираю холодной водой ежедневно утром и вечером. Вадя дается охотно, а Максима так приходится и упрашивать, и наказывать — боится холодной воды, хоть ты что».

З ліста ад 29 мая: «На троицу также ездили со всеми детьми в Орчу на прогулку на двух возах; ездить ребята любят, что и сказать тебе не могу. Вообще здесь им не житье, а масленица. Едят хорошо, по-людски только вечером, когда знают, что уж пора идти спать, а в другое время, хотя бы и обед, схватят кусок ветчины, хлеба, блина, оладьи в руку и пошел, а за столом ни за что не усадить; станешь заставлять — в слезы. Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски, и иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались».

Фонды ЛММБ.

У Гродне выдаецца кніга А. Я. Багдановіча «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Этнографический очерк».

## 1896

**МАЙ, 30.**

У сям'і Багдановічаў нарадзілася дачка Ніна. (Богданович А. Материалы к биографии..., л. 11).

**КАСТРЫЧНІК, 4.**

Ад сухотаў ва ўзросце 27 гадоў памірае маці Максіма Марыя Апанасаўна.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «...за 4 дня до смерти, потрясаемая приступами кашля, в промежутках она силилась что-то радостное напевать тонким, как волосик, голосом и говорила, что ей не жаль так безвременно умирать.

— На что мне долгая жизнь, коли я была так безмерно счастлива...».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 11—12.

**СЯРЭДЗІНА ЛІСТАПАДА.**

Сям'я Багдановічаў пераязджае на сталае жыхарства ў Ніжні Ноўгарад.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Вскоре после смерти жены состоялся приказ о моем переводе в Нижний (25 октября 1896 г.), куда я уехал с семьей в половине ноября. Заменить моим детям мать взяла на себя обязанность моя сестра Мария Георгиевна...

...Почти ежедневно я брал детей с собой на прогулку в сады, летом на Волгу, на берег Оки или за город, в рощу и поля... Затем я брал по очереди детей с собою в поездки на осмотры и оценки земель — иногда продолжительные...

В Нижнем, Москве и других городах я их водил в картинные галереи и музеи».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 20—22.

## 1897

**ЛЮТЫ.**

Памірае малодшая сястра Максіма — Ніна. (Даведка аб выплаце грошай за пахаванне Н. Багдановіч ад 10 лютага.— Фонды Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея).

## 1899

На пачатку года Адам Ягоравіч ажаніўся з Аляксандрай Паўлаўнай Волжынай, роднай сястрой жонкі М. Горкага Кацярыны Паўлаўны Пешкавай.

У канцы года Аляксандра Паўлаўна ў час родаў памірае, нарадзіўшы сына Аляксандра. Шурык выхоўваўся ў сям'і Пешкавых, памёр у 4-гадовым узросце ад дызентэрыі.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «По смерти моей второй жены... тяжелый труд заменить дважды осиротелым детям мать взяла на себя Александра Афанасьевна, их родная тетка по матери. Впрочем, на ней лежал чисто внешний надзор за детьми, особенно во время моих частых поездок... на осмотры и оценки земель, воспитание и обучение их лежало полностью на мне...».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 20.

Паводле ўспамінаў Мікалая Рыгоравіча Агурцова, загадчыка літаратурнага аддзела яраслаўскай газеты «Голос» у той час, калі ў ёй супрацоўнічаў М. Багдановіч, паэт расказваў яму: «Меня воспитывал отец. Как-то я показывал вам его библиотеку. В ней все есть существенное, что появлялось когда бы то ни было в литературе всего мира. Мы с детства проходили эту мировую школу. Отец начинал, с чего начинает каждый народ в своем творчестве, с эпоса. Мы уже в детстве знали «Рустема и Зораба», «Илиаду», «Калевалу», былины и пр. и пр. Потом мы приступили к лирике и драме. Конечно, главное внимание обращалось на славянские литературы...»

БАГДАНОВІЧ М.
Творы. Т. 2. Мн., 1928, с. XXXI.

## 1900

**ЛЕТА.**

Сям'я Багдановічаў у сувязі з захворваннем на сухоты старэйшага сына Вадзіма едзе «на кумыс» у вёску Кара-Якупава Уфімскай губерні.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Жили в деревне Кара-Якупово (близ ст. Чишмы Уфимской губ.) в большой башкирской избе. Весь день в степи, где ребята выслеживают сусликов в их походах скопом, организованных за добычей, птиц степных, собирали серебряный ковыль с нежными усиками, цветы и ягоды или же бродили в роскошной пойме реки Демы...»

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 26—27.

## 1901

Сям'ю Багдановічаў у Ніжнім Ноўгарадзе наведвае хросная маці Максіма Вольга Епіфанаўна Сёмава, начальніца народнага вучылішча ў Пінску. Максім паказвае ёй свае першыя творы на беларускай мове.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «И дома, и у теток он (Максім) слышал рассказы и воспоминания про родную старину, где выныряли разные лица и события, своеобразные, загадочные, так непохожие на все окружающее. Здесь он слышал и белорусскую сказку, и белорусскую песню с ее грустным, манящим напевом, полным глубокого неисчерпаемого чувства, здесь же вырывалась живая белорусская пословица, меткие «крылатые» слова. Это, конечно, были крупицы, крохи, но он чутко их подбирал, схватывая на лету... И хотя в семье господствовала русская речь, но чувства, но вкусы, но склонности, но привычки, переживания в корне, в основе белорусские... Дело началось с чтения белорусских сказок, которые сначала я сам читал детям вслух, а затем Максим начал их читать самостоятельно. Он увидел в этом средство научиться белорусской речи, которую был лишен возможности усвоить по слуху из уст семьи, из уст народа. Это решение было его личным делом, совершенно самостоятельным... Свои опыты писания на белорусском языке он начал очень рано, приблизительно с 10—11 лет... Но это были чисто ученические или, вернее, учебные упражнения».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 64—65.

## 1902

Максім паступае ў першы клас Ніжагародскай мужчынскай гімназіі.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «В это время директором гимназии был Сергей Васильевич Щербаков, мой друг и приятель Максима Горького. Это был один из крупнейших общественных деятелей, связанный дружескими отношениями со всеми выдающимися людьми, которыми был так богат Нижний Новгород... Трудно было желать лучшего руководителя для школы.

Максим был принят как свой в семье Щербаковых, семье высоко интеллигентной и музыкальной. Это, конечно, имело немаловажное образовательное значение...».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 36.

## 1906

### ДРУГАЯ ПАЛОВА ГОДА.

Вольга Епіфанаўна Сёмава выпісвае для Максіма газету «Наша доля», пазней яна ж выпісвае «Нашу ніву». (Богданович А. Материалы к биографии..., л. 65).

### КАНЕЦ ГОДА.

Максім перадае ў Ніжагародскую турму беларускія кніжкі і газету «Наша доля».

З ліста М. Багдановіча ў рэдакцыю «Н. н.» ад 21.10.13 г.: «У № 42 «Н. н.» бачу стаццю Сцяпана Зенчанкі. «Стефан Зенченко» судзіўся ў Ніжнім Ноўгарадзе па вялікаму працэсу, так званаму «сормовскому восстанию», быў паміж падсудзімых (выключна рабочых) вельмі прыкметным чалавекам і нават гаварыў ад іх імені на судзе. Пачуўшы, што Зенчанка — беларус, я пераслаў у турму да яго колькі першых беларускіх кніжак і «Нашу долю»... Аднак далей наша знаёмства не пайшло...». (ЦБ АН Літвы. 21—38) (    ). Вопіс лістоў 5—6).

## 1907

### ЛІПЕНЬ, 6(19).

Упершыню ў друку («Н. н.», № 24) з'яўляецца твор М. Багдановіча — алегарычнае апавяданне «Музыка», з подпісам: Б-віч Максім.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «В «Нашей ниве» впервые появились в печати его стихи, не помню, в 1906 или 1907 г. Но ясно помню его радость в лице и сверкающие живым огоньком глаза, когда он, вбежав в мою комнату, показывал мне напечатанными свои стихи. Это было в Нижнем, на Канатной улице, в доме Павловой. Понятна эта радость. Тут не только говорило самолюбие, столь свойственное молодости, видеть свое имя в печати, но и нечто большее: сознание, что подготовительные труды были не бесцельны, что он, оторванный от родины, заговорил о своих чувствах ее языком, хотя бы и не совсем чистым, пусть даже картавым, но это дело все исправляющего времени, а пока есть куда притулиться и дать исход накопившимся чувствам и смутным мечтам о далекой таинственной родине: гукнуть издалека — и услышать созвучный отклик».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 66.

## 1908

### ПАЧАТАК ЧЭРВЕНЯ.

Сям'я Багдановічаў пераязджае на сталае жыхарства ў Яраслаўль. Максім пераводзіцца ў шосты клас яраслаўскай гімназіі. (Богданович А. Материалы к биографии..., л. 45).

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Максим попрежнему очень мало интересовался уроками и занимался самостоятельно и конечно, главным образом, белоруссикой...

...По-видимому, ни с кем из товарищей у него не было особенно близких отношений, кроме Диодора Дмитриевича Дебольского... Почти никто у него не бывал. Он же сам или занимался в своей комнате, или сидел в Пушкинской библиотеке, читая свежие журналы...».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 49—50.

З успамінаў Д. Д. Дзябольскага: «Жили Богдановичи всегда неподалеку от гимназии... Максим с младшим братом Левой всегда жили в отдельной и светлой комнате. Обстановка самая скупая — две железные кровати, два стула и перед окном большой, самый простой, из плотно сбитых досок стол... Левая сторона стола — Максима, на ней неизменный словарь Карского (памылкова, трэба — Насовіча)...»

ДЕБОЛЬСКИЙ Д.
Воспоминания. (Машынапіс).— Фонды ЛММБ.

З успамінаў Ціхана Мікалаевіча Годнева: «...у 1908 г. у наш клас прыйшоў новы вучань, які прыехаў з Ніжняга Ноўгарада. Навічка звалі Максім Багдановіч.

Сціплага, выхаванага, таварыскага, яго адразу палюбіў клас. Ен уразіў нас веданнем літаратуры, разуменнем літаратурных і грамадскіх з'яў. У пытаннях літаратуры ён быў на галаву вышэй за ўсіх нашых медалістаў.

На занятках гуртка Максім прачытаў многа рэфератаў. У маёй памяці захавалася толькі некалькі з яго шматлікіх дакладаў: «Новыя павевы ў рускай літаратуры», «Сучасная літаратура і народны рух», «Сімвалізм і дэкадэнцтва»...

На адных занятках гуртка Максім зрабіў даклад пра беларускую паэзію. Ен пазнаёміў нас з развіццём беларускай літаратуры, з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі і іншых. У гэты вечар Максім упершыню прачытаў некалькі сваіх вершаў на беларускай мове». (Шлях паэта, с. 100—101).

У Львове выдаецца кніга ўкраінскага вучонага Іларыёна Свяціцкага «Відродження білоруського письменства», у якой упершыню ў крытычнай літаратуры сустракаецца імя Максіма Багдановіча. Аўтар цытуе апавяданне «Музыка».

## 1909

### СТУДЗЕНЬ, 1(14).

У газеце «Н. н.», № 1, надрукаваны верш «Над магілай», з паметкай: Ніжні Ноўгарад. Пад вершам подпіс: Б-віч.

З успамінаў Вацлава Ластоўскага, на той час супрацоўніка рэдакцыі: «...Максім Багдановіч прыслаў некалькі лісьцікаў сваіх вершаў, падпісаных поўным уласным прозьвішчам і імем. Вершы для кождага нумару «Нашай нівы» падбіраў Янка Купала... Павіннасьцю Я. Купалы было папраўляць іх перад здачай у друк. Друкавалі-ж адзін-два вершы кождага новага «паэты», каб заахвоціць яго да пісаньня. Былі ці не былі зроблены якія праўкі ў вершах «Над магілай» і «Прыдзе вясна», я не памятаю, можа памятае сам Я. Купала, але гэта былі адны з першых вершаў і надрукаваныя пад праўдзівым прозьвішчам і імем аўтара».

ЛАСТОЎСКІ В.
Мае ўспаміны аб М. Багдановічу.— Крывіч, Коўна, 1926, № 11/1, с. 63.

### ПАЧАТАК ВЯСНЫ.

М. Багдановіч захворвае на сухоты.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «Напряженная деятельность и по занятию белорусской литературой и революцией, хотя последнее было чистейшей детскостью, и чтением для самообразования не прошла бесследно и для Максима...»

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 30.

### МАЙ, 7(20).

У газеце «Н. н.», № 19, надрукаваны пераклад верша Ю. Святагора «Дзве песні». Пад вершам подпіс: Максім Крыніца. Яраслаўль на Волзе.

З успамінаў В. Ластоўскага: «Дзьве песні пайшлі ў друк з папраўкамі ў мове Я. Купалы, але з іншым подпісам: у корэктуры Ядвігін падпісаў верш прыдуманым ім для Максіма Багдановіча псэўдонімам «Максім Крыніца».

ЛАСТОЎСКІ В.
Мае ўспаміны..., с. 63.

### КАНЕЦ ЖНІЎНЯ.

З вершамі М. Багдановіча знаёміцца Сяргей Палуян, на той час супрацоўнік рэдакцыі.

З успамінаў В. Ластоўскага: «...вершы былі ізноў «дэкадэнцкія», і дзеля гэтага трапілі ў тую ж папку, дзе быў папярэдні сшыток з надпісам «В архив». Там яны пралежалі да канца жніўня, калі іх выцягнуў на сьвет С. Палуян, які, прачытаўшы вершы, з надзвычайным захопленьнем стаў бараніць іх сьпярша перад Ядвігіным, а пасьля перад «верхняй палатай», з радоў якой за надрукаваньне некаторых вершаў першы высказаўся Чыж, а пазьней А. Луцкевіч».

ЛАСТОЎСКІ В.
Мае ўспаміны..., с. 63.

## 1910

М. Багдановіч блізка знаёміцца з сям'ёй свайго аднакласніка Рафаіла Какуева.

З успамінаў Д. Дзябольскага: «В последние гимназические годы Максим познакомился с семьей своего одноклассника Рафаила Кокуева и стал часто в ней бывать, подружившись не столько с братьями Кокуевыми, Рафаилом и Николаем, сколько с двумя их сестрами — Анной Рафаиловной и Варварой Рафаиловной. Они учились в женской гимназии и с Максимом были примерно одногодки. Обе хорошо знали языки и были очень привлекательны, в особенности Анна, стройная, с тонким лицом и хорошими темными глазами. Весной Максим почти каждый вечер бывал у них; на большом дворе кокуевского дома по вечерам шла игра в городки. Максим был увлечен игрой необыкновенно и с восторгом о ней рассказывал. В строках о «городках» в «Веронике» я сразу же узнал его рассказы о городках в весенние светлые вечера на дворе Кокуевых».

ДЕБОЛЬСКИЙ Д. Воспоминания.

## 1911

### ЧЭРВЕНЬ, 1.

М. Багдановіч заканчвае Яраслаўскую гімназію («Аттестат зрелости» М. Багдановіча.— Дзярж. архіў Яраслаўскай вобласці, ф. 557, воп. 1, адк. зах. 90, л. 3) і збіраецца паступаць на філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта.

З успамінаў А. Я. Багдановіча: «...Максим имел со мной беседу относительно выбора факультета. Он заявил мне, что хочет поступить в Петербургский университет на филологический факультет... Сверх того, он прибавил, что проф. Шахматов обращался в Вильно в редакцию «Нашей нивы» с просьбой рекомендовать ему молодого человека, который бы под его руководством посвятил себя изучению языка, этнографии и истории Белоруссии для подготовки к занятию специальной кафедры по белорусоведению; далее он заявил, что рекомендовали именно его и что он этого хочет, к этому стремится. Я... был вынужден решительно не согласиться на этот проект... и тем самым факультет был для него предрешен: он, хотя нехотя, был вынужден поступить в Ярославский юридический лицей...».

БОГДАНОВИЧ А.
Материалы к биографии..., л. 50—51.

### СЯРЭДЗІНА ЧЭРВЕНЯ.

З успамінаў В. Ластоўскага: «У чэрвені месяцы прыехаў М. Багдановіч у Вільню. Пры першай сустрэчы з ім мне ўразіліся яго вочы з даволі пранікліввым поглядам, але, калі ён гаворачы запаляўся, вочы яго глядзелі не на зьне, а ўнутр, быццам былі зьвернуты ў мозг.

Праездам у вёску М. Багдановіч прабыў двое содняў у Вільні. Абедзьве ночы начаваў у рэдакцыі «Нашай нівы»... Абедзьве ночы я правёў разам з ім, і кожды раз гутаркі нашы зацягваліся ад зьмярканьня да сьвітаньня.

Багдановіч дзяліўся сваімі думкамі і з захопленьнем пераймаў ад мяне мае ведамасьці з беларускай (крыўскай) этнографіі і гісторыі, якія я пераказваў яму, як умеў, дэмонструючы быўшыя пры рэдакцыі калекцыі Івана Луцкевіча. Асабліва глыбокае ўражаньне на Багдановіча зрабілі рукапісы старасьвецкіх славянскіх кніг і дакументаў, а также слуцкія паясы, якія ён па некалькі разоў пераглядаў.

«Гэта ёсьць фундамент нашага адраджэньня! Гэта і за тысячу годаў будзе сьведчыць аб нас!» — казаў М. Багдановіч аб помніках нашай старасьвецкай культуры...

М. Багдановіч прыехаў у Вільню ўжо як актыўны і сьвядомы працаўнік беларускага (крыўскага) адраджэньня, глыбей сягаючы думкай у будучыню нашага народу, чым мы, працаўнікі, згрупаваныя ў цэнтры. Гэтыя яго думкі аб адраджэньні і былі галоўнай тэмай нашых начных бясёд».

ЛАСТОЎСКІ В.
Мае ўспаміны..., с. 64—65.









# ПРЫГАДАЛА ЯЛТА МАКСІМА




## У БЕЛЫМ ДОМЕ ЛЯ СІНЯЙ БУХТЫ

Божухна, скуль такая несправядлівасць! Мог жа захавацца ў Ялце гэты невялікі двухпавярховы дамок. Поруч столькі будынін куды больш старога веку. Але яны стаяць, як і стаялі сабе дзесяць, пяцьдзесят, сто гадоў назад. Гэты ж, што калісь належаў Марыі Цямко, знік даўно. А ён жа, здавалася б, насуперак усяму павінен стаяць, бо там, на другім паверсе, правёў свае апошнія дні Максім Багдановіч. Пасяліўшыся, ён ліставаў стрыечнаму брату па бацькавай лініі П. Гапановічу: «Знайшоў добры пакой з самастойным ходам, вокны на мора, цудоўны краявід, паўдня свеціць сонца, ёсць балкон, вакол дома сад...»

Няма дамка, не засталося саду, і толькі паэтавы радкі, апошнія, перадсмяротныя, як бы ўзрываюць само наваколле. Быццам не ў памяці яны ўзнікаюць, неадначы чытаныя, а вырастаюць з самой нематы, з той вечнасці — маўклівай, самотнай і пастаянна загадкавай, якую, відаць, ніколі нам не разгадаць і да канца не спасцігнуць, бо яе падзяляе жыццё і смерць:

> У краіне светлай, дзе я
> ўміраю,
> У белым доме ля сіняй
> бухты,
> Я не самотны, я кнігу маю
> З друкарні пана Марціна
> Кухты.

Хтосьці кладзе на асфальт гваздзікі. Са́ма б панласці васількоў, ды не тутэйшых, а беларускіх. Толькі дзе іх тут, у Ялце, возьмеш, тым больш у маі. Хвіліна маўчання, калі можна застацца сам-насам са сваімі думкамі і адначасна з ім, Багдановічам. І тут, на месцы колішняга дамка М. Цямко, і каля дома, дзе да рэвалюцыі знаходзіўся пансіянат на малочнай ферме пад назвай «Шалаш» — там паэт лячыўся ў 1909 годзе, пад час свайго першага прыезду ў Ялту. Цяпер гэты дом пад нумарам два на вуліцы, якая носіць яго імя.

Дарога ж вядзе далей, уверх, да апошняга Максімавага прыстанішча. Па ёй везлі цела паэта пасля адпявання ў царкве Аляксандра Неўскага. Не было каму парупіцца, каб знайсці на гарадскіх могілках лепшае месца. Капалі магілу на самым ускраі, як прызнаваўся Максімаў бацька, Адам Ягоравіч, які неўзабаве наведаўся сюды: «ліўні і патокі з другога боку могілак лёгка маглі размыць магілу». Наняў вартаўніка, даў грошай М. Цямко. Міналіся гады... Цяпер магіла Максіма ці не ў самым цэнтры могілак. Сціплы помнічак, лаканічны надпіс...

Магчыма, гаварыць аб свяце беларускай культуры, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча, што прайшло сёлета ў Ялце, трэба было б па традыцыі, як і раней, пачаць з урачыстых момантаў, якіх пад час яго было нямала... Магчыма... Ды не забудзем — яно адбывалася ў маі, дні, калі паэта не стала. А яшчэ... Бадай, пара ўжо адысці ад пампезнасці, калі справа тычыцца жыцця і творчасці тытанаў духу, а ў адносінах да М. Багдановіча — і тытанаў Адраджэння. Яны ж, жывучы на гэтай грэшнай зямлі, не маглі не задумвацца і над тым, што адбудзецца пасля, калі вочы назаўсёды закрыюцца, цяжкія кавалкі зямлі ўпадуць на труну, праводзячы тым самым рэзкую мяжу паміж тым, што было, і тым, што будзе.

Самы час і нам, жывым, задумацца, а дзе гэта лепей рабіць, калі не там, на магіле Максіма, дзе неўпрыкметку ў тваёй душы пачынаюць нараджацца згадкі аб вечнасці прыроды і тваім, такім маленькім у параўнанні з ёй, існаванні. Жыццё М. Багдановіча пранеслася каметай на небасхіле і быцця, і літаратуры, але след гэтай каметы настолькі яркі, што яму свяціць не толькі нам, а і нашым нашчадкам. Заўсёды, пастаянна, нязменна...

У час Багдановічаўскага свята гэтая думка пастаянна і праводзілася. І пад час яго адкрыцця ў Ялцінскім драматычным тэатры імя А. П. Чэхава, калі вуснамі народнай артысткі Рэспублікі Беларусь да прысутных, здавалася, звярнуўся сам паэт: «Вершы, вершы дарагія! Спарадзіў я вас маленькіх у час, калі мне падымала грудзі хваля пачуцця. І няхай яно з вас знікла, хай збляднелі вы, засохлі: усё ж вы будзіце мне згадкі, і за гэта дзякуй вам! Не абміне і чытач вас...». І на выстаўцы, прысвечанай жыццю і творчасці М. Багдановіча, якую супрацоўнікі яго Літаратурнага музея з Мінска прывезлі ў сцены Ялцінскага дзяржаўнага аб'яднанага гісторыка-літаратурнага музея. І на сустрэчы ў ялцінскай сярэдняй школе № 10, у якой прайшоў Багдановічаўскі ўрок, а вучні ўзялі шэфства над магілай Максіма-Кніжніка. І ў санаторыі «Беларусь», што ў Місхоры, дзе адпачывалі дзеці з чарнобыльскай зоны... І на шматлікіх прадпрыемствах, на якіх з поспехам прайшлі выступленні фальклорнага ансамбля «Свята»...

У свяце прыняла ўдзел прадстаўнічая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам міністра культуры У. Гілепам. У яе ўвайшлі старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку А. Бутэвіч, В. Каваленка, А. Лойка, В. Іпатава, Г. Пашкоў, В. Зуёнак... Былі гэта не ранейшыя, як кажуць, вясельныя генералы. Усе яны расказвалі шмат пра Максіма Багдановіча, гаварылі аб тым, як дзякуючы дэмакратыі адраджаецца беларуская нацыянальная культура, збываецца тое, пра што марыў паэт, выказваючы ўпэўненасць: народ беларускі дачакаецца «залацістага яснага дня».

Па вечарах, свабодных ад мерапрыемстваў, вабіла кожнага мора. Стоячы на набярэжнай, гасцям прыгадвалася сіняя бухта, якая поруч, і ён — Максім. Малады, акрылены і знясілены цяжкай, невылечнай хваробай, які быццам легендарны Страцім-лебедзь зграяў, аддаючы сябе без астатку народу, дзеля якога жыў і тварыў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

● По вечарах вабіла кожнага мора...

● Дарога да апошняга Максімавага прыстанішча.

● На сустрэчы з чытачамі — пісьменнік А. Лойка і старшыня Дзяржкамдруку рэспублікі А. Бутэвіч.

● Ля незабыўнай магілы.

● У Ялту прыйшло свята беларускай культуры.

Фота Уладзіміра КРУКА.





НАШ ВЕРНІСАЖ

# ПА МАКСІМАВЫХ СЦЕЖКАХ



Нягледзячы на рознасць творчых метадаў і почыркаў мастакоў, удзельнікаў рэспубліканскай выставы, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, якая праходзіць гэтымі днямі ў Палацы мастацтва, яднае імкненне асэнсаваць жыватворную сілу зямлі. Зямлі, што дала крылы Паэту, чыя светлая, поўная любові да яе лірыка ўзвышае і ачышчае душу. Духоўнае спасціжэнне радзімы, асэнсаванне вобразаў паэта, сувязей яго з прыродай, часам, асяроддзем характэрныя для большасці жывапісных, графічных і скульптурных твораў, адметных імкненнем аўтараў знайсці новыя пластычныя прыёмы, свежыя інтанацыі і аспекты ў адлюстраванні задумы.

— Мастак, як і паэт,— родам з маленства,— гаворыць Уладзімір Тоўсцік.— Менавіта ў маленстве ён знаходзіць мелодыю сваёй будучай творчасці, з дзіцячых уражанняў складае вобраз радзімы, сэрцам запомніўшы водар яе кветак і траў, спевы птушак і шум лясоў. Не выпадкова і ў кампазіцыю карціны «Нараджэнне паэта» я ўвёў дэталі, якія маглі суправаджаць Максіма ўсё жыццё: патухлую свечку, галінку лілеі, апошнія промні сонца на рачной вадзе. Дадаў і элементы класічнага арнаменту — яны дапамагаюць стварыць паэтычны настрой, рэмінісцэнцыю стылю мадэрн, характэрнага для таго часу. У пэўным сэнсе гэта карціна — працяг маёй даўняй работы «А сэрца ўсё гукае да бацькоўскага краю...»

Яшчэ раз прайсці Максімавымі сцежкамі, палюбавацца мілымі яго сэрцу беларускімі краявідамі, пастаяць над Нёманам, падзівіцца на яркія зоркі ў цёмным небе, нібы пачуўшы знаёмае: «Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог...» — ці ж гэта не азначае ўшанаваць памяць паэта? Магчыма, выстава не толькі ажывіць Максімавы мары-летуценні, але і не адно сэрца напоўніць яго прагай да жыцця, яго болем і трывогаю за будучыню Бацькаўшчыны, яго вераю ў тое, што «старадаўняй крывіцкай пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць...»

І ўсё ж не палымяны рэвалюцыянер, не мужны і загартаваны баец у вобразе, знаёмым са школьных падручнікаў, паўстае перад наведвальнікамі выставы, а мяккі, чуйны, інтэлігентны чалавек, бясконца адданы ідэі адраджэння роднага краю, цвёрды ў перакананнях і бяссільны перад злым лёсам. Такім мы бачым яго і на карціне М. Чэпіка, дзе паэт і горды Страцім-лебедзь, душа якога «як ястраб дзікі, што рвецца ў неба на прастор», і «бальны бяскрыдлы паэт», матылёк, што згарэў у агні свечкі...

А так хочацца думаць, што ён, Максім Багдановіч, і сёння, калі адраджаецца надзея дачакацца «залацістага яснага дня», з намі. Марамі сваімі. Болем сваім. Вераю сваёю ў лёс Беларусі.

**Барыс КРАПАК.**

● **М. СЕЛЯШЧУК. Сон.**

● **М. ЧЭПІК. Паэт.**

● **У. ТОЎСЦІК. Нараджэнне паэта.**



# У ВЯНОК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Зноў прыходзіць будучы юрыст
На халодны бераг рускай рэчкі
І складае ў думках доўгі ліст,
Ліст бясконцы
і амаль што вечны.

Ліст-малітву,
ліст — амаль праклён.
Бо на боль адказвае любоўю,
І Расея — як трывожны сон
Перад гэтым беларускім болем.

І сама душа — як ліст, які
Напісаў выгнаннік на Радзіму.
Непаразумення крыж — цяжкі,
Як мундзір, чытальніку Максіму.

Толькі ўсё ж праз словы можа ён
І праз думкі — быці тым, кім хоча.
І таму каханне і праклён —
Кожны верш, юнацкі і прарочы.

Божа мой!
Няўжо і ўсё жыццё
Будзе марай,
светлай і кароткай?
...А ў грудзях гарыць,
гарыць касцёр,
Ільдзяны,
як хвалі соннай Волгі.

Віктар ШНІП

## БАЛАДА ДУШЫ БАГДАНОВІЧА

Далёка-далёка ля сіняга мора
Душа не знаходзіць спакою зямнога.
І чайкай лятае над сумным прасторам,
І просіць спагады —
не вечнасці — ў Бога.
Душа на радзіму даўно б паляцела,
Ды кінуць не можа паэтава цела,
Якое зямлёю ўжо стала сырою,
Даўно адшумеўшы самотнай травою.
Нялёгка знайсці да магілы сцяжыну —
Далёка-далёка, як сонца, Айчына,
Дзе разам змяшаліся шчасце і гора
І воран крыляе над пыльным прасторам,
А ў пыле смяротная дрэмле пакута.
У Храмы заходзіць сучасны Іуда
І моліцца Богу, не любячы Бога,
І ведаць не хоча нікога, нікога,
Тым болей паэта, які на чужыне
Быў верным гаротнай, нявольнай
Айчыне.
Ды ёсць яшчэ людзі, што мараць
пра волю
І помняць паэта, ягоную долю,
І хочуць вярнуць на радзіму Максіма
З чужога, далёкага, тлумнага Крыма...
...Душа на радзіму даўно б паляцела,
Ды кінуць не можа паэтава цела.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



Багдановіч, ратуй,
Ад знікнення ратуй, ад нямоты.
Пачуццём тым гаючым ратуй,
Праз якое ты быў не самотны.

Багдановіч, даруй,
Што ў цябе мы вучыліся мала —
Мы да Коласа йшлі чарадой,
Нас выводзіў у людзі Купала.

Багдановіч, пачуй,
Як знясіленым лебедзем слова —
Беларускае слова! —
Над магілаю кружыць Стральцова.

Багдановіч, вартуй
Кожны крок наш і рух недарэчны...
Хай загадка твая
Застаецца загадкаю вечнай.

1988.

Іван ДРАЧ

## ПАГОНЯ — ад Максіма Багдановіча

Што мне ў тых белаўспененых конях?
Што ж відзежа жахлівасцю тне?!
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Гул дратуе і хмарыць мяне.

Я ж не здрадзіў Бацькоўскаму Краю,
Не прадаў ні на кроплю Дняпра,
Дык чаму ж у палон забірае
Розум мой віратоку быстра?!

Ноч пятрова раз'ятрыць маланку
Чадам роспачы й дымам кляцьбён,
З пекла ночы да сівага ранку
Ныюць грудзі ў пагоні, як звон!

Можа ўсё, што мяне абамшыла —
Лёстак петлі, дастатку шляя?!
Дык мячом харалужным — не шылам —
Бі мяне, каб ацяміўся я.

Вынішч нечысць маю, выпаль жарам,
Скапыці, прагрымі, пратапчы,
Пад тваім грамападным ударам
Я здрыгаюся ў стогне ўначы!

Ачышчэнняў надзея бажэе,
Прагнеш быць, дык быццё разапні.
А пагоня бліжэе, бліжэе
Дзесь з прадоння душы, з глыбіні.

Храпы ў пене і срэбная збруя.
Б'юць ламы капытоў вечны лёд.
Мне б каня — і падацца хачу я
За Пагоняю следам наўзлёт.

Запрапасці, прапасці ў тых конях —
Хто свой лёс на скаку абміне?!
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Гул дратуе й ратуе мяне...

З украінскай мовы пераклаў
Рыгор БАРАДУЛІН.

Рыгор **БАРАДУЛІН**

## ЧЫТАЕ ВЕРА РЫЧ «ПАГОНЮ»

Ля помніка, што ў стольным Менску,
Чытае Вера Рыч «Пагоню»,
Ад асалоды па-блазенску
Лацвей зажмурыцца сутонню.

Нібыта за спіной папаску
Трымае ў сумцы маладзіца,
І развінаецца па-наску
На Тэмзе шытая спадніца.

З чарнобыльскага чаду цвёрда
Насустрач маладому лету
На ветразевай мове лорда
Гаворыць Багдановіч свету,

Што быць сляпымі немагчыма,
Што цемры трэба нішчыць ловы.
*Рыч,*
*Ракуцёўшчына,*
*Радзіма —*
Пярун качае ў горле словы.

## СВЯТЛО

«Кінь вечны плач свой аб старонцы!
Няўжо жа цёмнай ноччу ты
Не бачыш...»,
Як вясёлы стронцый
Дабавіць хоча віднаты.
І слаўгарадцы, і расонцы —
Зямлі ўчарнобленай браты
Жывыя свецяцца,
Як здані —
Аж бачаць іншапланецяне,
Што вышчарбленае святло
Чало старонцы абвіло
Вянком пакуты.
Ён не вяне.

## «Ў КРАІНЕ СВЕТЛАЙ...»

Беларусь, як далягляд,
Далёкая,
А хвароба блізкая такая.
Радасць асцярожлівай палёўкаю
У нару панурасці ўцякае.

Ён няродны,
Ён халодны спёкаю
Бераг урасоленага Крыма.
Дзе ты, слова крывічоў
Высокае?
Чым далей, яна мілей,
Радзіма.

І спяшаецца здалёк
Як сцежка вольная
Да паэта
Гамана застольная:
— А як паня ды ўдава
Паехала па драва,
Зачапілася за пень,
Прастаяла цэлы дзень,
Каб ня тыя панічы,
Прастаяла б да начы,
Каб ня тыя кавалеры,
Прастаяла б да вячэры...

З гаманы
Пускаецца ў галоп паніч,
*А прыгожы,— як Юры святы.*
Аб карчы скакун збівае капыты,
Да паэта
Галяпуе з-пад Халопеніч.

Маладзік узыдзе,
Неба багну новячы,
Матылёк,
Як марная парада, ўеецца.
Сум-туга Максіма Багдановіча
Лесуну ў сырым бары
Перадаецца.

УПЕРШЫНЮ Ў «БЕЛАРУСІ»

Яўгенія **ПФЛЯЎМБАЎМ**

## МАНАЛОГ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА

Няма ў нас часу на трагедыі,
На драмы «душ зачараваных»,
Няма й любові, ўжо даведзена,
Нас на мякіне не падманеш.

І юнакі глядзяць паблажліва,
З усмешкаю заўчаснай спеласці:
У вас каханне штосьці важыла,
А нам дадзела, нам прыелася...

І боль, і смуткі блізкай ростані,
І вочы з радасці праменныя,—
Як вы жылі з такой каростаю,
Без антысептыкаў адменных?

У нас у цэлафан загорнуты
І сэрца і душа, так званыя,
А смутак гэта, калі зборная
Прайграла ў матчы нечакана...

. . . . . . . . . . . . . . . .

А я люблю, і смутак горнецца
Перасцярогаю нявольніцтва,
А я люблю, і пошасць гэтую
Душы жаночай запаветую.

## ПРАЛОГ

Досыць, досыць церабіць
Сны гадкоў пазбытых!
Смак гаркоты перабі,
Выпі акавіты.

І ў цябе ж яно было,
Шчасце, хоць крутое,
Але ломіцца вясло,
Як вяслуюць трое.

Хто вясло ў вадзе зламаў?
Прамаўчалі хвалі,
Расхісталася карма,
Човен не прычаліў.

Ды жыццё — яно цячэ
Па сваіх законах,
То не муляе плячэй,
То да роспачы пячэ,
То ўскладзе карону.

Не навучаны насіць
Можа з тропу збіцца,—
Лепш калі не даясі,—
Дапівай вадзіцай.

Сама горай перасыт
І ў душы, і ў роце...
Заціскайце ж паясы!
І не толькі для красы,—
Так лягчэй на ўзлёце.

## ПЕСНЯ

Як хвалюе душу гэта песня ўначы,
Што абудзіць, агорне знянацку,
Калі свет веснавы ціха лёг
на спачын,
Каб за росквіт на досвітку брацца,

Калі возера спіць з адлюстроўкай
нябёс,
Дрэмлюць зоры на сцішаных хвалях,
І сцяжына святла прабягае наўкос,
І мянёныя сыпле крышталі.

А дзявочая песня гучыць і цурчыць,
Да акна прыпадае з тугою,—
І няклікана боль мой ужо не маўчыць,
Цісне сэрца усёю вагою.

## ЧАС АПАДАЎ

Цэлы год, не прабіўшыся,
слёзы жылі —
Чысты зрок пільнавалі,
Дык чаму ж яны зараз
ручвом паплылі —
Не стрывалі.

Намнажаецца боль, сёння,
заўтра ўсё больш,
А кіруецца ж лёс за адхоны,
І штодня ўсё ніжэй нахіляецца столь,
І нямее рука абароны.

Глухне, глухне спагада —
Час ападаў.

## СЮРПРЫЗ

Дарагі мне сюрпрыз
Я трымала ў руках задрыжэлых,
Дарагі мне сюрпрыз,—
Дабрыня Ваша ў ім зіхацела.

Дабрыня — вышыня,
Ды не кожны яе дасягае,
Я хачу Вас абняць,
І гады мае мне дазваляюць.

Я хачу ў Новы год,
Што залоціць пад сонцам яліны,
Пажадаць Вам у шчасце ўзыход
І святога натхнення часіны.

# БЕЛАРУСІ ПАТРЭБЕН БЫЎ ГЕНІЙ — І ЁН СТАЎ ІМ

Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.

**Пралятайце вы, дні,**
**Залатымі агнямі.**
**Скончу век малады,—**
**Аблятайце цвятамі...**

Светлы пачатак не выключае трагічнага і наадварот. І не аб «пераадольванні» тых ці іншых настрояў у творчасці Багдановіча трэба гаварыць, а аб спалучэнні двух вызначальных пачаткаў, аб іх вечнай барацьбе. У філасофскай лірыцы беларускага паэта надзвычай недаўгавечнымі і нетрывалымі аказваюцца ўцехі жыцця. Не выпадкова ў адным з яго вершаў з'яўляецца антычны дэвіз «Disce mori» — «вучыся паміраць»:

**Усё мінулася — і боль, і гора,—**
**Усё кудысь далёка адышло;**
**Але строгі надпіс «Disce mori»**
**Нагадае, што з табой было.**

Багдановіч, па сутнасці, падыходзіць да экзістэнцыяльнага погляду на жыццё: менавіта блізкасць смерці дае магчымасць адчуць «момант ісціны» чалавечага лёсу. Гэта тое ж імкненне «перажыць у момант век», гэта цыкл «Каханне і смерць», дзе жыццё ходзіць поруч са смерцю.

Але побач з даволі змрочным адчуваннем кахання як «страсти роковой» у лірыцы Багдановіча можна сустрэць і зусім іншае. Ён стварыў дзівосна чыстыя і прыгожыя ўзоры інтымнай паэзіі, дзе галоўным стрыжнем з'явілася не сіла пачуццяў, а ціхая і сумная замілаванасць: «Раманс» («Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»), «Вераніка», «Ізноў пабачу я сялібы...», «Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы...» Дзякуючы гэтаму, да нядаўняга часу існаваў зноў-такі міфалагізаваны вобраз Багдановіча — цнатлівага юнака-рамантыка. Ці так гэта? Не бяромся меркаваць, як было ў жыцці, але ў творчасці паэта побач з «бязгрэшнымі» творамі існуе напісаны ў 1908 ці 1909 годзе — даволі рана — цыкл «Эрас», які таксама даследчыкі звычайна не хацелі заўважаць. Яшчэ б!

**Зірнуў, як між валос, між хмар калматых,**
**цёмных**
**Чырвоны маладзік.**
**І ўраз згадаў мне рад уздыхаў прыглушоных,**
**І мук любоўных крык,**
**І цела гібкага шалёнасць, ізвіванне,**
**І п'яны, душны пах...**

Для беларускай паэзіі, якая толькі падыходзіла да інтымнай тэматыкі, верш нават не зусім прыстойны. Але ў цэлым гэты і яшчэ адзін твор (усяго іх два) з цыкла «Эрас» добра пераклікаюцца з тагачаснай «эратычнай» паэзіяй Салагуба, Бальмонта, Брусава.

Тэма кахання, ды і тэма чалавечага жыцця наогул вельмі цесна звязана ў Багдановіча з тэмай зорак. Зоркі як канкрэтызуюць паняцці вечнасці, Сусвету. «Падымі ўгару свае вокі!» — раіць паэт свайму чытачу. Ён, бясспрэчна,— самы «зорны» паэт Беларусі ўсіх часоў. Можна нават сказаць, што без гэтай тэмы — тэмы зорнага неба — Багдановіч не быў бы Багдановічам. Ад знакамітай «Зоркі Венеры» да не менш славутага верлібра «Я хацеў бы спаткацца з Вамі...»:

**...Бачыце гэтыя буйныя зоркі,**
**Ясныя зоркі Геркулеса?**
**Да іх ляціць наша сонца,**
**І нясецца за сонцам зямля.**
**Хто мы такія?**
**Толькі падарожныя,— пакутнікі сярод нябёс...**

І нават пра свае вершы ён сказаў:

**...І вее верш мой дзіўнай казкай,**
**І ясны ён, як зорак сны.**

Зоркі, месяц часта ўвасабляюць для Багдановіча нейкі ідэальны свет, свет чысціні і гармоніі, да якога няўцямна імкнецца чалавек. Гэта вельмі блізка да сімвалізму, да ідэі «двоемирия» Ул. Салаўёва. Успомнім, што нават перыядычныя выданні гэтага літаратурнага напрамку насілі назвы сузор'яў: «Весы», «Скорпион». Але ёсць у паэта і іншае. Сусвет можа аказацца раўнадушным і нават жорсткім да чалавека:

**...Вы пэўны пуць казалі, зоры,**
**Зарука ў тым — трэск карабля,**
**Што сеў на скалы ў змрочным моры.**
**Прывет, жаданая зямля!**
**І бестрывожна бачаць зоры,**
**Як тонуць людзі з карабля.**

Гэты верш — таксама не з тых, што любяць заўважаць даследчыкі. Ён, на першы погляд, дысгармануе з «зорнай тэмай» Багдановіча. Але і ён невыпадковы ў светапогляднай сістэме паэта. Твор зноў-такі гаворыць аб напружанасці філасофскіх пошукаў беларускага мастака, аб імкненні вызначыць вытокі трагічнага лёсу чалавека. Гучыць матыў адзіноцтва і бездапаможнасці людскога роду перад тварам Сусвету.

Роздум над лёсам чалавека, над сэнсам яго існавання прыводзіў многіх мастакоў пачатку XX стагоддзя да вывадаў аб катастрафічнасці жыцця, аб канцы свету, Багдановіч таксама многае прадбачыў і многае прадказаў. Яго пяру належыць, магчыма, самае змрочнае прароцтва аб лёсе Беларусі ў XX стагоддзі: «...І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сляды... Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх...»

Як бачым, шмат якія творы Багдановіча нязменна выклікаюць шэраг літаратурных асацыяцый. Не можа не зацікавіць у гэтым плане і праблема адносін мастацтва да жыцця ў паэтычнай інтэрпрэтацыі беларускага мастака. Справа ў тым, што Багдановіч ясна заявіў аб прымаце мастацтва над жыццём, тым самым як бы выказаўшы адзін з запаветаў Брусава юнаму паэту: «... поклоняйся искусству, /Только ему, безраздумно, бесцельно». Зрэшты, тыя ж словы Багдановічавых герояў — Хрыста і майстра Каржа — паслужылі яшчэ пры жыцці мастака, каб голасна абвясціць яго «песняром чыстай красы». Сапраўды, краса для Максіма Багдановіча катэгорыя ледзь не абсалютная, той Бог, якому ён гатоў будаваць алтары і прыносіць ахвяры:

**...А матылёк ужо не б'ецца:**
**Табе ахвяра ён, краса!**

Не выпадкова ў тым жа вобразе Хрыста Багдановіч як бы аб'ядноўвае рэлігійны і эстэтычны пачатак. Трэба сказаць, што наогул боскае ў беларускага паэта заўсёды асацыіруецца зноў-такі з культурнай спадчынай (найяскравейшы прыклад — Багдановічавы Мадонны). «Чыста» рэлігійных твораў у яго спадчыне небагата — хіба што «Цемень» ды абразок «Юдава поле», які прыпісваецца Багдановічу. Бог заўсёды прысутнічае ў мастацкім свеце паэта, але ён раствораны ў красе жыцця, мастацтва, словам, гаворка ідзе аб тым светлым, пантэістычным пачатку, што заўсёды прысутнічае ў спадчыне вялікіх майстроў.

Дарэчы, вельмі парадаксальна, што ў «песняра чыстай красы» само паняцце прыгожага даволі «размытае». Беларускія вучоныя і да гэтага часу не прыйшлі да адзінага меркавання аб выказваннях Багдановіча накштал «пекна спявоюць і жабы» ці аб прыгажунях-ластаўках, якія «гняздо зляпілі з бруду». Можна было б «даравацъ» яму гэта, калі б такія «нечаканасці» сустрэліся раз-другі. Але беларускі паэт надзіва ўпарта паўтарае і вар'іруе думку «прыгожае — з гразі жыцця». Вось хлопчык каля ганка хапае рукою прыгожыя, шматфарбныя мыльныя пузыры — і «застаецца ў ёй адна слата». Вось «адваротны ход»: у цёмную ракавіну пападае пясчынка — і робіцца пярлінкаю. У адным з санетаў Багдановіча чытаем:

**Цяпер нават здаволена багно:**
**Гніль сотні год збіраючы, яно**
**Смуродный жыжкаю узгадавала**
**Цвятоў расістых чыстую красу.**

І нават у наследаванні Жану Марэасу:

**...Асфальт істоптаны**
**з канаўкамі па краю**
**Дзеля памый... Такі мой шлях,**
**ідучы к раю.**

У чым жа тут справа? Можа, у цікавасці да пэўных момантаў ідэйна-мастацкай сістэмы акмеізму? Максіму Багдановічу ў яго творчасці былі больш блізкімі выразнасць і мера ў апісаннях, дакладнасць кампазіцыі, якіх дамагаліся акмеісты, чым «расслабленасць» вершаванай структуры сімвалісцкай паэзіі. У яго лірыцы мы выразна бачым імкненне да той «цудоўнай яснасці», якую дэкларавалў М. Кузьмін. І яшчэ. Характэрнай рысай паэтыкі акмеізму, па нашых назіраннях, з'явілася своеасаблівае «ўдакладненне» ці «заземленне» паэтычнага вобраза. Калі прыхільнікі гэтага літаратурнага напрамку пісалі аб тым, што аддалена ў часе ці прасторы, ці аб тым, што наогул цяжка апісаць (гук, пах), яны імкнуліся даць параўнанне, якое б канкрэтызавала вобраз, як бы набліжала яго да чытача. У Кузьміна: «Сладелая фиалка запах тычет, /Как слепец костыль...» У Гумілёва: «Смерть пришла, и предложил ей воин / Поиграть в изломанные кости...» У Ахматавай знешнія, здавалася б, выпадковыя, рухі раскрываюць стан духоўнай роспачы лірычнай гераіні: «Я на правую руку надела / Перчатку с левой руки...»

Вось гэта «заземленне», наогул блізкае да імпрэсіянізму, даволі часта сустракаецца ў Багдановіча. Хмара для яго — «панурая, вялізная жывёла», шорхат дажджу — гэта «шорах ног павукоў, /Аплятаючых сцены і дах», месяц — «ўвесь чырвона-жоўты, быццам/ Пугачова вока». Цікава параўнаць апошні вобраз з вершам Ул. Нарбута: «Луна, как голова, с которой/ Кровавый скальп содрал закат...» Гэта ўжо «ілюстрацыя» да яшчэ адной «запаведзі» акмеізму, выказанай С. Гарадзецкім: «Пасля ўсялякіх «[illegible] прыняццяў» свет беспаваротна прыняты ак[illegible] мам ва ўсёй сукупнасці хараства і пачварна[illegible]. З гэтага часу «безобразно» толькі тое, што «безобразно» («Аполлон». 1913, № 1, С. 47). Вось з гэтым «крэда» акмеізму, з творчай практыкай Ул. Нарбута і М. Зянкевіча зусім лагічна збліжаюцца «антыэстэтычныя» вобразы Багдановіча, якія ён настойліва падкрэсліваў і якія сведчаць аб натуральнасці яго самаадчування ў тагачаснай паэтычнай культуры.

Зрэшты, тэзіс аб мастаку, які сваім талентам ператварае грязь жыцця ў з'яву эстэтычную, падтрымлівалі не толькі акмеісты. Возьмем верш Багдановіча з цыкла «Думы», які, на нашу думку, носіць праграмны характар:

**...Калі ў дух мой западзе і заварушыцца**
**Там кавалак грубага жыцця,—**
**У жомчуг звернецца ён сілай пачуцця!**

Яшчэ нядаўна даследчыкі творчасці Максіма Багдановіча маглі б жахнуцца, параўнаўшы гэту цытату з творчым крэда аднаго з самых «праклятых» сімвалістаў — Фёдара Салагуба: «Бяру кавалак жыцця, грубага і беднага, і твару з яго салодкую легенду, бо я — паэт». Амаль даслоўнае супадзенне! Сёння, калі сімпатызаваць сімвалізму ўжо не грэх (прызнана, што гэты буйнейшы літаратурны напрамак не ўціскае[illegible] ні ў рамкі мадэрнізму, ні тым больш дэкада[illegible]), трэба сказаць, што Багдановіч зусім не імкну[illegible] пераймаць што-небудзь у Салагуба, ці ў Брусава, ці ў Блока, ці ў Кузьміна. Як сказаў Б. Пастарнак, «сам час быў сімвалістам». Можна было б дадаць — і акмеістам, і футурыстам. Паэзія беларускага мастака, з аднаго боку, адкрывала новыя шляхі нацыянальнай літаратуры, з другога — аб'ектыўна ўбірала ў сябе вельмі няпростыя праблемы жыцця і творчасці парубежжа XIX—XX стагоддзяў. Усе гэтыя тэмы ў іх глыбокай філасофскай напоўненасці былі ўласцівы творчасці Максіма Багдановіча. Ён тварыў па законах свайго часу, ідучы па шляху высокай эстэтызацыі беларускай літаратуры. Ён свядома «аддаваў» паэтам з «гушчы» сялянскага народа Беларусі шлях ад фальклору (хоць паспытаў і гэты напрамак, паставіўшы вяху «Вершамі беларускага складу»), а сам — у адзіночку! — зайшоў з другога боку. Культурныя каштоўнасці, сусветная інтэлектуальная спадчына, моц чалавечага духу, гуманістычная традыцыя сусветнай літаратуры — вось што ўваходзіла разам з Багдановічам у нацыянальнае Адраджэнне. Але «веквавукадаў» (В. Мандэльштам) не адчуваў патрэбы «будзіць людзей к свету, брацтву і свабодзе». Затапталі сляды босых ног Хрыста на беларускай зямлі. Імя Багдановіча і ідэі Адраджэння дасюль шырока не ўвайшлі ў наша жыццё. Дык ці не пара аднавіць сувязі часоў і пайсці наперад — да культуры, да Хрыста і брацтва — ды прыйсці тым самым да таго, чаго дамагаўся Максім Багдановіч?



ЗЕМЛЯКІ

# БАЛАДА ПРА ЗАСНАВАЛЬНІКА «ПОЛАЦКА»

Калі хто-небудзь з кліўлендскіх беларусаў памяне Сяргея, то ўсе ведаюць, што размова ідзе пра Сяргея Карніловіча, чалавека з вялікім і добрым сэрцам.

Быць бы Карніловічу святаром не менш як у полацкай Сафійцы, альбо ігуменіць у Жыровіцкім манастыры. Такі ён ахвярны, аддадзены людзям і справе, высакародны і набожны. Ды не. Не ў Беларусі ж жыве — сярод беларусаў Амерыкі. Не святар — проста душою светлы. Да таго ж на надужых плячах трымае сваю — амерыканскую «Полаччыну», ды і хапае яму нядзельных набажэнстваў у беларускай кліўлендскай царкве Жыровіцкай Божай Маці.

Сяргею было гадоў трынаццаць, калі давялося «паспытаць» і палон, і раненне, і сіроцтва. Другая сусветная вайна правяла хлопчыка дарогаю ад Докшыц да Нямеччыны. Потым быў шанц вярнуцца. Але Сяргей выбраў Амерыку.

Кожную раніцу паўтараецца адзін і той жа сюжэт — Сяргей сядзіць сярод вэрхалу папер, вопраткі, раскрытых сумак і чытае, думае ці піша. Асяроддзе самотнага чалавека дапамагае лепш думаць пра надзённыя клопаты свайго «Полацка» — гуманітарна-культурнага асяродка тутэйшых беларусаў. І не толькі. Трэба сабраць грошы і купіць медыкаменты для хворых ад чарнобыльскай радыяцыі. Трэба пабудаваць грамадскі цэнтр, наладзіць выданне часопіса, падтрымаць адраджэнскі рух на Бацькаўшчыне. Трэба...

Усё, што трэба, Карніловіч робіць. Каб адбылася сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Каб вылечыць хворае дзіця з Мазыра. І каб паехаць урэшце ў старажытны Полацк і Жыровічы.

Шчаўчок фотаапарата не прымусіў Сяргея падняць галаву і не перабіў яго ных думак.

Ён думае пра Беларусь.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
Фота аўтара.

# ПА СТАРОНКАХ СТАРЫХ ЧАСОПІСАЎ

БЕЛАРУСКІ

ЛЕТАПІС

Культурна-Грамадзкі і Літэратурны Месячнік

№ 2-3 СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ 1937 г. ГОД II



Максім Танк

Імя Наталлі Арсеньевай даўно прыцягвае ўвагу прыхільнікаў беларускай паэзіі. І толькі апошнім часам — часам аднаўлення забытых або сцёртых старонак з кнігі гісторыі і культуры Беларусі — мы маем магчымасць пазнаёміцца з яе творамі. «Беларусь» у № 3 за гэты год апублікавала вялікую падборку вершаў Н. Арсеньевай.

Паэтка — нашчадак роду Арсеньевых, з якога, як вядома, паходзіў і М. Лермантаў. Нарадзілася ў Баку, але сваёй сапраўднай бацькаўшчынай лічыць Беларусь, бо менавіта тут адбылося яе станаўленне як асобы і як творцы.

Але паэтычная зорка Наталлі Арсеньевай, якая ярка і хутка ўзышла на літаратурным небасхіле, на доўгі час знікае з поля зроку беларускага чытача — па волі лёсу яна, як вядома, стала ахвярай палітычнага супрацьстаяння. Паэтка аказалася на чужыне, усё далейшае яе жыццё звязана з Амерыкай. «...Пасля колькіх дзесяткаў гадоў, пражытых у Амерыцы, пасьля новых udaраў долі, новых сьмерцяў, новых сьлёзаў — я азіраюся сёньня назад,— піша яна.— Іду напярэймы мінуламу. І дарма, што ўсе крыўды, беды, магілы, я зьвяртаюся да свайго жыцьця без жалю, адно з ціхай просьбаю:

Жыцьця няшмат ужо дарогі.
Штораз цямней, цішэй наўкола,
Дык дай мне роднага парога
Даткнуць, пакуль замкнецца кола».

Тэма нашай сённяшняй публікацыі — прыезд Н. Арсеньевай у Вільню ў 1937 годзе. З нагоды прыезду паэткі была наладжана вечарына, у якой прыняў удзел Максім Танк.

«Беларускі летапіс» змясціў верш паэта, прысвечаны Н. Арсеньевай, некалькі яе вершаў і артыкул пра творчасць гэтых паэтаў.

Тагачасны правапіс у публікацыі захоўваецца.

**Прадмова і публікацыя**
**ст. навуковага супрацоўніка**
**ЦДАМЛМ РБ Алены ПІСЬМЯНКОВАЙ.**

**БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС. Культурна-грамадзкі і літэратурны месячнік.**
Студзень — люты 1937 г.



**Наталья АРСЕНЬНЕВА**

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСЬНЯ

Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў,
І над жоўтай іржою асін у парванай асеньняй адзежы
Горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.

Гэтак ціха й чароўна — прыгода ў белых абоймах туманаў.
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць.
Скуль бяруць вечары гэты змрок, так густы й серабраны
і ці-ж можна у словах іх чар нязвычайны аддаць?

Але прыйдзе мой дзень і знайду я патрэбныя словы,
Словы тыя, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе,
Буду ўмеці чмялямі гусьці ў раззалочаным цьвеце ліповым
і шаўковай шасьцець асакой на зялёнай бліскучай вадзе.

Усё папраўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
Усе памылкі, ўсе ўзьлёты зьлічу і расою рассыплю ў лагох,
Доўг жыцьцю заплачу: рэшту з добрага й рэшту з благога
Пастараюсь аддаці яму, хоць напэўна ня ўспомню ўсяго.

Раскажу аб мяцеліцах ночных, ня спаных да раньня гадзінаў,
Аб спакоі васеньніх зьмярканьняў і яснасьці сплаканых зор.
А ўсе словы злучу я у песьню прыпевам праўдзівым, адзіным.
А ўсе песьні ў адзін бесканечна магутны акорд.

Зашумяць, запяюць у акордзе зялёныя хвалі калосьсяў,
Пахінуцца зялёнай сьцяною вяршыны прадвечныя дрэў,
Туманамі заплача над жоўтымі межамі восень...
Лебядзінаю песьняю людзі ахрысьцяць мой сьпеў.



Калі ўгледзіцца ў зоры сусьвету,
Што уночы гараць сінявокай,—
Мала быць разсьпяваным паэтам,
Нават мала натхнёным прарокам,
Кабы выліць у словы пустыя
Чар нябёсаў адвечны і сталы,
Усіх на сьвеце мэтафар замала,
Усе рыфмы здаюцца — ня тыя,
Усе заводзяць і формы й разьмеры,
Рытм найлепшы — здаецца ніякім.
Можна толькі ў захопленьні верыць
Ясным зорам з глыбін Зодыяку.

Зьзяюць зоры, міргаюць вачыма,
Падымаюць густыя расьніцы,
Быццам сочаць так пільнай й няўпынна,
Што за сон нам сягоньня прысьніцца.

## ЗОРЫ

У лагох, туманамі расшытых,
Белым стадам пасуцца таполі.
З цёмна сініх глыбінаў нябыту
Ноч зыходзіць спакойна й паволі,



**Максім ТАНК**

## НАШЫ ДАРОГІ

*Натальлі Арсеньневай*

Нашы дарогі расходзяцца даўна пад зорамі,
На аднэй чуеш крок, на другой — шум трысьця...
Не спаткаліся тут між палёў, між разорамі,
не сустрэціцца ім на пяшчаным парозе жыцьця.

Будзе сонца гарэць...
Паясом слуцкім песьня Твая мо' расьцелецца,
наша — будзе чарнець, як чарнее рубцамі далонь,
там дзе вецер калосьсямі будзе шумець і мяцеліцца,
дзе на нівах бяз меж палыхнець ураджаю агонь.

Сяньня песьня Твая расьцьвіла зачарованай казкаю,
а мы казак так даўна ня чулі ў жыцьці! —
ўсё ідзём каляінай нікім не пратаптанай, гразкаю,
нам ня можна вярнуцца, а трэба наперад ісьці!

Нашу песьню няраз грызьлі голад з сухотамі,
ня было нават ранаў калі загаіць.
Станавіліся, ведай, на грудзі падкутымі ботамі
і чужынец-гандляр, а найгорш — гэта юды сваі...

І калі, сонцам новых надзей, прыглядаемся выраю,
лічым сілы жывыя і тых, што ляглі:
для нас дорага слова гарачае, шчырае,
як зярнё для шчарнелых далоняў зямлі.

Любіш край за бярозы, за месяц, за восені дзіўныя,
а тым больш яго нам як, скажы, не любіць:
калі нівы і рэкі, палотны азёр пераліўныя,
калі песьні, што б'юць жывой сілай крыніц,

нам гавораць аб долі сярмяжнай аратага
і адкуль на нас хмары плывуць і плылі,
дзе ляжаць нашы сілы, надзеі віхурамі зжатыя,
колькі поту і сьлёз мае кожная грудка зямлі...

Дзіўна песьні Твае расьцьвітаюць далёка сузор'ямі,
над другімі палямі яны сіратліва мігцяць,
і таму яны, пэўна, над роднымі сяньня разорамі
асыпаюцца
золатам восені,
асыпаюцца шумам трысьця...

Вільня, 25.1.1937 г.

# НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА Ў ВІЛЬНІ

Не ў царкоўцы малітвай, сьвянцонай вадой,—
ахрысьціў мяне нехта ў зялёнай дуброве.
Як паганін, я пушчы пяю залатой,
разумею палёў васільковых размовы.

З зборніка «Жоўтая восень».

У днях 14—29 студня с. г. гасьціла ў Вільні нашая паэтка Натальля Арсеньнева. З нагоды гэтага прыезду беларуская студэнцкая моладзь — Беларускі Студэнцкі Саюз і Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце С. Б.— зладзілі 17 студзеня для паважанай Госьці аўтарскі Вечар, на якім паэтка адчытала цэлы чарод новых, яшчэ недрукаваных сваіх вершаў. Перапоўненая па берагі саля (перадусім моладзь) вельмі цёпла, воплескамі спаткала аўтарку і яе мастацкія вершы. Пры канцы вечару ад прысутнай беларускай моладзі і грамадзянства быў падараваны пясьнярцы букет жывых красак. На пачатку Вечару кароткі агульны агляд паэтыцкай творчасьці Натальлі Арсеньневай даў др. Ст. Станкевіч. Пасьля Вечару адбылося скромнае прыняцьце для паэткі — «літаратурная гарбатка»,— арганізаваная таксама студэнтамі.

22 студзеня з тэй-жа нагоды адбылося ў прысутнасьці самой Госьці спэцыяльнае паседжаньне Літаратурна-Мастацкай Сэкцыі Бел. Навуковага Т-ва, прысьвечанае літаратурнай творчасьці пясьняркі. На парадку дня была дыскусія ў сувязі з рэфэратам старшыні Сэкцыі д-ра Станіслава Станкевіча аб творчасьці паэткі, прачытаным на аўтарскім вечары Арсеньневай. Д-р Станкевіч паўтарыў галоўныя думкі свайго рэфэрату, у якім зазначыў усё тое новае, што выявілася ў апошніх вершах паэткі. Новае і ў форме-стылю, і ў тэматыцы. Дзеля таго, што дадзены прэлегэнтам аналіз творчасьці Арсеньневай ня выклікаў спрэчак, дыскусія перайшла на рад аснаўных праблемаў паэтыцкае творчасьці. Прамоўцы адзначылі перадусім, што стыль ня толькі ёсьць вынікам сьвядомага імкненьня паэты ў тым ці іншым кірунку, але і арганічна вяжыцца з усёй духовай істотай аўтара. Тэматыка вырабляецца абставінамі жыцьця, у якіх паэт знаходзіцца. Арсеньнева й Танк, які гэтак сама быў на паседжаньні, прадстаўляюць два зусім розныя тэматычныя кірункі. Арсеньнева жыве здалёк ад беларускага асяродзьдзя, ня бачыць сучаснага народнага жыцьця, дык у творах сваіх выказвае пераважна свае чыста індывідуальныя настроі й перажываньні, далёкія ад справаў нацыянальна-грамадзкіх. Наадварот, Танк, які выйшаў з народнае гушчы, які жыў народным жыцьцём і разам з вёскай беларускай перажыў усе яе нягоды і крыўды, мусіць выяўляць тое, чым перапоўнена аж да краёў ягоная душа.

І Арсеньнева, і Танк прыймалі дзейнае ўчасьце ў гэтай цікавай, стаяўшай на высокім роўні, дыскусіі. На заканчэньне Танк прачытаў недрукаваныя яшчэ пятую, шостую і пачатак сёмае песьні сваёй цудоўнай паэмы п. н. «Нарач».

Сваю літаратурную працу Натальля Арсеньнева пачала ў 1921 г., будучы яшчэ на школьнай лаўцы Віленскай Беларускай Гімназіі і пад уплывам часткова твораў Максіма Багдановіча і М. Гарэцкага.

Першы зборнік паэткі, Пад сінім небам, вышаў у 1921 г. Другі свой зборнік пясьнярка прыгатавала да друку будучы цяпер у Вільні. Мае ён звацца Жоўтая восень.

Галоўная крыніца паэтычнага натхненьня Арсеньневай — прырода. Лірычны верш Арсеньневай звычайна мяккі, мілагучны, сьпеўны і вельмі вобразны. Беззаганнасьць з гледзішча тэхнікі вершаваньня надае ім мастацка-стройную клясычную лінію. У апошніх вершах пясьняркі (Жоўтая восень) заўважываецца многа новага, каторае палягае перадусім на новай, больш сьмелай і арыгінальнай вобразнасьці. Сталы рост таленту Арсеньневай асабліва даўся вычуць у 1936 г., калі — здаецца пад уплывам агульнага ажыўленьня ў нашым літаратурным жыцьці,— паэтка, пасьля нядоўгага перарыву, ізноў інтэнсіўна ўзялася за літаратурную творчасьць.

Ад 1923 г. пясьнярка стала пражывае далёка на чужыне (цяпер у Познаншчыне). Гэтая нястача бліскай сутычнасьці з беларускім жыцьцём, а з другой стараны індывідуальныя асаблівасьці таленту, тлумачаць нам, чаму ў вершах Арсеньневай так мала беспасрэднага адбіцьця ідэяў і фактаў, творачых нашае беларускае жыцьцё. Выглядае, што пясьнярка стварыла сабе свой уласны сьвет паэтычнай уявы, у якім і жыве ў сваіх вершах.

Трэба адцеміць, што нягледзячы на доўгае і сталае прабываньне паэткі на чужыне, беларуская мова ў паэзіі Арсеньневай у параўнаньні з мовай іншых нашых паэтаў,— адна з найчысьцейшых і найбагацейшых. Культ беларускага слова, дасканаленьне і тварэньне беларускай мастацкай мовы — вось адна з цэнных асаблівасьцяў творчасьці Арсеньневай.

Верым, што прабываньне ў Вільні, гэтая шырэйшая, нажаль кароткая, сутычнасьць з жывым беларускім словам і з беларускім жыцьцём нагул, і тое цёплае прыняцьце, якое тут спаткала пясьнярку, асабліва са стараны студэнцкай моладзі, і нашых маладых літаратараў,— будуць моцным імпульсам да далейшай доўгай творчай працы на ніве беларускага мастацкага слова.



# «ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ — КАНКУРЭНТ»

**Ірына Міхайлава-Станюта, доктар эканамічных навук, прафесар**



Замежныя эксперты-эканамісты часам папракаюць нашых распрацоўшчыкаў у падмене праграм «наборам мерапрыемстваў». Хоць, на мой погляд, любая праграма павінна пачынацца з распрацоўкі правіл гульні, таго шляху, па якім трэба рухацца і не да рынку наогул, а да пэўнай мэты, якая дасягаецца з дапамогаю рынкачнага механізма.

Знаёмства з некаторымі праграмамі міжнародных экспертаў дазволіла мне вылучыць тую, якая заснавана на дэталёвай прапрацоўцы форм «канструявання рыначнага механізма». Менавіта канструяваннем яна і адрозніваецца ад прапаноў спантаннага пераходу да рыначнай сістэмы праз усеагульную лібералізацыю і шокавую тэрапію.

Канструяванне заключаецца ў паслядоўнай замене адміністрацыйных метадаў кіравання рыначнымі. У праграме дасканала, па вертыкалі і гарызанталі, распісана, у якой паслядоўнасці (ці паралельна) і ў якіх сферах здзяйсняецца пераход ад цэнтралізаванага (прамых дырэктыў адміністрацыі) да дэцэнтралізаванага (праз падатковыя і фінансавыя льготы, субсідыі, прамыя і ўскосныя інвестыцыі і інш.) гэтага кіравання, каб потым перайсці да рыначнага самарэгулявання праз канкурэнцыю.

Чым такі падыход прыцягальны? Найперш, разуменнем, што цывілізаваны рынак стыхійна не фарміруецца. І тым, што рыначная эканоміка не разглядаецца як панацэя, з дапамогаю якой мы аўтаматычна нармалізуем разбалансаваную эканоміку.

Вядома, што эканоміку можа стабілізаваць толькі папярэдне наладжаны рыначны механізм. Стыхійны ж рынак дыспрапорцыі можа паглыбіць. У савецкай эканоміцы рыначная сістэма адсутнічае наогул, і яе патрэбна ствараць нанава, канструяваць. Таму і прапануецца дэталёвы план рыначнай канверсіі ўсіх сфер народнай гаспадаркі: фінансаў, крэдыту, інвестыцый, грашовага абароту, субсідзіравання, сацыяльнай самаабароны і інш.

Дарэчы, нам раяць істотна звузіць стаўку на сацыяльную абарону як форму ўтрыманства, замяніўшы яе самаабаронай, што значыць адказнасцю работніка, а не дзяржавы за дабрабыт яго сям'і. Значыцца, павінна быць дэталёвая праграма, якая б садзейнічала росту прадукцыйнасці працы і эфектыўнасці вытворчасці. Такую праграму краіны з рыначнай эканомікай маюць.

Сучасны капіталізм стварыў грамадства «масавага спажывання» і «грамадства паслуг». Мы ж апошнім часам «забівалі» ўсіх тэмпамі, хоць яшчэ ў 70-я гады саветолагі настойліва раілі замяніць «курс высокіх тэмпаў развіцця» на рост эфектыўнасці вытворчасці.

Ацаніць эфектыўнасць вытворчасці ў нашай краіне нельга, і сёння эфектыўнасць залежыць ад цэн. А цэны, як вядома, вызначае Дзяржкамцэн ці гарвыканкам. А ад цаны залежыць эфектыўнасць. Кола, як бачым, «замыкаецца»...

Які ж матывацыйны механізм росту прадукцыйнасці працы прапануюць савецкія праграмы пераходу да рыначных адносін? Пакуль што самы галоўны іх козыр — прыватызацыя: зробім работніка калектыўным уласнікам і ён будзе дбаць аб сваім. Мяркую, што козыр вельмі хісткі. І вось чаму.

Калі калектыў работнікаў становіцца калектыўным уласнікам, аб чым пісаў К. Маркс, маецца на ўвазе, што работнік наймае сам сябе ў якасці рабочага і плаціць сабе зарплату. А выступаючы ў якасці ўласніка, ён жа атрымлівае і прыбытак. У гэтых умовах размеркаванне нанава створанай вартасці на даходы ў форме зарплаты, прыбытку і зямельнай рэнты быццам бы губляе, па словах К. Маркса, свой сэнс, паколькі рабочыя прымяняюць сродкі вытворчасці для эксплуатацыі сваёй асабістай працы.

Мы ж не надавалі сэнсу неабходнасці дакладна дзяліць нанава створаную вартасць: адным грамадства недаплачвала, другім — пераплачвала, што ў рэшце рэшт прывяло да ўраўнілаўкі і страты інтарэсу да высокапрадукцыйнай працы.

Ці прывядзе да карэнных пераўтварэнняў у працы вяртанне да калектыўнага ўласніка праз калектыўнае акцыяніраванне?

Уявім: рабочы купіў акцыю за 1000 руб. і атрымлівае 20 працэнтаў гадавых. Гэта 200 руб. у год, ці 17 руб. у месяц. Будзе ён эфектыўна працаваць? Наўрад ці! А вось звольніць яго як нядбайнага работніка будзе цяжэй, таму што ён зараз яшчэ і ўласнік.

З гэтых пазіцый групавая ці індывідуальная формы ўласнасці з'яўляюцца болей прадукцыйнымі, бо дазваляюць рэалізаваць раздзельна інтарэсы ўласніка і інтарэсы наёмнага работніка.

Рыначная эканоміка будуецца на канкурэнцыі, якую называюць рухавіком яе развіцця. Гаворачы пра канкурэнцыю, я б хацела вылучыць не столькі канкурэнцыю асобных таваравытворцаў, колькі канкурэнцыю выдаткаў і цэн. Менавіта яна прымушае зніжаць выдаткі на адзінку спажывецкага кошту. Вось чаму прадпрымальнік абавязаны надзвычай эканомна расходаваць жывую працу, чаго не скажаш пра нас, бо часам работнікаў, якія вызваляюцца, абавязаны ўладкоўваць дырэктар таго ж самага прадпрыемства.

У краінах Захаду праз зарплату і рост эфектыўнасці вытворчасці ўвязваюцца інтарэсы і ўласніка, і наёмнага работніка. У нас жа тэзіс аб супадзенні грамадскіх, калектыўных і асабістых

# «ХТО МЫ? ТРУТНІ ЦІ ТВОРЦЫ ПРАГРЭСУ?»



**Генадзь ЛЫЧ,**
**акадэмік**



Рынак... Вучоныя сустракаюць яго з надзеяй і трывогай. З надзеяй, натуральна, на лепшае будучае. З трывогаю за далёка няясны лёс — і навукі, і грамадства, і свой асабісты. Падставы ёсць як для аднаго, так і для другога.

Як вядома, не соладка жылося нашым вучоным пры адміністрацыйна-каманднай сістэме, якая незваротна адыходзіць у мінулае. Уявіце, што значыла для іх незапатрабаванасць грамадствам вынікаў праводзімых даследаванняў, абумоўленая неўспрымальнасцю вытворчасці да дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Вучоных можна было абвінавачваць у бяздзейнасці, папракаючы, што яны, як трутні, «сядзяць без карысці на карку ў працоўнага народа». Дзесяцігоддзямі ім недаплачвалі за працу. Прымушалі падоўгу стаяць у чарзе на атрыманне жылля. У дадатак часам іх яшчэ прымушалі гнуць спіны перад адказнымі работнікамі адміністрацыйна-бюракратычнага апарату.

Асабліва ўшчувалі вучоных, у першую чаргу грамадазнаўцаў, калі краіна аказалася ў цяжкім становішчы: іх традыцыйнаператварылі ў «казла адпушчэння», вінаватага ва ўсіх грахах і бедах, што ў чарговы раз зваліліся на наш шматпакутны народ. Да слова будзе сказаць, і сёння ўсё часцей і ўсё злавесней пачынаюць гучаць заклікі арганізаваць суд грамадскасці над вучонымі-эканамістамі, якія быццам бы сваімі памылковымі рэкамендацыямі спачатку загналі краіну ў глыбокі эканамічны крызіс, а цяпер пачынаюць заганяць яе ў «пракляты капіталізм». Хоць кожнаму ясна, што ў савецкай эканоміцы па-ранейшаму «правяць баль» не вучоныя-эканамісты...

Пераход да рынку дае нямала надзей на тое, што падобнае не паўторыцца. Гэтаму будзе садзейнічаць хутчэй за ўсё ўспрымальнасць народнай гаспадаркі да дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу, што ўзрасла апошнім часам, і, без усякага сумнення, прымусіць нашых кіраўнікоў і гаспадарнікаў, уключаючы будучых прадпрымальнікаў, тварам павярнуцца да навукі, узяць на сябе многія клопаты аб яе развіцці.

Але, канечне ж, не адразу. На першым часе гаспадарнікі будуць вырашаць свае фінансавыя праблемы галоўным чынам шляхам простага павышэння цэн ды нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці. А для гэтага, як вядома, ніякая навука не патрэбна. Дастаткова аднаго практычнага вопыту. Узнікае патрэба ў навуковых распрацоўках і адкрыццях толькі тады, калі рынак акажацца насычаным таварамі, і, каб выжыць, прадпрымальнікі змушаны будуць пастаянна павышаць іх якасць пры адначасовым скарачэнні затрат працы і сродкаў.

Пакуль тое будзе, пройдуць, пэўна, не год і не два. Навуцы ж, кінутай на волю лёсу, каб загінуць у рынparam стыхіі, можа быць дастаткова і года. Тыя яе прадстаўнікі, што яшчэ не разгубілі здольнасці да творчай працы, літаральна за некалькі месяцаў могуць разбегчыся па кааператывах і малых прадпрыемствах, дзе ўжо думаюць не столькі пра навуку, колькі пра бізнес. Самыя таленавітыя маладыя вучоныя ў пошуках лепшага жыцця могуць наогул пакінуць Радзіму. І застануцца ў навуцы ні на што не здольныя кадравы баласт ды адзінкі вучоных, фатальна ўлюбёных у сваю справу. Але адзінкам, пры ўсёй іх геніяльнасці, не вырашыць тых грандыёзных праблем, якія сёння настойліва ставіць перад навукаю жыццё.

І ўсё ж хочацца верыць, што розум возьме верх. Нельга ж, на самай справе, не разумець: без навукі няма будучыні. Выжыве навука — у рэшце рэшт знойдзем мы свой шлях да лепшай долі, вартай вялікага народа. Кінем навуку на пагібель — застанецца ў нас толькі адно: вечна плесціся, унурыўшы галаву, у хвасце сусветнай цывілізацыі.

Трэцяга не дадзена.

інтарэсаў так і не атрымаў рэальнага ўвасаблення.

Было б, канечне ж, наіўна ківаць на рынак як на самарэгулятар усяго і ўся. Аднак хібы рыначнага самарэгулявання за мяжою даволі паспяхова кампенсуюцца элементамі знешнерыначнага рэгулявання. Гэта рознага роду планы і праграмы па выратаванню прыроднага асяроддзя, стварэнню сістэм электра- і газазабеспячэння, аўтастрад, асваення новых рэгіёнаў, абароны «слабых груп» і гэтак далей. Амаль так, як і ў нас? Не зусім. Замест прамога дзяржаўнага фінансавання падобных праграм у нас, у іх рынак арыентаваны (і гэтага дастаткова!) на выкарыстанне крэдытных і фінансавых стымулаў, знешнегандлёвых квот, казённых заказаў, цэнаснага і падатковага рэгулявання.

Аб падатках гаворка асобная. Калі ў праграме сацыяльнай абароны спачатку ідзе кампенсацыя да заработнай платы ў сувязі з ростам цэн (як у іх), а пасля падатак забірае гэтую кампенсацыю (як у нас), дык кампенсацыя ў рэшце рэшт губляе свае абарончыя функцыі. Падаткі фарміруюць бюджэт, калі ён, бюджэт, працуе на чалавека, так бы мовіць, мае сацыяльную накіраванасць. Як на «дзікім Захадзе». Калі ж бюджэт ідзе на датацыі стратным галінам (як у нас), то гэтыя галіны са стратных у прыбытковыя не пераўтворацца ніколі, тым болей, што самі цэны строга рухаюцца за затратамі (у нас). І сам бюджэт у такім выпадку страчвае сваю эканамічную сутнасць. Але гэта ўжо вытрымкі з беларускай праграмы пераходу да рыначнай сістэмы, дзе пакуль што не расстаўлены ўсе кропкі над «і»...

# Адзінокі глядач

## НАТАТКІ ПРА МІНУЛЫ ТЭАТРАЛЬНЫ СЕЗОН



Перадусім — уразлівае адкрыццё. Галіна Дзягілева, актрыса Белдзяржфілармоніі, за чыім амплуа замацавалася мянушка-вызначэнне «чытальніца», дамаглася адкрыцця свайго Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра. Ён будзе называцца «Зьніч» і «даваць» уяўленне пра магчымасці і вартасці беларускага слова, пра асаблівасці мовы паэтычнай і мовы тэатральнай...» Спектакль «Выгнанне ў рай» можна будзе глядзець хоць колькі разоў запар— спектакль у чымсьці этапны для тутэйшых мастацкіх пошукаў і вышукаў. Галіна з'яўляецца на падмостках, і дзеянне... зрушваецца проста-такі фізічна. Рэдкі дар, дар боскі блазну боскаму — адною сваёю прысутнасцю арганізоўваць сцэнічную прастору і зрушваць дзеянне!



Шэраг персанажаў, што ўвасобіць затым актрыса — гэткія тутэйшыя накіды шэкспіраўскіх дачыненняў і пачуццяў,— пастане ў гістарычную галерэю, перакінецца нейкім асаблівым, пранізлівым мінулым, што належыць толькі нам... «У гэтым мінулым, якое адрозніваецца ад рэальнага мінулага, паводле самой сваёй прыроды, адзіная наша надзейная абарона...» Бачу, што да мяне і за мяне ўсё цудоўна патлумачыў Андрэ Мальро: «Часінаю, калі чалавек нарадзіўся для адзіноты, мастацтва забяспечвае тым, хто ў яго верыць, глыбокую ўзаемасувязь, якой ужо не даюць багі, што адышлі на спачын». Для адзіноты? — перапытаю і запынюся: адзінокі глядач у тэатры адзінокага акцёра...

Адзінокі. Не, адзіны! Супынак за вераю ў мастацтва. За мастацтвам Галіны не выпадае назіраць крывым вокам іранічнага сучасніка — інакш рызыкуеш застацца з чым прыйшоў. Дзягілева вымагае ўзнёсласці...



Сезон класікаў!

Дабралася сёлета да падмосткаў і містэрыя: калектыў Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі, узбіўшыся на дзяржаўную мову рэспублікі, выразна прамаўляе вуснамі Караткевічавага шляхціца Багдана Роскаша: «Не руш, не руш мяне, я беларускі...» «Евангелле паводле Юды», як вызначыў калісь сам Уладзімір Сямёнавіч, мусіць сучаснымі тэатральнымі сродкамі ўвасабляцца ў містэрыю «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» — паводле жанравага вызначэння Віталя Катавіцкага, інсцэніроўшчыка і рэжысёра, аўтара сцэнічнае версіі знакамітага рамана.

Рэжысёр адкінуў знешнюю пабытавасць раманных падзей, прадставіў гледачам гэткія ўспаміны пра будучыню, якую рыхтуе для беларуса сучаснага сённяшняе жыццёвае бязладдзе, небытаванне і трагедыя Чарнобыля; даць веры гэтым «успамінам» замінае... літаратура, дый наіўна было б разлічваць, што глядач не будзе чакаць ці жадаць падабенства. Вядома, сцэна мае на ўвазе перастварэнне рамана, ды вабіць, уражвае толькі варты літаратурны вынік. Іронія рэжысёра, на жаль, не набыла дакладнага тэатральнага ўвасаблення; рэдкі з акцёраў пасоўвае дзеянне да фіналу ды дэманструе якасці характараў сваіх персанажаў. З напінаннем, праўда, я б назвала спектакль свяшчэннаю пародыяй — у даным выпадку, на жаль, на літаратуру.

Свяшчэнная пародыя — жанр сярэднявечнае драматургіі, у якім дазвалялася смяяцца з самога Ісуса Хрыста. І... нічога. Законы жанру ратавалі насмешнікаў.

...Відавочна, у Гародні тутэйшай прызямліўся ніякі не Хрыстос — Юрась Братчык ці акцёр таго тэатра, якім з'яўляецца ўвесь свет. Бразнуўся там пачатковец-камедыянт, якому за кепскае выкананне маглі і ў каршэнь натаўчы. Пашкадавалі. Малады. Самага ўзросту свяшчэннае пародыі, з якой смяяцца не выпадае.

Містэрыю рыхтуе мудрасць.

Мудрасць рыхтуе не адно містэрыю. З немудрагелістасці нашага тутэйшага сцэнічнага існавання варта шчыра падзівіцца: акцёры мусяць штурхацца, піхацца, шнуравацца, пазіраць адзін аднаму ў патыліцу, шпацыраваць па масніцах, робячы выгляд «акцёра ў ролі», капаць магілы, раўці, галёкаць, выдурняцца... Усе гэтыя «сацыяльныя ахвяры», «пакутнікі», чытанне са сцэны біблейскіх тэкстаў, звароты да Усявышняга, памінанне продкаў, а таксама выразнае чаканне глядацкай самаацэнкі — ну не сорам у «часіну, калі чалавек нарадзіўся для адзіноты»? Размаіты, на ўсе густы «рэалізм» спектакляў «Цынкавыя хлопчыкі», «Вежа» ды «Бездань» у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы, «Будучым годам тым самым часам»

і «Працякі з Нечаканых астравоў» у Рускім тэатры імя Максіма Горкага — і рэжысёрскае сузор'е лаўрэатаў, дыпламантаў, заслужанасці... несамавітасці... Заслужоны як свянцоны?

На берасцейскай сцэне драматычнай, гэта значыць, у непрыстасаваным памяшканні Палаца культуры (бо тэатр усё яшчэ рамантуецца) Валерый Мазынскі паяднаў Леапольда Радзевіча з Уладзіславам Галубком, прадставіўшы спектакль пад дзяжурнаю назваю «І смех, і грэх» (гэткіх смехаўгрэхаў толькі паводле «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» я налічыла пяць). Паяднаў, па-свойму адказваючы на балючае пытанне: што ёсць наша спадчына, наша тэатральная традыцыя і якім чынам мусім гарнуцца да яе, спавядаць яе, жывіць яе. Перадусім, адказвае Мазынскі, трэба прывучыць да мілагучнасці беларускага слова, да своеасаблівасці беларускага вадэвіля... І гледачоў, і акцёраў, даўшы апошнім магчымасць крыху папрактыкавацца ў характарнасці і гранічным сур'ёзе, іграючы гранічны несур'ёз...

Тамсама ў Брэсце, на сцэне лялечнай, трывала атайбаваўся адзін з самых адметных лялечных рэжысёраў Беларусі Алег Жугжда. Неўзабаве пасля знакамітага спектакля «Рыгорка — ясная зорка», паводле А. Вярцінскага, рэжысёр парадаваў дзятву казкай І. Паўлычавай «Жылі Мышка і Вамбат», створанай паводле аповесці аўстралійскай пісьменніцы Руф Парк. Аўстралійская аповесць на берасцейскай лялечнай сцэне — чым не рэкламная прынада?

А тым часам у Дзяржаўным лялечным тэатры Беларусі выклікаюць усмешку «Прыгоды Бураціна ў краіне дурняў», паводле А. Талстога. Рэжысёр Аляксей Ляляўскі відавочна атрымліваў асалоду ад шчырага акцёрскага «дурэння» на пляцоўцы; сёе-тое мо варта было б і пакінуць на рэпетыцыях?.. Але нават картавы дэмагог Карабас-Барабас нікога не саб'е з тропу ў гэтай маленькай гісторыі пра сціплых артыстаў, таленавітых ды самавітых, сумленных ды добра спрактыкаваных; хораша вырашаных, някепска выкананых (маю на ўвазе бездакорную працу майстэрні тэатра) ды адпаведна ўвасобленых. Мае асабістыя сімпатыі — маладому тату Карлу, акцёру Аляксандру Казакову, хоць, удакладню, усе лялечнікі працуюць прыстойна, а працаваць «жывым планам» традыцыйна няпроста ў спектаклях Аляксея Ляляўскага.

Безумоўная падзея сезона — вяртанне Янкі Купалы ў якасці аўтара «Тутэйшых». Мікалай Пінігін і Мікалай Андрэеў, рэжысёр драмы і лялечны рэжысёр, захапіліся ідэяй увасобіць «Тутэйшых» на сцэне. Першы, аднак, рабіў гэта нязмушана, зграбна, у сваёй адметнай «незаакадэмічанай», «незабранзавела-класічнай» рэжысёрскай манеры, упершыню, бадай, нагадаўшы сучаснікам, што рэвалюцыйны рамантык і «апявала сацыялістычнага ладу», як трактуюць яго энцыклапедыі, меў свой, далёка не рамантычна-сацыялістычны погляд на рэчаіснасць. Купала-экзістэнцыяліст, Купала — еўрапейскі пісьменнік, блізкі не адно Блоку, але ў не меншай ступені... Кафку і, праз дзесяцігоддзі, Камю... Купала, у творчасці якога можна дачуць водгалас самых несацыялістычных філасофскіх тлумачэнняў жыцця ды быцця, ад рэабілітаванага Ніцшэ да К'еркегора...

«Тутэйшыя» ў Гродзенскім лялечным тэатры — смешна-вабная кампазіцыя паводле Купалы, скампанаваная, так бы мовіць, без вялікае пастановачнае ідэі, ды, на жаль, і без аніякае тэатральнае. І тое, што менавіта лялькі ў спектаклі існуюць «збоку прыпёку», трагічна збядняе спектакль (лялькамі, удакладню, прадстаўлена большасць персанажаў).

Веры такому мастацтву няшмат хто дасць. Я, адзінокі глядач, пільнуючыся адзінокіх акцёраў, канстатую: адзіная мая надзейная абарона — не ў тэатры. Хоць... надарaецца напаткаць яе і там!

**Жанна ЛАШКЕВІЧ.**

# У СЕЗОН КЛАСІКАЎ







**● Сцэна са спектакля «Тутэйшыя» Гродзенскага тэатра лялек.**

**● «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» ў Маладзёжным тэатры Рэспублікі Беларусь.**

**● У сцэне са спектакля «І смех, і грэх...» Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра Соф'я Пісьман і Сяргей Сіплівы.**

**● «Тутэйшыя» — на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.**

**● Сцэна са спектакля «Цынкавыя хлопчыкі».**

**● Адну з цікавых роляў у спектаклі «Вежа» сыграў У. Кін-Камінскі.**

*Фота Уладзіміра ШУБЫ, Юрыя ПЕЧУРА і Яўгена КОКТЫША.*

# ГАРАСКОП 1992

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | | | | | |
| А | | | | | | |
| С | | | | | | |
| Ч | | | | | | |
| П | | | | | 1 | |
| С | | | | | 2 | |
| Н | | | 1 | | 3 | |
| П | | | 2 | | 4 | 1 |
| А | | | 3 | | 5 | 2 |
| С | 1 | | 4 | 1 | 6 | 3 |
| Ч | 2 | | 5 | 2 | 7 | 4 |
| П | 3 | | 6 | 3 | 8 | 5 |
| С | 4 | 1 | 7 | 4 | 9 | 6 |
| Н | 5 | 2 | 8 | 5 | 10 | 7 |
| П | 6 | 3 | 9 | 6 | 11 | 8 |
| А | 7 | 4 | 10 | 7 | 12 | 9 |
| С | 8 | 5 | 11 | 8 | 13 | 10 |
| Ч | 9 | 6 | 12 | 9 | 14 | 11 |
| П | 10 | 7 | 13 | 10 | 15 | 12 |
| С | 11 | 8 | 14 | 11 | 16 | 13 |
| Н | 12 | 9 | 15 | 12 | 17 | 14 |
| П | 13 | 10 | 16 | 13 | 18 | 15 |
| А | 14 | 11 | 17 | 14 | 19 | 16 |
| С | 15 | 12 | 18 | 15 | 20 | 17 |
| Ч | 16 | 13 | 19 | 16 | 21 | 18 |
| П | 17 | 14 | 20 | 17 | 22 | 19 |
| С | 18 | 15 | 21 | 18 | 23 | 20 |
| Н | 19 | 16 | 22 | 19 | 24 | 21 |
| П | 20 | 17 | 23 | 20 | 25 | 22 |

## КАЗЯРОГ
(22.XII — 19.I)

Тыя, што нарадзіліся пад гэтым знакам, вызначаюцца высокім інтэлектам і творчымі талентамі. Людзі працавітыя, сур'ёзныя, сумленныя, «правільныя», яны пазбягаюць усяго выпадковага, хаатычнага, імпульсіўнага. Па прыродзе сваёй песімісты, часта бываюць у прыгнечаным стане. Як правіла, гэта дамаседы, надзвычай адданыя сям'і. У кантакт з навакольнымі ўступаюць з цяжкасцю. Жанчыну-Казярога вызначаюць адданасць, пастаянства, паслядоўнасць, больш за ўсё ёй падыходзіць разумовая праца, нярэдка на педагагічнай ніве. Мужчына-Казярог капрызны, асцярожны, пераборлівы, схільны да вынаходніцтва, любіць літаратуру, музыку, тэатр. Казярогі вызначаюцца даўгалеццем, да таго ж, на думку многіх астролагаў, другая палова жыцця ў іх больш шчаслівая, чым першая. Шчаслівы дзень — субота, месяц — ліпень, лічба — 7, колер — карычневы або чорны, камень-талісман — онікс і рубін.

## ВАДАЛЕЙ
(20.I—18.II)

Шчырыя, таварыскія, ураўнаважаныя прадстаўнікі гэтага знака вызначаюцца розумам і чуйнасцю. Вадалей цікавіцца ўсім новым, арыгінальным, таямнічым, надзелены творчым уяўленнем. Яго галоўныя рысы — пачуццё справядлівасці, адданасць, адкрытасць і памяркоўнасць.

Асноўныя недахопы (асабліва прыкметныя ў Вадалеяў, што нарадзіліся ў першыя дзевяць дзён уплыву знака) — марнатраўнасць, некаторая няўстойлівасць характару і падпарадкаванасць чужой волі. Лёс Вадалея нярэдка складаны, прычым большасць важных перамен і падзей прыпадае на 25—35-ты гады жыцця. Вадалей-мужчына — аптыміст, які жыве ў свеце ўласных ілюзій, мяцежны, нервовы, але разам з тым сімпатычны, абаяльны. Вадалей-жанчына даволі капрызная і непастаянная, энергічная і прадпрымальная. Шчаслівы дзень — субота, месяц — жнівень, лічба — 8, колер — фіялетавы, камень-талісман — цыркон і гранат.

## РЫБЫ
(19.II—21.III)

Рыб можна ведаць доўгія гады, але так і не спасцігнуць іх да канца. На думку астролагаў, яны вызначаюцца супярэчлівасцю характару. Ураўнаважаныя і раптоўна гнеўлівыя, сціплыя і разам з прагныя да славы. Гаваркія, камунікабельныя, яны шукаюць камп але трымаюць людзей на адлегласці. У большасці выпадкаў Рыбы — людзі сардэчныя, шчодрыя, ахвотна клапоцяцца пра іншых, але часта

бываюць нерашучымі і палахлівымі, пераменлівымі ў сваіх настроях. Нярэдка вызначаюцца прыгажосцю і абаяльнасцю, надзелены артыстычнымі і музычнымі здольнасцямі. У Рыб надзвычай развіты інтуіцыя, здольнасць прадчуваць і супастаўляць з'явы і факты, што н... ступна прадстаўнікам іншых знакаў, таму сярод Рыб нямала экстрасенсаў. Рыбы-мужчыны ў сваіх учынках кіруюцца пачуццём, спагадлівыя, адданыя, добрыя, асабліва да дзяцей, але лёгка паддаюцца ўплыву, малаактыўныя і непрадпрымальныя. Рыбы-жанчыны — цудоўныя жонкі і маці, памяркоўныя, паслухмяныя і дзелавітыя. Шчаслівы дзень — чацвер, месяц — верасень, лічба — 9, колер — цёмна-фіялетавы, марской хвалі, камень-талісман — аметыст і жэмчуг.

## АВЕН

(22.III—20.IV)

Людзі, што нарадзіліся пад знакам Авена, дужыя целам і духам, упартыя і настойлівыя, мэтанакіраваныя і незалежныя, народжаныя загадваць іншым. Гэта людзі смелыя і рашучыя, агрэсіўныя і надзвычай актыўныя, яны выбіраюць прафесіі, якія патрабуюць рухомасці, фізічнай вынослівасці, хуткай рэакцыі.

Авен менш за іншыя знакі пакутуе ад комплексу непаўнацэннасці, для яго не існуе псіхалагічных бар'ераў. Разумныя, таленавітыя, нярэдка дэспатычныя. Авены, нягледзячы на свой няпросты характар, шчодрыя і велікадушныя, надзейныя ў сяброўстве, хоць дружбу іх заваяваць няпроста. У каханні і шлюбе непатрабавальныя, схільныя да абсалютнай улады, таму саюз з Авенам нярэдка заканчваецца разрывам, хіба што партнёр цалкам падпарадкуецца. Да глыбокай старасці Авен захоўвае моцнае здароўе. Жанчыны-Авены прадпрымальныя і ўладарныя. Шчаслівы дзень — чацвер, месяц — кастрычнік, лічба — 4, колер — чырвоны, камень-талісман — брыльянт і ўсе чырвоныя.

## ЦЯЛЕЦ

(21.IV—20.V)

Прадстаўнікі гэтага знака вызначаюцца цярплівасцю, вытрымкай, настойлівасцю. Спакойныя і ветлівыя Цяльцы, як правіла, надзелены здольнасцю ўпарта імкнуцца да мэты, але здараецца, што іх прыродная ўраўнаважанасць паварочваецца пакорлівасцю абставінам і нават лянотай. Цяльцам спадарожнічае ўдача ў матэрыяльных пытаннях, і яны, як правіла, дасягаюць дабрабыту, аднак некаторыя Цяльцы, схільныя да марнатраўства і празмернасцей, могуць хутка развітацца са сваім багаццем. Сярод Цяльцоў ёсць нямала мастакоў і музыкантаў, яны могуць быць неблагімі дойлідамі, з поспехам займацца сельскай гаспадаркай. Цяльцы-мужчыны карыстаюцца поспехам у жанчын, яны адданыя і пастаянныя ў дружбе і каханні, любяць, каб іх акружалі клопатам і пяшчотай, разумелі іх запатрабаванні. Ахвотна прыслухоўваюцца да просьбы, але не да загаду. Цяльцы-жанчыны чароўныя і прывабныя, добрыя маці і жонкі (адзін недахоп — занадта раўнівыя). Шчаслівы дзень — пятніца, месяц — лістапад, лічба — 6, колер — зялёны, ружовы і блакітны, камень-талісман — тапаз і аметыст.

## БЛІЗНЯТЫ

(21.V—21.VI)

Блізняты любяць перамены як у малых, так і ў вялікіх справах, яны рэдка бываюць задаволены сваім становішчам. Спакойнае, ураўнаважанае жыццё здаецца ім невыносным, а жыццёвы «штыль» выклікае хандру і сум. Пры першай жа магчымасці яны мяняюць месца работы, кватэру, сяброў і каханых. Здавалася б, надзвычай шчырыя, таварыскія і адкрытыя, яны здольны быць скрытнымі і каварнымі людзьмі. Сярод Блізнят можна сустрэць і самаахвярных альтруістаў і жорсткіх эгаістаў, людзей непастаянных і легкадумных. Блізняты рэдка бываюць адзінокімі, любяць падарожнічаць, выбіраюць прафесіі юрыста, педагога, гандляра. У шлюбе могуць быць шчаслівымі — толькі пры вялікай цярплівасці і паблажлівасці партнёра да іх недахопаў і пераменлівасці характару. Шчаслівы дзень — серада, месяц — снежань, лічба — 5, колер — белы, камень-талісман — хрызапраз, берыл і агат.



Рэй БРЭДБЕРЫ

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАННЯ

АПАВЯДАННЕ

Калі Эн Тэйлар прыехала ў Грынтаун, каб паступіць настаўніцаю ў адзіную ў горадзе летнюю школу, ёй было дваццаць чатыры гады, а Бобу Сполдзінгу — няпоўных чатырнаццаць. Эн Тэйлар адразу заваявала ўсеагульную сімпатыю, таму што была яна з тых настаўнікаў, якім вучні абавязкова прыносяць вялізныя апельсіны або ружовыя кветкі і для якіх старанна размалёўваюць контурныя карты ўсяго свету, нават калі іх аб гэтым не просяць.

Эн Тэйлар была жанчынаю, якую любілі, любілі настолькі, што калі ў гарадку раз на год выпадала некалькі дзён добрага надвор'я, то жыхары адзначалі гэтыя дні ў календары чырвоным колерам і казалі, што наступіла пятая пара года з цудоўнаю назваю «дні Эн Тэйлар».

Што датычыць Боба Сполдзінга, то з ім можна было сустрэцца дзе-небудзь у гарах або на беразе Фоксхіл-крыка, у якім ён вельмі любіў купацца. Гэты хлапчук кожны дзень бегаў у пошуках лісцця для свайго гербарыя, лавіў матылёў і да восені загараў так, што скура ягоная набывала роўнае каштанавае адценне. Але бывалі дні, калі ён аставаўся дома, чытаў фантастычна шмат кніг або іграў у гасцёўні на чорным раялі. Кантактаў з аднагодкамі ён чамусьці пазбягаў.

У першую сваю працоўную раніцу, калі міс Тэйлар увайшла ў клас, усе вучні засталіся сядзець на месцах і моўчкі глядзелі, як яна роўнымі акруглымі літарамі піша на дошцы сваё імя.

— Мяне завуць Эн Тэйлар,— ціха назвалася дзяўчына,— і я, як вы, напэўна, здагадаліся, ваша новая настаўніца.

І нечакана адбыўся цуд. Клас заліло яркае, радаснае святло, як быццам столь раптам адсунулася ўбок і ў пакой хлынуў блакіт летняга неба. Званчэйшымі сталі галасы птушак на вуліцы, на тварах у вучняў засвяціліся цёплыя ўсмешкі. Боб Сполдзінг ціхенька сядзеў за сваёю партаю і сціскаў у далоні трубку, рыхтуючыся плюнуць у кагосьці папяровым шарыкам, але ў гэты момант Эн Тэйлар пачала расказваць пра сябе, і хлапчук ужо з першых слоў адчуў, што зачараваны. Паўгадзіны праляцелі зусім непрыкметна, і, калі настаўніца закончыла апавяданне, Боб ціхенька кінуў сваю плявальную трубку на падлогу.

У той жа дзень пасля заняткаў, прынёсшы ў клас вядро вады і анучу, ён узяўся старанна змываць з дошкі крэйду.

— Што ты робіш? — спытала здзіўленая Эн, адарваўшыся ад вучнёўскіх сшыткаў.

— Дошка брудная, мэм,— не спыняючы працы, адказаў ён.

— Я ведаю, што брудная, але хіба мыць яе такі прыемны занятак?

— Напэўна, трэба было папрасіць дазволу?

— Будзем лічыць, што ты яго папрасіў,— усміхнуўшыся, сказала Эн.— Цябе, здаецца, завуць Боб Сполдзінг?

— Так, мэм.

— Ну што ж, дзякуй табе, Боб.

— Можна, я буду мыць дошку кожны дзень?

— А хіба іншыя не павінны?..

— Павінны, але мне хацелася б рабіць гэта самому, мэм,— адказаў ён,— кожны дзень.

— Добра, Боб,— засмяяўшыся, сказала настаўніца,— паспрабуй, калі хочаш.

Прайшла хвіліна. Боб закончыў мыццё, але не адыходзіў ад дошкі, уважліва глядзеў на Эн.

— Ну што ж ты, Боб? — здзівілася яна.— Бяжы цяпер дахаты, дзякуй табе яшчэ раз.

— Добрай ночы, мэм,— коратка кінуў ён і няспешна выйшаў.

Наступнаю раніцаю Боб як бы выпадкова апынуўся каля таго дома, дзе настаўніца наймала кватэру.

— А вось і я,— сказаў ён весела, як толькі яна выйшла на вуліцу і накіравалася ў школу.

— Можа быць гэта і смешна, але я ні кропелькі не здзіўляюся,— адказала Эн з усмешкаю.— Пайшлі?

— Можна мне паднесці ваш партфель? — спытаў ён.

— О дзякуй, Боб.

— Няма за што, мэм.

Яны ішлі моўчкі. Час ад часу Эн пазірала на Боба і з усмешкаю адварочвалася, бачачы, які ён горды і задаволены. Яна вырашыла не парушаць маўчання, спадзеючыся, што ён зробіць гэта першы, але Боб маўчаў як рыба.

Калі яны наблізіліся да плота, што акружаў школьны двор, ён аддаў ёй кнігі і сказаў:

— Напэўна, нам лепш развітацца тут, мэм. Баюся, што нашы хлопцы гэтага не зразумеюць.

— Чэсна кажучы, Боб, я таксама не зусім разумею,— адказала міс Тэйлар.

— Чаму? Мы сябры, што тут незразумелага? — вымавіў Боб сур'ёзна.

— Боб...

— Так, мэм?

— Нічога,— ціха адказала яна і пайшла да будынка школы.

— Я буду ў класе, мэм! — крыкнуў ёй наўздагон Боб. Яна не азірнулася.

Кожны вечар у поўнай цішыні, якую парушалі толькі шэлест вучнёўскіх сшыткаў, глухі стук ласцікаў, што час ад часу падалі на падлогу, ды шоргат карт, Боб Сполдзінг дзела-



віта наводзіў у класе парадак, пакуль Эн правярала пісьмовыя работы. Іншы раз ён спраўляўся да чатырох гадзін і тады сядаў за апошнюю парту, моўчкі глядзеў на сваю настаўніцу і цярпліва чакаў, пакуль яна не закончыць працу. Калі гадзіннік у класным пакоі адбіваў пяць, Эн адрывалася ад сваіх сшыткаў і ўставала.

— Пара дахаты, Боб,— казала яна, засоўваючы ў сумку кнігі і алоўкі.

— Так, мэм,— адказваў ён і кідаўся да вешака, каб прынесці ёй паліто. Пасля яны выходзілі са школы, перасякалі апусцелы двор і ішлі па вуліцы, ціха гамонячы пра ўсё на свеце.

— Кім ты збіраешся быць, калі вырасцеш, Боб? — спытала Эн аднаго разу.

— Пісьменнікам, мэм.

— Вось як? Ну што ж, гэта добры намер, Боб, але ж быць пісьменнікам вельмі цяжка. Ты нават не ўяўляеш, колькі сілы табе прыйдзецца затраціць, каб напісаць хоць бы маленькае апавяданне.

— Ведаю, мэм. І ўсё ж паспрабаваць трэба, можа што й выйдзе. Я ж так шмат чытаю.

— Скажы, Боб, няўжо ў цябе няма ніякіх спраў пасля школы?

— А што?

— Мне, па праўдзе кажучы, балюча глядзець, як ты кожны дзень губляеш час, вылізваючы дошку.

— Мне гэта падабаецца,— сказаў ён проста.— Я прывык рабіць тое, што мне падабаецца.

— Але ўсё-такі?

— Я заўсёды буду мыць дошку, мэм,— рашуча сказаў ён і, памаўчаўшы, дадаў: — Можна папрасіць вас аб адной рэчы, міс Тэйлар?

— Аб чым, Боб?

— Кожную суботу я хаджу ўздоўж ручая да самага возера Мічыган. Там на беразе шмат самых розных матылёў і птушак. Іншы раз нават ракі трапляюцца. Можа, вы не адмовіцеся ў наступны раз пайсці разам са мною?

— Дзякуй.

— Значыць, вы згодны?

— Я гэтага не сказала.

— Баіцеся, што будзе нецікава.

— Не, што ты, проста ў мяне шмат спраў.

Ён ужо намерыўся спытаць, што гэта за справы, але стрымаўся.

— Я бяру з сабою бутэрброды,— сказаў ён праз хвіліну,— з шынкаю і салёнымі гуркамі. І мандарынавую шыпучку. Апоўдні я заўсёды бываю каля возера, а пасля проста гуляю, перакусваю і а трэцяй гадзіне вяртаюся дахаты. Выходзіць такі цудоўны дзень. Мне хочацца, каб вы пайшлі са мною, мэм. Не пашкадуеце, клянуся. Вы збіраеце матылёў? У мяне вялікая калекцыя, між іншым. Мы і вам хутка сабралі б такую.

— Дзякуй, Боб, але я не пайду. Магчыма, другім разам.

— Напэўна, мне не трэба было прасіць вас, мэм? — прамовіў ён, пазіраючы ёй у вочы.

— Ты маеш поўнае права прасіць мяне аб чым хочаш,— ціха адказала яна і апусціла галаву.

Праз некалькі дзён яна знайшла старэнькі, зацяганы экземпляр «Вялікіх надзей» і аддала яго Бобу. Хлапчук «праглынуў» кнігу ўсяго за адну ноч, а раніцаю падрабязна абмеркаваў яе з настаўніцаю. Цяпер ён кожны дзень, стараючыся аставацца незаўважаным, чакаў яе каля дома, і кожны раз пры сустрэчы яна спрабавала забараніць яму рабіць гэта, ды так і не змагла, а ён, карыстаючыся гэтаю яе нерашучасцю, тут жа заводзіў размовы пра Дзікенса, Кіплінга або пра Эдгара По. Аднаго разу ў пятніцу раніцаю яна заўважыла на сваім стале матылька і ўжо намерылася сагнаць прыгожае насякомае, як раптам убачыла, што матыль нежывы. Праз галовы іншых вучняў Эн хутка зірнула на Боба, але той сядзеў з апушчанымі вачыма і глядзеў у кнігу. Не чытаў, а менавіта глядзеў. Эн усхвалявана перавяла дух.

У той дзень яна ўпершыню адчула, што не можа выклікаць яго да дошкі і прымусіць адказваць урок. Яна доўга вадзіла ручкаю па спісе вучняў і заўсёды рука яе палахліва ўздрыгвала, калі вяршок пяра натыкаўся на прозвішча Сполдзінга. Адначасова яна стала пазбягаць размоў з Бобам па дарозе ў школу і дамоў і пачала лавіць сябе на тым, што падоўгу, неадрыўна глядзіць, як ён мые дошку пасля заняткаў. Толькі вялікім намаганнем ёй удавалася ўзяць сябе ў рукі і вярнуцца да сшыткаў.

А аднойчы цёплым суботнім ранкам, калі ён, зайшоўшы па калені ў ручай, каб выцягнуць з-пад каменя рака, раптам узняў галаву, то ўбачыў, што на беразе стаіць Эн Тэйлар і на вуснах яе свеціцца шчаслівая ўсмешка.

— А вось і я! — смеючыся, усклікнула яна.

— Можа ў гэта цяжка паверыць, але я ні кропелькі не здзіўлены,— радасна адказаў ён.

А пасля яны пайшлі ўніз па беразе ручая да возера Мічыган, селі на мяккі пясок, і Эн з прыемнасцю падставіла твар сонцу і цёпламу ветру, які раскідаў яе доўгія валасы. Яны з'елі бутэрброды, выпілі ўвесь ліманад і сядзелі моўчкі, глядзелі адно аднаму ў вочы, баючыся хоць на імгненне адвярнуцца.

— Які цудоўны дзень! — усклікнуў ён нарэшце.— У мяне такога яшчэ ніколі не было, верыце?

— Я і не думала, што прыйду калі-небудзь на такі пікнік,— адказала яна.

— Ды яшчэ з нейкім хлапчуком,— дадаў ён.

— Я вельмі задаволена, хоць ты і хлапчук.

— Прыемна чуць.

У гэты дзень яны амаль не размаўлялі, толькі пазней, праз некалькі гадзін, ён стомлена вымавіў:

— Усё неяк не так, Эн, мы проста гулялі, і ўсё ж такі маці з бацькам мне галаву адарвуць, калі дазнаюцца. Ды і хлопцы таксама не пашкадуюць. А з вас, напэўна, будуць смяяцца настаўнікі, так?

— Яшчэ б.

— Тады нам больш не трэба лавіць матылёў разам, праўда? Я не хачу, каб з вас смяяліся.

— А я і да гэтага часу не магу зразумець, чаму ўсё ж прыйшла сюды,— адказала яна.

Вось і ўсё. Дзень скончыўся, і Боб ведаў, што ніколі больш не назаве яе проста па імені.

У наступны панядзелак Боб так і не прычакаў міс Тэйлар. Прыйшоўшы ў школу, ён убачыў, што яна ўжо там, і моўчкі, нават не зірнуўшы ў яе бок, сеў на сваё месца. Вечарам яна паскардзілася на галаўны боль, папрасіла прабачэння і пайшла дахаты, папрасіўшы другога настаўніка правесці за яе апошні ўрок. Калі заняткі скончыліся, Боб прыбег да таго дома, дзе жыла Эн, і пачаў блукаць вакол, але яе так і не сустрэў, а званіць у дзверы і распытваць гаспадароў ён пабаяўся.

У аўторак вечарам яны зноў асталіся ўдваіх у цішыні пустога класа. Ён засяроджана мыў дошку, яна сядзела над сшыткамі, і абое перажывалі дзіўнае пачуццё шчасця, якому здавалася, не будзе канца. Калі гадзіннік прабіў пяць, міс Тэйлар раптам уздрыгнула і ўзняла галаву.

— Боб...— паклікала яна.

Ён рэзка павярнуўся.

— Хадзі сюды, Боб. Прысядзь.

Боб паслухмяна сеў, і яна ўважліва пагля-дзела яму ў вочы. Ён адвярнуўся, не вытрымаўшы позірку.

— Боб,— ціха прамовіла Эн.— Ты ведаеш, пра што я хачу пагаварыць?

— Так.

— Пра што ж?

— Пра нас з вамі.

— Колькі табе гадоў?

— Амаль чатырнаццаць.

— А мне?

— Дваццаць чатыры, мэм.

— Дваццаць чатыры.

— Праз дзесяць гадоў і мне будзе амаль столькі ж,— сказаў ён.

— Але цяпер табе, на жаль, няма і чатырнаццаці.

— Так, хоць іншы раз я адчуваю, што мне столькі ж, колькі вам.

— Не толькі адчуваеш, але і паводзіш сябе як дваццацічатырохгадовы. Я гэта заўважаю, Боб. Не заўсёды, канечне, але вельмі часта.

— Праўда?

— Так, але давай лепш абмяркуем тое, што адбываецца. Мы абое разумеем, што адбылося, і гэта вельмі добра. Ты згодзен?

— Увогуле, так.

— Тады давай расставім усё па сваіх месцах. Па-першае, не падлягае сумненню той факт, што мы з табою лепшыя ў свеце сябры. Па-другое, клянуся, што ў мяне яшчэ ніколі не было такога вучня і што ні да аднаго хлапчука я не перажывала такіх пачуццяў, як да цябе.

Пачуўшы гэта, Боб заліўся яркаю чырванню.

— Акрамя таго,— працягвала міс Тэйлар,— я ўпэўнена, што ты лічыш мяне лепшаю настаўніцаю ў свеце.

— І нават больш таго, мэм.

— Магчыма, але мы павінны цвяроза глядзець на факты, а факты гэтыя несуцяшальныя. Ведаеш, Боб, мы жывём сярод людзей, якія прывыклі кіравацца ў сваім жыцці цвёрдымі нормамі і правіламі паводзін. Іх погляды і лад жыцця супраць нас. Я доўга думала, прааналізавала ўсе свае пачуцці і прыйшла да высновы, што пры пэўных умовах наша сяброўства магло б выглядаць у вышэйшай ступені дзіўным. Але ўся справа ў тым, што ты незвычайны хлопчык, Боб. Я дастаткова добра ведаю сябе і таму чэсна прызнаюся, што была зачаравана табою, тваёю дабрынёю і пяшчотаю. Але ў гэтым свеце, у якім мы з табою жывём, усё гэта прымаецца ў разлік тады, калі чалавек, які валодае такімі рэдкімі душэўнымі якасцямі, ужо дасягнуў пэўнага ўзросту. Ты мяне разумееш?

— Наколькі гэта магчыма, мэм. Калі б я быў на дзесяць гадоў старэйшы і на пятнаццаць цалях вышэйшы, усё было б у парадку. Вы гэта хочаце сказаць?

— Паслухай, Боб...

— Ідыёцтва нейкае — ацэньваць чалавека па росце!

— Аднак людзі гэтак не думаюць.

— Я не людзі. Я — гэта я.

— Канечне, Боб, усё, што я кажу, гучыць даволі прымітыўна. Ты, напэўна, ужо лічыш сябе зусім дарослым. Павер, табе абсалютна няма чаго саромецца, ты быў вельмі праўдзівы са мною, і я ўдзячна табе за гэта. Спадзяюся, мяне таксама няма ў чым папракнуць.

— Няма ў чым.

— Калі-небудзь пра людзей будуць меркаваць зусім інакш. Ніхто не будзе цікавіцца тваім узростам, калі нават у трынаццаць гадоў ты дакажаш, што стаў мужчынам, гэта значыць, пачаў разумець, што такое доўг, адказнасць, абавязак і гэтак далей. Але такі час яшчэ вельмі далёка, і пакуль мы вымушаны ацэньваць чалавека, карыстаючыся такімі крытэрыямі, як колькасць пражытых ім гадоў і нават ягоны рост, калі ўжо на тое пайшло, хоць гэта гучыць вельмі груба і спрошчана.

— Я не хачу прызнаваць гэтых крытэрыяў, мэм.

— Я таксама, Боб, аднак жыццё ёсць жыццё, нікуды не дзенешся. Я не думаю, каб ты хацеў зрабіць нас абаіх няшчаснымі.

— Ваша праўда, мэм.

— Ну вось, цяпер нам усё вядома пра нас з табою, і мы ведаем, што заўсёды паводзілі сябе ў адносінах адно да аднаго чэсна. Ты ж разумееш, што інакш і быць не магло, што паміж намі ніколі нічога не адбылося б, праўда?

— Разумею, мэм, але ўжо позна. Я нічога не магу зрабіць з сабою.

— І ўсё ж мы павінны вырашыць, як быць далей, Боб. Пра тое, што адбываецца, ведаем толькі мы ўдваіх. Пасля, магчыма, дазнаюцца іншыя. Нядаўна мне прапанавалі месца ў школе непадалёк...

— Не!

— Тады, можа, ты...

— У гэтым няма ніякай неабходнасці. Мы ад'язджаем.

— З-за мяне?

— Не, проста бацьку даюць добрае месца ў Мэдзісоне. Гэта ўсяго за пяцьдзесят міль адсюль, так што мы зможам іншы раз бачыцца, праўда?

— Ты мяркуеш, у гэтым ёсць патрэба?

— Няма, напэўна...

Яны змоўклі і сядзелі, не гледзячы больш адно на аднаго. Цішыня рабілася гнятліваю.

— Калі ж гэта ўсё здарылася? — бездапаможна спытаў ён.

— Не ведаю,— адказала яна.— І ніхто не ведае. Проста аднойчы наступае такі момант, і людзей пачынае цягнуць адно да аднаго. І горка, калі гэта здараецца з тымі, хто не можа быць разам.

— Мне лепш пайсці, мэм,— прамовіў Боб, уздыхнуўшы.

— Спадзяюся, усё ж ты не страціў з-за мяне галавы?

— Не, мэм. Страціць галаву з-за вас немагчыма.

— Хачу сказаць табе яшчэ адно, Боб. Памятай: усё ў жыцці так ці інакш узнагароджваецца. Цяпер нам абаім цяжка, але калі-небудзь адбудзецца штосьці вельмі, вельмі добрае. Ты верыш мне?

— Не ведаю.

— Гэта праўда.

— Каб жа толькі...

— Што?

— Каб жа вы маглі пачакаць...

— Дзесяць гадоў?

— Мне будзе дваццаць чатыры.

— А мне трыццаць чатыры, Боб. І да таго ж я напэўна стану іншым чалавекам. Не, гэта нерэальна.

— І вы гэтага зусім не хочаце?

— Хачу,— ціха адказала яна.— Няхай сабе гэта смешна, няхай немагчыма, але я вельмі хачу.

— Я ніколі не забуду вас,— паўтарыў ён.— Я знайду спосаб запомніць вас назаўсёды.

Яна ўстала, узяла анучку і пачала сціраць з дошкі матэматычныя формулы.

— Вам дапамагчы? — спытаў ён.

— Не-не, дзякуй. Ідзі дахаты і не аставайся больш пасля ўрокаў, вельмі прашу цябе, Боб.

Ён выйшаў на вуліцу і зазірнуў у школьнае акно, каб убачыць Эн апошні раз. Стоячы каля дошкі, яна быццам у трансе церла яе анучаю. Яе рука павалі слізгала на фоне бліскучай чорнай паверхні.

На наступным тыдні ён з'ехаў з Грынтауна і цэлых шаснаццаць гадоў не паказваўся ў гарадку, нягледзячы на тое, што жыў цяпер усяго за пяцьдзесят міль. Але вось аднаго разу летам, калі Бобу споўнілася трыццаць і ён быў ужо жанаты, яны з жонкаю прыехалі ў горад яго дзяцінства і спыніліся на дзянёк па дарозе ў Чыкага.

Пакінуўшы жонку ў гатэлі, Боб пайшоў паблукаць па тых мясцінах, дзе гуляў, калі быў хлапчуком. Спачатку ён аніяк не мог рашыцца адшукаць Эн Тэйлар, але пасля ўсё-такі не вытрываў і пайшоў распытваць пра яе ў прахожых. Пошукі доўга не давалі вынікаў, ніхто не мог успомніць прыгожай маладой настаўніцы. Але Боб не здаваўся, і нарэшце адзін са старажылаў, які цудоўна ведаў і самога Боба, сказаў:

— Як жа, як жа, выдатна памятаю. Гэта ж тая самая прыгажуня, якая вучыла цябе ў школе, сынок. Яна памерла ў трыццаць шостым, хутка пасля таго, як твая сям'я выехала адсюль...

Боб прыйшоў на могілкі і пасля доўгіх пошукаў убачыў яе магілу. На пляскатым надмагільным камені быў высечаны сціплы надпіс: «Эн Тэйлар; 1910—1936».

«Божа мой,— падумаў ён,— дваццаць шэсць гадоў... Цяпер я на чатыры гады старэйшы за вас, міс Тэйлар».

А пасля жыхары гарадка ўбачылі жонку Боба. Яна ішла па вуліцы насустрач мужу, і на твары ў яе мякка паблісквалі цёплыя сонечныя зайчыкі. На пыльным гарачым асфальце яна здавалася яркаю кветкаю, што вырасла сярод пустыні, а паколькі яны з Бобам прыехалі ў Грынтаун якраз тады, калі ў гарадку ўсталявалася на некалькі дзён добрае надвор'е, жыхары аднадушна вырашылі адзначаць гэтыя дні на сваіх календарах чырвоным колерам і назваць іх днямі жонкі Боба Сполдзінга.

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.





**Так, дом без дзяцей, што дрэва без квета, яблынька без яблыкаў. Дзяцей не гадаваў — жыццё марна струбіў. Дзеці і радасць наша, і надзея... І самае галоўнае, змена наша... Дзеткам чытаем казачкі павучальныя, спяваем прыпеўкі вясёлыя, складаем калыханкі праніклёныя, дый песні якія задушэўныя... Усё лепшае — дзецям...**

**Любая матка апошнюю сарочку з сябе здыме, каб хаця дзіцятка галоднае плачам горкім пупок свой не рвала.**

# ДОМ БЕЗ ЖЫЦЦЁ БЕЗ

## «КУЮ, КУЮ НОЖКУ...»

Ці не з дзіцячага садка дзесяцігоддзі немаўляткі паўтаралі завучаныя слоўцы падзякі. І роднай партыі, і яшчэ раднейшаму ўраду, і... асабіста... І праўда ж, дзякуй вам усім за шчаслівае дзяцінства, за цікавыя кніжкі, за таннае дзіцячае адзенне, за прысмакі, за... акуляры з ружовымі шкельцамі.

Мацяркі Мазыра, Рагачова ды Ельска жывуць не ў казачным сне, а на грэшнай шматпакутнай зямлі. І ім мроіцца іншае. Хаця б кожнаму штодня свежую булку з поркалкамі, гладыш свежага «чыстага» малака. Хочацца і месцейка ў дзіцячым садку, дый набыць пару просценькіх сандалетаў на адну дзіцячую душу...

А мо не трэба так занадта прыдзірацца... Усяго толькі семдзесят тры гады да светлага заўтра ідзём. Хай сабе яно і цьмянае, але затое песні якія харошыя, мэта прыгожая ды ясная. Хто ж ведаў, што савецкі возік з такой шырокай дарогі на гарбатую і шчарбатую звярне, а грамадства апынецца ў ліпкай павуціне дэфіцыту, адчаю, самоты і чорт ведае чаго яшчэ.

А мо яшчэ раз паверым галоўнаму Прарабу, што адчыніў застойныя крамлёўскія вароты, і Партыі нашай? Паверым?

А для гэтага, як гаварылі партыйныя прапагандысты-шаманы, многа і не трэба. Адно крыху напнёмся, папружку падцягнем, недаспім, недаямо, неданосім... Але такі пабудуем...

Надзея — матка дурных, яна памірае апошняй. А не павінна памерці, не павінна!

**«Кую, кую ножку, паеду ў дарожку»,**— спявалі нашы любыя матулі і клапатлівыя бабулі. Якія то былі карэктывы ў аблытаны навукова-замудроны педагагічны вэрхал... **«Дарожка крывая, кабылка сляпая»,**— Божа, колькі мудрасці і святое прастаты ў гэтай раздумлівай прыпеўцы. Захаваліся гэтыя дыяменты народнае мудрасці ў часіны горкія і дайшлі да нас. Пакланімся, удзячныя...

Умеў гуляць, умей і дзіця забаўляць. Дзеці растуць, і бяда падрастае. Дзяцей гадуй і торбу гатуй. Гэта і сапраўды пра нас.

Калі не лянуецеся, скіруйце да ЦУМа і пабаўцеся каля часовае агароджы, аблепленай папяровымі аскепкамі. Чым не люстэрка нашага часу? Вось ён, няўмольны прысуд усёй дэмагогіі, што гучала так стамляюча доўга з высокіх трыбун. Гэта ж не плот аблеплены просьбамі і заклікамі, прапановамі. Душа наша аблеплена! На вуліцы амаль новае тысячагоддзе, а як пры цару Гароху. Прадаю, мяняю, купляю... Быка аддаю за індыка. Шкарпэткі і палітончык аддаюць за люстру, а люстру за боты. Боты нам не трэба, але за іх прывязуць сіямскага ката, а коцік нарэшце прынясе шчаслівай маці куртачку для шасцігадовага няўрымсы... І стаяць гаротнікі, старыя і малыдыя, ветэраны і зусім яшчэ падлеткі. Шчыльна цснуцца з ночы, каб уранку, пачуўшы кліч: «Пагналі!»,— уцягнуцца ў людскі вір, які прагне самага неабходнага: тых жа просценькіх дзіцячых сандалетаў ці курткі дваццаць шостага памеру...

## Я ІДУ ПА КРАІНЕ ДЗЯЦІНСТВА

Ужо каторую пару пішу гэты артыкул і нібы іду па сваёй краіне дзяцінства, якое бярэ адлік ад пасляваенных гадоў. Памяць вяртае ў гады сорак шосты, сорак сёмы і сорак восьмы. У Слуцку на людным кірмашы кожную нядзелю ад рання да змяркання сядзеў у фанерным будынку карэц, ці не адзіны прадстаўнік далёкага кантынента на Случчыне. Звалі яго проста «Чым я Магу». Гэтымі слоўцамі карэц ветліва сустракаў кожнага пакупніка, прапануючы свае самаробныя шэдэўры з паперы: дзівосныя рознакаляровыя ліхтарыкі, змеяў, невядомых, але такіх прывабных птушак, смешных чалавечкаў і шмат чаго яшчэ. І ніколі не рабіў карэц «Чым я Магу» ні самалётаў, ні танкаў, ні іншае зброі. Менавіта з тае пары, як двое дзяцей «Чым я Магу» падарваліся на міне паблізу ваеннага гарадка...

А цяпер, калі ваенныя грымоты ад нашае краіны адкаціліся яшчэ паўстагоддзя таму, мы ўзбройваем нашых дзяцей, нібыта малалетніх дэсантнікаў. Якія цацкі, такія і гульні. А мо і праўда, дзіця, не ўпаўшы, не вырасце? Нацэлыўшыся цацачным аўтаматам, засумуе па сапраўдным, калі тая часіна надыдзе...

## ЗАЕЧЫ ХЛЕБ

І зноў прыгадка з сорак сёмага... І галодна было вельмі, і холадна, і слёзы выплаканы, але жыць трэба. Жыць без хлеба, без чаравічкаў, без апраткі, без палена дроў у хаце. Пашыла нам маці цёплыя буркі з афіцэрскага немецка-



# ДЗЯЦЕЙ, ШТО СОНЦА...

га шыняла, і мы радаваліся абуўцы ўсю зіму. Нагам цёпла, але ж і есці хочацца... Быў студзень халодны, з завеямі, дзяды-маразы не ленаваліся, ціснулі за трыццаць з гакам. А мы, пяцёра дзяцей, сядзелі на галандскай грубцы, якая павінна была адагрэць часовую зямлянку. Сядзелі, грэліся. Памірала цяпло, грубка астывала. Мы паселі ўсе ўпяцёх на печачку, паадкрывалі кружочкі, а ногі хутчэй у цёплы яшчэ попел. Матуля паехала на спадарожнай у Менск, каб хлеба расстарацца, ды затрымалася. І ноч на двары, і мяцеліца не сціхае, у хаце цяпла як кот наплакаў, а матулі ўсё няма і няма.

Мама ўвайшла ў хату ноччу, уся ў белым зімовым уборы, з цяжкімі хатулямі. Доўга не магла сагрэцца, але затое ўручыла кожнаму па драбочку... заечага хлеба. Гэта была якраз тая самая лустачка, якую матуля брала сабе на падмацоўку, кіруючы на золку ў горад няблізкі.

У нашым закутку па вуліцы Майскай жыла сям'я Анастасіі і Аляксея Перагудаў. Буслы прыносілі ім амаль штовесну па двое, хлопчыка ды дзяўчынку. І былі багацеі Перагуды: шэсць хлапчукоў і шэсць дзяўчынак. Хацінка — часовы буданчык з бляхі, жэрдак, фанеры, рубероіду — усё чым багаты былі пасля вайны. І хадзілі Перагуды да халадоў басыя, а як лапіны апошняга снегу сонейка зліжа, голым пупам свяціліся. І не чулі мы, каб бацькі сварыліся, а дзеці — біліся, цацкі свае дзялячы. Адзін чыгунчык бульбы — усім пацеха, сняданак найлепшы. Кавалачак хлеба адшчыкнула маці дзіцятку, і тое пабегла... І не на гулі, а траву нарыхтоўваць... Кароўцы падмацоўка на зіму, а дзеткам — сырадойчык... Хлапчукі з бацькам лыжкі рабілі, бо на кірмашы слуцкім — капейчына неблагая. А што галасістыя былі Перагуды... І спявалі, калі есці не было чаго. Маці, як толькі чула тую песню Перагудаў, дык сыпала ў вядзерца бульбачку і ціха кранала клямку — бяры, Анастасія.

Усіх дзетак на ногі паставілі Алесь і Анастасія, вывучылі, у людзі выправілі...

А паслухай цяпер маладых ды квітучых. І не саромеюцца выказаць адна адной кабеткі «прычыны», дзякуючы якім яны не жадаюць мець дзяцей.

І на малочнай кухні корму ўрэзалі, пялёначак у краму не завезлі, зялёнкі ў аптэку не вікінулі, танных яблыкаў на кірмашы няма, цытрусаў не дакупішся, мукі не возьмеш, кватэру сонечную не выб'еш, без чаргі з немаўляткам у магазіне не ўшыешся, у радзільным аддзяленні чыстае прасціны не дапросішся.

... А вы кажаце, што з любімымі ды разумнымі дзеткамі і без грошай хораша.

## «ДЗЯДЗЯ, СКАЖЫ ЎСІМ, ШТО ТЫ — МОЙ ТАТА...»

Але самае пакутлівае бачыць дзяцей сірот. Кволенькіх, кінутых літаральна пад ногі... У нашым выпадку пад дзверы Дома дзіцяці...

За гады журналісцкай працы шмат чаго бачылася, але ніколі не забуду візіт у Мінскі дом дзіцяці. Сустрэлі мяне дзеткі насцярожана, маўкліва абступілі. Было такое дзіўнае адчуванне віны за гэтых гаротных дзетак... Не мог я падняць фотаапарат, каб зрабіць здымак у нумар, нейкая сіла стрымлівала. І тут я адчуў, як нехта крануў мяне за руку. Азірнуўся, бачу дзяўчынку гадоў пяці. Глядзіць на мяне і, слязінку выціраючы, просіць:

— Дзядзя, скажы ім усім, што ты — мой тата... Мяне тады біць не будуць, а выхавацельва брыдкімі словамі кідацца перастане...

## ЧОРНАЯ АДМЕЦІНА

Веру Раманаўну Лінкевіч я «лавіў» больш тыдня. Прафесар, доктар медыцынскіх навук, Вера Раманаўна ўзначальвае кафедру акушэрства і гінекалогіі Беларускага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга інстытута ўдасканальвання ўрачоў, а таму і клопату мае на пяцёх.

Не палічыць, колькі разоў імчала па хірурга «хуткая»: «Спяшайцеся, паважаны доктар, вас чакаюць. Жыццё будучага дзіцяці і яго маці ў небяспецы». Спяшалася Вера Раманаўна, ратавала нованароджаных.

— Вера Раманаўна,— звяртаюся да прафесара Лінкевіч,— пра вас расказваюць самыя неверагодныя гісторыі, пра цяжкія аперацыі пры родах, але мне хочацца запытацца пра бяду чарнобыльскую... Жыццё працягваецца, але ж...

Вера Раманаўна перабірае паперы, гартае, учытваецца ў радкі інфармацый, нібы ўзважваючы ўсё, пра што ідзе гаворка. З горыччу гаворыць:

— Пасля чарнобыльскай аварыі ў Мінскую вобласць прывозілі апрамененых дзяцей з зоны. Нават маленькая ранка на целе доўга не зажывала, гнаілася. Цяжарныя жанчыны з Палесся працавалі ў полі ў тыя чорныя дні. А к вечару ім рабілася дрэнна, ванітавала, ад стомы падкошваліся ногі. І ніхто з іх не ведаў, па якой прычыне.

Памятаю, сядзіць у радзільным аддзяленні маладзенькая жанчына. Яе прыслалі з Масквы з «прысудам». Цяжарная, на сёмым месяцы. Вялікімі вачамі даверліва пазірае на мяне. Дзяўчынка ты мая... Хіба доктар казачнік? Свой прысуд вынес табе Атам... Спадзяешся, што я махну казачнай палачкай-выручалачкай і ад цябе адступіць бяда? Знікне праклятая радыяцыя? У цябе ж «фон» у шмат разоў вышэй «дазволенага»... А ты верыш, што прападзе слабасць, не будзе ванітаваць, не закружыцца галава. Ты спакойна паедзеш да маці ў сваю вёсачку, свежым паветрам цешыцца, на сырадойчык! Дзіцятка тваё ножкамі стукаецца... Яшчэ трошкі, і доўгачаканы галасок пачуеш...

Я гатова крычаць, але пакуль што шапчу ёй гэтыя словы: «Чуеце, нельга! Не будзе ў вас дзіцяці! Даражэнькая мая, нельга! Вы апраменіліся! Дзіцё народзіцца, але ж... Няўжо вам патрэбен калека? Наплачацеся самі, а яму, дзіцяці вашаму...»

Вера Раманаўна, хвалюючыся, зноў перабірае паперы, паварочваецца да мяне, працягвае:

— Аніякія ўгаворы не дапамагаюць. «Доктарка, міленькая,— просіць жанчына,— а можа абыдзецца... Я дзіцятка выхаджу, пастаўлю на ногі, і маці дапаможа. Хай сыночак глухенькі, сляпенькі, але ж свой...»

Колькі такіх сцэн назірала ў клініцы, не пералічыць. Даставілі ў радзільнае аддзяленне цяжарную жанчыну з павышаным «фонам». Сама жыве ў сталіцы. На маёвыя святы надумала паехаць на Гомельшчыну да маці. І паехала. Гэта ж адбывалася другога мая, калі небяспека, як чорны груган, кружыла не толькі над шматпакутным Палессем. І самае дзіўнае, што ёй прадалі білет, пасадзілі ў аўто і павезлі на Палессе. І гэта ў той час, калі адтуль, з зоны, ужо поўным ходам ішла эвакуацыя...

— У нашай клініцы,— прыгадвае Вера Раманаўна,— пабывала трыццаць пяць цяжарных жанчын, якія сталі ахвярамі чарнобыльскай аварыі. Радыяцыя, лічыце, вынесла свой прысуд будучым дзецям...

Вера Раманаўна нагадала пра дзіўны фенамен, выкліканы радыяцыяй. Некаторыя з жанчын, якія былі бясплоднымі, пасля аварыі зацяжаралі. Праўда, ніхто з урачоў не можа адказаць на пытанне, ці не скажацца гэтая дзіўная акалічнасць на здароўі дзяцей у будучым. Наогул, на такія пытанні ніхто не можа сёння даць станоўчага адказу. Вопыту ў такой справе няма, трэба даследаваць, весці назіранні. І расцягнецца гэта на доўгія дзесяцігоддзі. Сёння немаўля, народжанае пасля Чарнобыля, і вясёлае, і здаровае, а заўтра? А праз паўстагоддзя? Якімі народзяцца ягоныя дзеці, нашы ўнукі? Цёмны лес...

— Вера Раманаўна,— пытаюся ў прафесара,— што рабіць? Як жыць далей? Ці станем мудрэйшымі, перажыўшы такую бяду?

— На жаль, бяда нас мала вучыць,— ціха адказала яна.— Ведаю адно: клопат пра тых, каго захапіла бяда, павінен быць паўсядзённым. Пара нарэшце завозіць ім экалагічна чыстыя прадукты, бо нітрат — першы «сябра» радыяцыі. Раю і самім людзям клапаціцца пра сваё здароўе, пазбаўляцца дрэнных звычак, не курыць, не захапляцца алкаголем. І нікацін, і алкаголь аслабляюць эндакрынную сістэму, псуюць нервы, шкодзяць імуннай сістэме. А гэта ж галоўныя рэгулятары жыццядзейнасці арганізма...

Так, у нялёгкі і няпросты час давялося нам жыць. А які час можна назваць лёгкім? У кожнага пакалення свае складанасці і турботы. І трэба жыць, пераадольваць цяжкасці, якія выпалі на нашу долю, радавацца і плакаць, нараджаць і гадаваць дзяцей. Бо дзеці — наша будучыня, узнагарода за каханне. Вырастуць яны, нягледзячы ні на што, усё зразумеюць і даруюць нам нястачы, адсутнасць лекаў і каларыйнае стравы, цікавых кніжак і змястоўных кінафільмаў... Кажуць, хто ў горы вырас, лепш чужому гору спагадае, не пакіне ў старасці хворую і саслабелую маці...

Жыццё працягваецца — дом пабудаваць, дрэва пасадзіць, Чалавека выхаваць...

**Вячаслаў ДУБІНКА.**

АЗБУКА КАХАННЯ



# СЯМЕЙНЫ

Для вас, паважаныя чытачы і чытачкі, мы прапануем сямейны дагавор, складзены псіхолагамі А. Егідэсам і М. Казловым. Дагавор гэты дасць магчымасць мужу і жонцы паразважаць аб праблемах, якія ў звычайнай гаворцы вырашыць падчас даволі складана.

Сямейны дагавор — цудоўны сродак лепей усвядоміць, што блізкі чалавек цэніць, чым пагарджае, што любіць, ад чаго ўстрымліваецца, якія ў яго звычкі, погляды, што можа зрабіць яго шчаслівым, а што выкліча пратэст. Вось так — у пытаннях і адказах — двое маюць магчымасць абмеркаваць планы на будучае, сваё матэрыяльнае становішча, адносіны да сваякоў і сяброў. І чым раней вы высветліце гэтыя спрэчныя пытанні, тым больш магчымасцей займееце, каб адшукаць правільную лінію вашых узаемаадносін, каб высветліць, што трэба лічыць непазбежным і ад чаго рашуча адмовіцца ў сваіх паводзінах.

Толькі майце на ўвазе, што шматлікія пытанні трэба абмяркоўваць неаднаразова: імчаць гады, адбываюцца змены ў характары і звычках чалавека, мяняюцца і абставіны, і тое, што яшчэ ўчора здавалася бясспрэчным, сёння патрабуе іншага вырашэння, а заўтра...

І яшчэ адна ўмова: гаворка на сямейную тэму павінна быць як мага больш канкрэтнай.

Вучыцеся пра ўсё гаварыць адкрыта, без эківокаў, але — тактоўна.

Вучыцеся слухаць адзін аднаго, нават тады, калі рэчы называюць «сваімі імёнамі». Вырашайце «невырашальныя» праблемы мірным шляхам, без папрокаў, зняваг і ультыматумаў.

Дыялог пачынаецца...





## 1. УЗАЕМНЫ ДАВЕР

Уявіце, што ўсё ваша жыццё фіксуецца відэакамерай. Усё, што з вамі адбываецца ці ўжо адбылося, усе вашы пачуцці і думкі, у тым ліку і думкі адно пра аднаго.

Ці згодны вы паказаць відэафільм свайго жыцця мужу (жонцы)?

Ці хацелі б паглядзець яго (яе) відэафільм? Таксама без купюр?

## 2. ПАГАДАЙЦЕ...

Кожнаму паасобку трэба дапісаць незакончаны сказ:

— Я больш за ўсё цаню ў табе ..........

(Да прыкладу: прыстойнасць, пачуццё гумару, здароўе, надзейнасць, каханне, цярпенне...)

— Мяне часта раздражняе ў табе ..........

— Я хачу, каб ты ..........

— Ты больш за ўсё цэніш ува мне ..........

(Пішыце, як думаеце, як вам бачыцца.)

— Цябе часта раздражняе ўва мне ..........

— Ты хочаш, каб я ..........

— Ты думаеш, што я хачу ад цябе ..........

Цяпер абмяняйце паперкі з адказамі, прачытайце і абмяркуйце тое, што вас найбольш зацікавіла.

Наколькі, на вашу думку, муж і жонка павінны быць адкрытымі і чыстасардэчнымі адно з адным? Ад чаго гэта залежыць? Наколькі вы будзеце шчырымі пры абмеркаванні «азбукі кахання»?

## 3. МЫ І СЯМ'Я

Якая сям'я была ў маіх бацькоў? Мае адносіны да яе?

Якую я хачу мець сям'ю? Што для мяне галоўнае ў сям'і?

Дзеля чаго мне патрэбна сям'я? Калі ўявіць выбар: маю цябе, але не маю сям'і, альбо — маю сям'ю, але не маю цябе — што выберу?

Ці патрэбна мне ўвогуле сям'я? Ці шмат я збіраюся ў яе «ўкласці» часу і сілы? Для каго з нас сям'я важнейшая?

Што я больш за ўсё цаню ў табе? Для чаго ты мне патрэбен?

А цяпер паспрабуйце даказаць субяседніку, што яму патрэбен (патрэбна) менавіта ты. Нашто я табе патрэбен? Чаму табе трэба на мне жаніцца (выходзіць замуж)? Акрамя нашага кахання, які нам у гэтым сэнс?

Калі ж каханне прайшло — што далей?

## 4. РАБОТА

Якое месца ў вашым жыцці займае работа?

Ці ёсць у вас магчымасць змяніць работу?

Чаму? Дзеля чаго? Пры якіх умовах?

Як вы будзеце ставіцца да занятасці мужа (жонкі) на рабоце? Да яго (яе) захаплення работай ці службовай кар'ерай?

## 5. АДУКАЦЫЯ

Наколькі вам падабаецца ваша адукацыя?

Ці маеце вы намер працягваць вучобу? Дзе? Як? А калі гэта стане перашкодай у сямейных адносінах? Што тады? Якую дапамогу чакаеце ад мужа (жонкі)?

Наколькі вам імпануе адукацыя мужа (жонкі)? Ці хацелі б вы, каб муж (жонка) працягваў (працягвала) адукацыю? Якую дапамогу і падтрымку ў гэтым вы згодны аказаць?

## 6. ГРОШЫ

Вашы заробкі? Вашы запасы? Вашы перспектывы? Дапамога з боку сваякоў, бацькоў?

Вы задаволены заробкам адно аднаго? Калі ж грошай не хопіць, хто з вас і як іх будзе здабываць?

Дзе і як захоўваеце грошы? Кожны сваё ці разам? Муж аддае грошы жонцы, ці ў кожнага ёсць грошы кішэнныя? Колькі?

Агульныя грошы на паліцы? Ці яшчэ як?

Трата грошай: на што ў першую чаргу, хто з вас вырашае гэтую праблему?

Незапланаваныя пакупкі — ці ёсць магчымасць іх рэгуляваць?

## 7. КВАТЭРА І РЭЧЫ

Дзе будзем жыць і на якіх умовах? Як да гэтага ставяцца бацькі? Прапіска?

# ДАГАВОР

## АБО ПРА ТОЕ, ЯК ЗНАЙСЦІ ЛЕПШЫ СРОДАК ПАЗНАЦЬ АДНО АДНАГО

Якія перспектывы з жытлом? Кааператыў? МЖК? Што вы самі для гэтага прыдбалі?

Як вы збіраецеся мэбляваць кватэру? Ваш стыль? Якім рэчам аддаяце перавагу: дарагім, элегантным або звычайным? У стылі рэтра? Спартыўным?

З-за якіх сапсаваных рэчаў вы ўчыніце скандал? А што, на ваш погляд, у кватэры лішняе? Непатрэбнае?

### 8. ГАСПАДАРКА

Кухня:

— Хто ходзіць у краму, на кірмаш? Што купляе, хто стаіць у чэргах і гэтак далей?

— Хто гатуе ежу? Хто павінен дапамагаць і якім чынам?

— Хто прыбірае са стала і мые посуд?

— Якая рэакцыя, калі нехта НЕ: не пайшоў у краму, не прыгатаваў сняданак, не прыбраў посуд і г. д.? А ў адказ?

Пральня:

— Хто займаецца гэтай справай, хто прасуе, хто наведваецца ў пральню ці хімчыстку?

— Якая, у якім выглядзе і наколькі рэгулюецца гэта дапамога?



Рамонт:

— Якой парады чакаеце ад мужа? Як рэагуеце, калі тэрмін рамонту зацягваецца або якасць яго — «курам на смех»?

### 9. ЧЫСЦІНЯ І ПАРАДАК У ДОМЕ

Што гэта азначае і наколькі гэта істотна для вас?

Хто мые падлогу, пыласосіць, працірае мэблю? Як часта?

Ці прыбіраеце за сабой ложак? Ці вешаеце вопратку самі, ці кладзяце рэчы туды, дзе для іх адведзена месца?

Як рэагуеце, калі хтосьці НЕ: не мые, не выцірае, не пыласосіць, не гатуе ежу і г. д.? А ў адказ?

### 10. ХАРЧАВАННЕ

Якія пажаданні, запатрабаванні? Вегетарыянства? Дыета? Галаданне? Сервіроўка стала?

Як рэагуеце, калі ежа аднастайная, нясмачная? А калі наадварот? Ці вы гэтага не заўважаеце?

### 11. РЭЖЫМ ДНЯ

Вы сава ці жаўранак? А якой гадзіне вы, па завядзёнцы, кладзяцеся спаць і прачынаецеся? У дні будзённыя? У святочныя? Ці не змінаеце вы адно аднаму?

### 12. АДЗЕННЕ, ДОГЛЯД ЗА САБОЙ

Што вас найбольш прываблівае ў выглядзе мужа? Што наадварот — адштурхоўвае?

Адзенне: адносіны да моды, густ, колькі траціце сродкаў на гэта? Ці ўзгадняеце густы? Кожны дзейнічае паасобку? Касметыка? Цырульня? Лазня? Сауна? Непрычасаныя валасы, недагледжаныя пазногці?

### 13. СВАЯКІ І БАЦЬКІ

Якія адносіны з бацькамі і сваякамі зараз? І якімі вы іх хацелі б бачыць? Характар і колькасць кантактаў з раднёй? Іхняя дапамога вам і ваша — ім?

Як паводзіце сябе і чаго чакаеце адно ад аднаго, калі адносіны з бацькамі ці сваякамі не «клеяцца»? Якія тут ёсць варыянты? Ваш адказ на ультыматум: «Альбо — я, альбо — ён (яна), яны»?

Ці цікавяцца сваякі вашымі адносінамі?

А спрэчкі? Сваркі? Як часта? З якой нагоды? Як і хто пры неабходнасці павінен гэтыя канфлікты нейтралізаваць?

### 14. ДЗЕЦІ

Калі, колькі, хлопчыка ці дзяўчынку вы хацелі б займець?

Пажаданні па імёнах? Што наконт хрышчэння?

Хто будзе займацца з дзіцем, на якую дапамогу вы разлічваеце канкрэтна? Мыццё пялёнак, крамы, догляд малога ноччу? Як адрэагаваць, калі дапамога будзе недастатковай?

Бацька — толькі «мамін слуга» ў доглядзе і выхаванні дзіцяці? Ці ў вас інакш? Вашы меркаванні пра метады выхавання дзяцей? Адносіны да нетрадыцыйных метадаў (вопыт Нікіцiных і іншых педагогаў)?

Як перамагаеце рознагалоссе ў пытаннях сямейнага выхавання?

Ці маеце намер аддаваць дзіця ў яслі, садок?

А калі дзяцей не будзе? А калі цяжарнасць... незапланаваная?

### 15. ДУХОЎНАЕ ЖЫЦЦЕ І КАШТОЎНАСЦІ

Пагарда да якіх каштоўнасцей і рэчаў вас крыўдзіць?

Вашы адносіны і меркаванні з нагоды:

— Падзей у краіне і за яе межамі?

— Сучасная і класічная літаратура? Паэзія? Любімыя аўтары?

— Тэатр? Балет? Кіно? Выяўленчае мастацтва? Музыка? Што любіце, а што адхіляеце? І — чаму?

— Рэлігія? Філасофія? Псіхалогія? Парапсіхалогія? Ёга? НЛА? Забабоны? Іншыя спрэчныя з'явы і рэчы?

### 16. ВОЛЬНЫ ЧАС І ЗАХАПЛЕННІ

Колькі яго ў вас? Як плануеце яго «выкраіць», калі вольнага часу будзе не хапаць?

Вашы захапленні? Наколькі сур'ёзна? Ці можа так здарыцца, што вашы захапленні пойдуць «уразрэз» з інтарэсамі сям'і? Што тады?

Ці абавязан (абавязана) падтрымліваць вашы захапленні муж (жонка)?

А калі ён (яна) раўнадушныя?

Як вы бавіце вольны час? Як мяркуеце планаваць свой вольны час у сямейным жыцці?

Вашы адносіны да паходу ў кіно, тэатр, кансерваторыю, на стадыён? Бары, піўныя бары? Адносіны да турыстычных паходаў? Тэлевізара? Чытання кніг? Заняткаў спортам? Магчымасці? Ці «хварэеце» за любімую каманду?

Ці плануеце рабіць ранішнюю фіззарадку? Шпацыраваць вечарамі?

Ці любіце хатніх жывёл? Ці збіраецеся іх займець самі?

### 17. СЯБРЫ

Хто вашы сябры цяпер? Чаму менавіта яны? Які характар кантактаў з сябрамі? Мае (твае) адносіны да сяброў, пажаданні?

Сустрэчы з сябрамі: як часта, дзе, у якой форме? Разам ці паасобку?

Ці застаюцца сябры ў вас нанач? Што гэта за сябры? Калі наведваецца ў госці дзяўчына, якую муж раней кахаў або з якой меў сувязі,— ваша рэакцыя? Аналагічна — яго рэакцыя?

І ўвогуле — вашы адносіны да мінулых сувязей, закаханасцей?



## 18. ВЕРНАСЦЬ І ЗДРАДНІЦТВА

Ці мае магчымасць муж на рабоце, у адпачынку знаходзіцца ў блізкіх сяброўскіх адносінах з жанчынай? Абняць яе? Пацалаваць? Пры жонцы? Без жонкі? А калі ёй пра гэта раскажуць? Сітуацыя наадварот — адносіны да яе з боку мужа?

Ці характэрная для вас раўнівасць і як вы ўвогуле ставіцеся да рэўнасці сваёй і ягонай?

Што вы лічыце здрадніцтвам? Муж заляцаецца да іншае жанчыны? Гэта — здрада? А што, калі гэта рэакцыя на вашы паводзіны? Як вы будзеце на гэта рэагаваць, што збіраецеся зрабіць? Сітуацыя наадварот — пытанне мужу?

Як вы збіраецеся сябе паводзіць, калі ваш муж вам здрадзіў?

Здрада бачыцца вам выпадковай? Аналагічнае пытанне мужу.

Калі ж муж захапляецца сур'ёзна — што вы на гэта скажаце, якія зробіце захады? Якая гаворка можа адбыцца паміж вамі? Сітуацыя наадварот: пытанне мужу.

## 19. СЕКС У ВАШЫМ ЖЫЦЦІ

Ці закранаеце ў гаворках вы гэтую тэму? Як вы ставіцеся да палавога жыцця? Што вы ў гэтым плане чакаеце адно ад аднаго?

Ці прынцыпова для мужа, каб ён быў першым мужчынам для жонкі?

Якія праблемы могуць здарыцца ў вас і што вы ў гэтых адносінах чакаеце ад мужа (жонкі)? Калі ж палавое жыццё вас не задавоііць, ці лічыце вы магчымым тактычна, але адкрыта абмеркаваць гэтае інтымнае пытанне? Ці найперш звернецеся да спецыяліста-сексолага?

Калі вы не спяшаецеся займець дзіця, якія сродкі засцярогі вы выбіраеце?

Як вы ставіцеся да незвычайных форм (пазіцыі, ласкі) у інтымных адносінах? Што для вас больш пажадана, а што — не?

Які рэжым палавога жыцця для вас аптымальны? Ад чаго гэта залежыць?

## 20. АСАБІСТАЯ ВОЛЯ І ПРЫНЯЦЦЕ РАШЭННЯЎ

Муж і жонка застаюцца вольнымі птахамі. Чым гэта воля абмяжоўваецца?

Якія пытанні вашага сямейнага жыцця вы мяркуеце вырашаць сумесна, якія — паасобку?

Што раздражняе адно ў адным? Як часта і з якой нагоды вы спрачаецеся? Якія праблемы вы не даваляеце абмяркоўваць ці ўвогуле лічыце «забароненымі»?

Калі вы не змаглі дамовіцца аб нечым, каму належыць права рашаючага голасу?

Хто «галава» сям'і? У якіх пытаннях, сферах «галава» — жонка, у якіх — муж?

Ці маюць уплыў на вашы ўчынкі парады бацькоў? Як? Як вы самі да гэтага ставіцеся?

## 21. МАНЕРЫ ПАВОДЗІН І ШКОДНЫЯ ЗВЫЧКІ

Наколькі важна «весці сябе прыстойна» сярод людзей і што для вас гэта азначае?

Ці можна спяваць на вуліцы? Быць неахайна апранутым, калі да вас завіталі госці, сябры? А калі дома вы адзін (адна)?

Вы курыце, выпіваеце? Калі? Колькі? Што будзеце дазваляць мужу (жонцы)? Як адрэагуеце, калі муж вернецца дадому «пад мухай»?

Калі ў мужа выявяцца звычкі, для вас не прыемныя (грызе пазногці, шаркае нагамі, не мые рук перад тым, як сесці за стол), як вы на гэта будзеце рэагаваць? Што чакаеце ў адказ?

## 22. ВАШЫ АДНОСІНЫ

Муж з жонкай павінны быць стрыманымі, ласкавымі? А на людзях? А сам-насам?

Якія знакі ўвагі адно да аднаго вы лічыце самымі важнымі? Абавязковымі? Якія — непатрэбнымі?

Ці падабаецца вам падносіць падарункі?

А — прымаць? Якія? Ці абавязкова папярэдне гаварыць пра падарунак, альбо гэта павінен быць сюрпрыз?

Як сябе паводзіць, што рабіць, калі ў мужа (жонкі) дрэнны настрой?

Як рэагуеце на спазненне? На адказ: «Я запамятаваў...». Ці — «Я не паспеў...» і гэтак далей? На хлусню? Што лічыце прыстойным, а што — «здрадніцтвам»? І як рэагуеце на гэта?

Ці трэба сварыцца з-за дробязі, ужываць «моцныя», нязветлівыя словы і выразы? Пераходзіць «на асобу»? На бацькоў?

А калі ён (яна) пачаў (пачала) першай?

Ці згодны вы ў выпадку вострых канфліктаў трымаць сябе «ў рамках», уключаць магнітафон і запісваць «сур'ёзную гаворку» на плёнку?

Хто павінен першым пайсці на перамір'е?

## 23. ВАШЫ ПРЫНЦЫПЫ І ЛОЗУНГІ

Вашы думкі наконт наступных прынцыпаў і лозунгаў:

«Мы жывём сваім розумам. Усіх слухаем, але рашэнні прымаем усё ж самі».

«Раўнапраўе. Што дазволена аднаму, тое дазволена і другому».

«Нашы адносіны і душэўны стан даражэй за ўсе рэчы і грошы».

«Мы кахаем адно аднаго, а не выхоўваем».

«Не клапаціцеся пра мяне супраць маёй волі».

«Не пярэч, бо ўсе пытанні мы вырашаем мірна».

«Што тычыцца мяне — вырашаю сам».

«Свае думкі і пажаданні вырашаю і ажыццяўляю за свой рахунак. Табе нешта трэба — ты і рабі».

«Будзь гатовы дапамагчы, але ж не патрабуй дапамогі. Ніхто ні перад кім не абавязаны».

«Сварыцца не трэба. Не падабаецца — дапамажы альбо зрабі сам».

«Не крыўдуй. У нас кепскіх людзей няма».

«Не абурайся. І не маўчы. Не падабаецца — падыдзі і скажы, што ды як. Ты пакрыўдзіўся — ты і вінаваты».

«Больш вінаваты не той, хто пачаў сварыцца першым, а той, хто сварку працягваў».

«Вінаваты не той, хто хлусіць, а той, каму праўду казаць «небяспечна».

## 24. ФАРМАЛЬНАСЦІ

Калі і як маеце намер спраўляць вяселле? Гэта будзе дарагі спектакль у рэстаране з мностваам сваякоў ці сціплая сямейная падзея, на якую збяруцца самыя блізкія людзі? Будзеце купляць шыкоўнае ўбранне ці абыдзецеся тым, што ёсць?

Змена прозвішча жонкі?

Пры якіх умовах вы аформіце развод? А што з кватэрай? Дзіцем? Аліментамі?

Ці захочаце пасля разводу падтрымліваць чалавечыя адносіны? Ці захаваеце для дзяцей абодвух бацькоў? Ці «закрэсліце» аднаго з дваіх — маці (бацьку)?

## 25. І НА ЗАКАНЧЭННЕ

Тое, аб чым вы дамовіліся ў часе «сямейнага дагавору»,— гэта назаўсёды? Альбо, калі зменяцца абставіны, вы аб нечым дамовіцеся нанова? Нешта перайначыце ў адносінах адно да аднаго?

Якія пачуцці былі ў вас у часе абмеркавання пытанняў мужа да жонкі і наадварот? Што раздражняла, непакоіла? Што радавала? Ці ёсць пачуццё падзякі да мужа (жонкі)?..





## ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

☐ Старажытныя хрысціяне некалі ўвогуле адмаўляліся адзначаць Новы год, бо лічылі, што гэта «язычніцкая звычка». Яшчэ ў 692 годзе сінод Канстанцінопаля заклікаў «не ўдзельнічаць у гэтым свяце».

☐ Першаадкрывальнікамі новай традыцыі сустракаць Новы год каля ёлкі былі старажытныя германцы. Яны лічылі, што менавіта на ёлцы жыве «лясны дух і абаронца прыроды», і таму наведваліся ў лес, каб папрасіць «духаў» узнагародзіць іх «шчаслівым годам».

☐ У 1752 годзе парламент Англіі вырашыў перанесці святкаванне Новага года з сакавіка на 1 студзеня. Гэтае рашэнне мужчыны ўспрынялі спакойна, а вось жанчыны... абурыліся і накіравалі ў парламент дэпутацыю з ультыматумам: «Ніхто не мае права дадаваць лішнія дні і месяцы да ўзросту жанчын». Старшыня парламента нават усклікнуў: «Вось класічны прыклад жаночай логікі!»

☐ Першая публічная ёлка «ўб[illegible]ся» ў Расіі на вакзале ў Пецярбурзе. Адбылося гэта ў 1852 годзе.

☐ «Па прыкладу ўсіх хрысціянскіх народаў... лічыць Новы год не з першага верасня, а з першага студзеня 1700 года. І ў знак гэтага пачынання і новага стогадовага веку ў весялосці віншаваць адно аднаго з Новым годам. Па знакамітых вуліцах ля брам упрыгожваць дрэвы, хваёвыя і яловыя галінкі...»

З гэтага Загада Пятра I і бярэ свой пачатак традыцыя ўпрыгожвання навагодніх ёлак.

☐ Карнавальныя маскі ў Расіі з'явіліся ў XVIII стагоддзі, калі адзначалі шыкоўны маскарад з нагоды падпісання мірнага пагаднення з Швецыяй.

☐ Самымі першымі на зямным шары сустракаюць Новы год жыхары астравоў архіпелага Фіджы.

☐ У нас у краіне першымі сустракаюць Новы год на Чукотцы. Калі там уздымаюць бакалы з ша[illegible]скім (спадзяёмся, што гэты [illegible]так з'явіцца ў крамах!) у гонар Новага — 1992 года, у Мінску гадзіннікі будуць паказваць 14 гадзін апоўдні 31 снежня.

☐ Апоўначы 31 снежня званы ўсіх будыйскіх храмаў Японіі адбіваюць 108 разоў у гонар нараджэння Новага года.

☐ У Балгарыі ўсе з нецярплівасцю чакаюць апошняга ўдару гадзінніка, пасля чаго па традыцыі на некалькі хвілін патухае святло. І тады пачынаюць свой адлік «хвіліны... пацалункаў».

☐ У Іспаніі ў навагоднюю ноч хлопцы і дзяўчаты ў жартаўлівай форме заключаюць фіктыўныя... шлюбы. Па жэрабю ўдзельнікі гульні цягнуць паперкі з імёнамі сваіх суджаных. «Шлюбныя пары» лічаць улюбёнцамі да канца свята.

☐ Па фінскім павер'і за навагодні стол трэба сесці не меней дзевяці разоў: чым больш з'ясць гаспадар, тым больш плёна ён будзе працаваць, што прынясе добрыя набыткі. У навагоднюю ноч у спіс страў фіны абавязкова ўключаюць часнок з... мёдам.

# СЯМЕЙНЫ ДАЙДЖЭСТ



**Апошні, 12 нумар «Беларусі», чытачы атрымаюць якраз напярэдадні Каляд, а нехта і ўвогуле напярэдадні новага — 1992 года. Дні калядныя і навагоднія дадуць магчымасць на пэўны час адысці ад палітыкі, ад надзённых клопатаў і трывог, пабыць з сям'ёю, памарыць, паслухаць калядныя фальклорныя песні, у якіх ажываюць Бог і Вечнасць, Любоў і Надзея.**

**Каляды і Новы год — святы сям'і, святы сямейнага суладдзя. І таму асноўная тэматыка «Сямейнага дайджэста», які вы зараз прачытаеце,— калядныя і навагоднія фантазіі.**

□ Дзве тысячы гадоў назад у першы дзень Новага года рымляне падносілі родным і знаёмым фрукты і мёд.

□ У егіпецкіх пірамідах археолагі знайшлі вазы, створаныя прыкладна тры тысячы гадоў назад, і прачыталі вось гэты надпіс: «Вынаходніцтвы года харошага». Знойдзена шмат іншых навагодніх сувеніраў старажытных егіпцян: бронзавыя фігуркі малпаў, статуэткі, прадметы раскошы са словамі віншаванняў з надыходзячым Новым годам. Гэта, напэўна, і ёсць першыя навагоднія сувеніры homo sapiens — чалавека разумнага.

□ Што ні народ, то свой каляндар. У старажытных славян ён быў цесна знітаваны з прыродай. І па сёння ў беларускай і ўкраінскай мовах сустракаюцца вось такія назвы месяцаў года: Люты, Снежань, Травень, Лістапад... Падобныя назвы месяцаў сустракаліся ў свой час і на Русі, але калі Пётр І перанёс пачатак Новага года з 1 верасня на 1 студзеня, ён змяніў і назвы месяцаў на еўрапейскі лад.

□ Нідзе ў свеце Новы год не адзначаюць так часта, як на інданезійскім востраве Балі. Справа ў тым, што год на Балі доўжыцца... 210 дзён.

□ Сярод казачных і міфалагічных персанажаў, якія разносяць дзятве навагоднія падарункі, найбольш папулярныя Санта Клаус і Дзед Мароз.

## З ДАСЬЕ ЭРУДЫТА

«Шукаю сябра», «Шукаю жонку», «Шукаю мужа» — сёння аб'явы з гэтымі словамі зусім не сенсацыйныя. Сенсацыйнымі яны былі — 300 гадоў назад.

Афіцыйна даследавана, што першая шлюбная аб'ява з'явілася ў 1721 годзе ў Швецыі. Яе аўтар — 30-гадовая жыхарка Стакгольма А. Сорэнсан.

У Англіі гэткая ж аб'ява нейкай Хэлен Мюрысан была змешчана ў газеце «Манчэстэр цыклі» ў 1727 годзе. Чым усё скончылася? Скандалам! За «не зусім звычайны спосаб шукаць жаніха» паводле патрабавання мясцовай царквы Мюрысан аштрафавалі і амаль месяц трымалі ў доме для... вар'ятаў.

Пасля гэтага шлюбныя аб'явы ў публічным друку не з'яўляліся або друкаваліся без указання прозвішча і адраса партнёраў.

Першы нумар маскоўскай «Брачной газеты» выйшаў у свет у 1906 годзе і выдаваўся аж да рэвалюцыі 1917 года.

Сёння, як вядома, «шлюбныя аб'явы» зноў свабодна друкуюцца ў газетах тыпу «Двое». Шмат у якіх гарадах працуюць «Бюро шлюбаў», «Бюро знаёмстваў» і г. д.

Не абышлося без сенсацыі ў нашыя дні. У японскім горадзе Цукубэ адбыўся... «электронны шлюб». Упершыню ў гісторыі камп'ютэр спачатку падабраў жаніху нявесту, а затым параіў маладым «брацць шлюб».



## УВАГА! ЗЯЛЁНАЕ СВЯТЛО!..

Якое святло найбольш спрыяе чалавеку? Вучоныя сцвярджаюць: існуе сувязь паміж колерам і характарам чалавека, ягоным настроем.

**СІНІ** колер часткова здымае стрэс, станоўча ўплывае на сардэчны рытм.

**ЖОЎТЫ** — стабілізуе нервовую сістэму, дадае чалавеку аптымізму і надзеі.

**ФІЯЛЕТАВЫ** колер да твару людзям эмацыянальным.

**РУДЫ** — колер трывогі і ўнутранага дыскамфорту.

**БЛАКІТНЫ** — надае адчуванне спакою і прасторы. Гэта мудры колер, і яго асабліва любяць жанчыны.

**БЕЛЫ** — сінтэз усіх кветак. Яму аддаюць перавагу людзі з розным тэмпераментам.

**ЧЫРВОНЫ** колер — для людзей мужных і рашучых. У той жа час гэты колер найбольш актыўна стамляе зрок.

**ЗЯЛЁНЫ.** Гэта колер прыроды і жыцця. Ён гарманізуе, супакойвае. Старажытныя людзі лічылі, што зялёны колер уплывае на чуласць, пластыку і грацыю.

**З гэтай нагоды мы і хацелі б параіць чытачам «Беларусі»: «Няхай вам у Новым годзе свеціць зялёны!»**



## МАТАЙЦЕ НА ВУС!

▣ Самы небяспечны занятак у свеце — курэнне. Штогод ва ўсім свеце ад яго гіне каля 800 000 чалавек.

▣ Калі госці кураць у пакоі, запаліце свечку — яе полымя часткова ачысціць паветра. А каб свечка гарэла раўней і працяглы час, палажыце ля кнота некалькі крышталікаў солі.

### ЛІЧБЫ НА ШЧАСЦЕ

**АВЕН** — 7; 47; 87
**ЦЯЛЕЦ** — 5; 25; 75
**БЛІЗНЯТЫ** — 3; 13; 33
**РАК** — 2; 12; 72
**ЛЕЎ** — 1; 81; 91
**ДЗЕВА** — 3; 23; 33
**ШАЛІ** — 5; 25; 35
**СКАРПІЁН** — 7; 47; 87
**СТРАЛЕЦ** — 4; 14; 24
**КАЗЯРОГ** — 8; 18; 28
**ВАДАЛЕЙ** — 9; 39; 49
**РЫБЫ** — 4; 14; 24

## САМ САБЕ... КАШПІРОЎСКІ

Знаёмім чытачоў з незвычайнай гімнастыкай — гімнастыкай гукаў. Злучэнне гукаў у слове **«анахат»** з націскам на апошнім складзе цудоўна вібрыруе сардэчныя мышцы.

**«Оо-хам»** станоўча ўплывае на шчытападобную залозу.

**«Хамсах»** — адначасова вібрырує і мозг, і сэрца.

## АМЕРЫКАНСКІЯ... СЛАВЯНКІ

Славянскія імёны вельмі папулярныя ў Амерыцы. Часцей за ўсё сустракаюцца вось якія імёны: Таццяна, Тамара, Наталля, Ганна, Вера, Кіра, Вольга, Лара... Дарэчы, мужчынскім імёнам пашанцавала меней, аднак у ЗША можна сустрэць даволі нечаканае імя — Рымскі. Яго даюць немаўлятам у гонар кампазітара Рымскага-Корсакава.

## ЦІКАВАЯ ПАРАДА,

### як сапсаваць чалавеку настрой

Муж жонцы:

— Я адчуваю, што ты на мяне пакрыўдзілася.

— Выкінь з галавы! З чаго ты ўзяў?

— Бачу. Ты лепш праўду скажы.

— Я яшчэ раз паўтараю: усё ў парадку! Я не крыўдую. Не крыўдую!

— А калі не пакрыўджана, тады навошта крычаць не сваім голасам? Мы ж культурныя людзі. Давай усё абмяркуем спакойна.

— Што абмяркуем? Што? Ты што — з глузду з'ехаў? Табе самы час лячыцца!..

...Што і патрабавалася, каб сапсаваць чалавеку настрой.

## ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ?

● Маці пытаецца ў дачкі, аб чым ішла гаворка ў часе службы ў царкве.

— Аб Адаме і Еве, мама. Ты, канечне ж, ведаеш гэты анекдот...

● У агенцтве па шлюбу нявеста тлумачыць, якога жаніха ёй хацелася б мець:

— Ён павінен быць рахманым, памяркоўным, мець шырокі кругагляд, любіць хатніх жывёл, расказваць мне ўсялякія цікавыя гісторыі, каменціраваць падзеі ў свеце і ніколі мне не пярэчыць...

— Усё ясна. У такім разе вам патрэбен не муж, а... тэлевізар.

● Маладажоны прыйшлі да свяшчэнніка прасіць аб разводзе. Той пачаў гаворку здалёк:

— Разумееце, людзі сустракаюцца, як у моры караблі...

— Так. Але справа ў тым, што сустрэў... мінаносца!

● — Я хацеў бы заказаць месца ў круізе для сябе і сваёй жонкі.

— Калі ласка. У вас ёсць нейкія пажаданні? Вам — асобную каюту? Асобны ложак?

— Асобныя цеплаходы!

● — Я ўдзячна швейцарскім Альпам за самыя шчаслівыя дні ў маім жыцці.

— Але ж ты не была ў тых Альпах!

— Затое быў мой муж...

● Муж кажа жонцы:

— Вось артыкул аб рыбах. Пачытай! Ты таксама магла б павучыцца ў рыб маўчанню.

— Спярша ты сам навучыся ў іх піць адну толькі ваду!

● Дыялог маладажонаў.

Ён: — Любая, можна я буду называць цябе Евай?

Яна: — Чаму?

Ён: — Ты ж у мяне першая...

Яна: — Добра. А можна я цябе буду называць «Масквічом»?

Ён: — Чаму «Масквічом»?

Яна: — Ты ж у мяне 412-ты...



# СМЕРЦЬ МАШЭКІ

Пад дубам магутным заснуў-прылёг волат Машэка. Жоўтым і чырвоным золатам асыпае яго асенні вецер, ды нішто не можа перарваць яго глыбокага сну. Бачыць Машэка маленькага льнавалосага хлопчыка, які падае сарваную валошку сінявокай дзяўчынцы, што пляце вяночак. А потым бачыць гэтага хлопчыка статным юнаком, а дзяўчынку — прыгажуняй Прадславай. І чуе Машэка ціхую размову іх.

— Прадслава, сяброўка мілая, дрэнны князь нам дастаўся. Не хачу спіну гнуць на яго, потам зямлю паліваць дзеля багацця яго.

— Ідзі, Машэка, у ратнікі. З тваёй сілаю ды розумам баявая слава чакае цябе.

— Каб не потам, дык крывёю паліваць зямлю ў гонар князя?

— Што ж ты хочаш, Машэка, ніяк зразумець не магу.

— Рабу — ланцугі, Прадслава, вольнаму — воля. Пайду ў лясы густыя, непраходныя. Кажуць, хаваюцца там людзі смелыя, мужныя, да іх у брацтва папрашуся. Ці пойдзеш са мною, мілая?

Адхінаецца красуня ад юнака, які ўжо гатовы сціснуць яе ў абдымках.

— Што ты, родненькі? Як і язык паварочваецца гаварыць такое? Гэтыя ж людзі, смелыя ды мужныя,— ліхія разбойнікі. Выходзяць яны на вялікую дарогу і не толькі княжых людзей рабуюць, а і купцам праходу не даюць, высочваюць сялян безабаронных, што з кірмашу дамоў вяртаюцца, дзяўчат крадуць ад бацькоў ды, нацешыўшыся, у лесе і кідаюць. Не хадзі, Машэка, у разбойнікі! Не зжыць сілаю зла ды несправядлівасці. Толькі розум пераможа іх. Застанься са мною, сябра мілы, ды ідзі да князя на службу. Заслужы яго ласку ды павагу, а тады і адкрый яму, маладому, неразумнаму, вочы на праўду нашу горкую, на тое, як людзям цяжка пад рукою ягонай жорсткаю...

Але не слухае больш дзяўчыны Машэка, бо сэрцам неспакойным ён ужо з тымі малайцамі з лесу. Рукі яго прагнуць ліхой справы, душа — славы...

Спіць Машэка і стогне ў сне сваім. Бачыць ён крывавыя подзвігі лясных братоў, дзёрзкія набегі, жорсткія расправы. Бачыць, як выбіраюць яго замест забітага атамана і як упершыню ўзмахвае ён паліцаю атаманскаю, з сілаю рассякаючы паветра. А яшчэ бачыць ён церам княжацкі ў полымі — так Машэка загадаў адсвяткаваць сваё прызначэнне. Тады шмат служак княжых загінула ад рук галаварэзаў Машэкавых, але і разбойнікі многія прынялі смерць.

З тых часін і пачалі ў народзе важака разбойнікаў называць ільвом. Але рана ўзрадаваўся просты люд, шукаючы ў Машэку свайго заступніка. Забыўся ён за славаю сваёй акаяннай, што мысліў раней сілаю супраць несправядлівасці змагацца.

І стаў грозны Машэка злодзеем і забойцам, крыўдзіў нават старых, удоў ды сірот. Лясны князь стаў жахам зямлі.

І пра Прадславу забыўся зусім і, мабыць, не ўспомніў бы ніколі, калі б не вестка дзіўная, неспадзяваная: у княжацкім цераме Прадслава.

Відаць, добрае штосьці варухнулася ў жорсткім сэрцы Машэкавым, думка з'явілася страшная: сілаю трымае мілую сяброўку дзяцінства князь, выратавання чакае ад яго, Машэкі, Прадслава!

І паслаў атаман разбойнікаў да красуні чалавека свайго са словамі: «Пратрымайся, Прадслава, дзень ды ночку. Машэка знойдзе, як цябе вызваліць».

Але вярнуўся пасланец хутка і перадаў адказ дзяўчыны: «Не трэба мне, Машэка, твая дапамога. Па сваёй волі ў цераме я княжацкім, і хутка назаве мяне малады князь жонкаю. Палюбілася яму, відаць, Прадслава за сумленнасць і шчырасць сваю. Адкрыла вочы князю на зло ды несправядлівасць, і ён шчыра пажадаў выправіць усе памылкі свае.

Ці памятаеш, Машэка, спрэчку нашу? Хіба не гаварыла я тады, што розумам можна большага дабіцца, чым сілаю? Перамагла я цябе ў той спрэчцы...»

Спіць Машэка і не заўважае, як халодны асенні дождж ціха раняе на яго слёзы жалю і смутку...

Бачыць у сне Машэка сваю крывавую помсту князю за тое, што адабраў у яго Прадславу менавіта тады, калі зразумеў атаман, што ў ёй адной — яго шчасце. Бачыць, як падае, скрываўлены, малады князь ля ног яго і з апошніх сіл цягнецца да мяча, каб абараніць маладую княгіню.

І зноў бачыцца Машэку тое зло, якім адплаціў ён прыгажуні Прадславе за шчырасць яе і дабрыню: скамечаны шлюбны ложак, нянавісць у позірку яе ды праклёны на прыгожых вуснах...

Халодныя слёзы ў асенняга дажджу, але нейкія гарачыя кроплі падаюць на твар Машэкі, і ён адкрывае вочы. На фоне хмурнага лістападаўскага неба бачыць бледны твар Прадславін, сінія калісьці вочы яе, зараз шэрыя, як гэта халоднае неба.

— Прачніся, Машэка,— ціха гаворыць яна. — Сустрэнь смерць сваю, бо завітала яна ўрэшце да цябе — за маёю спінаю стаіць, маю руку накіроўвае.

Далёка разносіцца ў лістападаўскім лесе жудасны крык. Збегліся на яго разбойнікі і з жахам убачылі мёртвага свайго атамана ля ног Прадславы, якая трымала ў руцэ акрываўлены кінжал.

Яна нават не супраціўлялася, калі воіны Машэкавы жывою закапалі яе ў адной магіле з атаманам, а толькі глядзела, пакуль можна, угору, туды, дзе ўзыходзіла няяркае асенняе сонца. І чамусьці ўсміхалася...

Курган, які вырас над галовамі Машэкі і Прадславы, народ назваў Магілай Льва, горад, што з'явіўся праз стагоддзі на тым месцы,— Магілёвам. Памяць пра грознага Машэку жыве і дагэтуль, але чорная гэтая памяць, як лістападаўскія хмары. Памяць жа аб Прадславе — нібы апошні светлы дзень восені, ціхая ды ўзнёслая, бо гэтаксама, як і яна, прымаюць смерць позняй восенню дрэвы, каб мацней зазелянела выкінутае з пупышак маладое лісце вясною.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА.**

**А. Марачкін.**
**Смерць Машэкі.**









# КАМУ ЧЫГУН МЫЦЬ?

КАЗКА

**Пятро Васючэнка піша вясёлыя казкі пра двух фанабэрыстых, няўклюдных, але ў чымсь і сімпатычных паноў — Кубліцкага ды Заблоцкага. Чытачы дзіцячага часопіса «Бярозка» памятаюць колішнія прыгоды паноў — як яны варылі поліўку з уласных ботаў, як выседжвалі яйка Куркі Рабкі, як хадзілі на вайну, што распачалі паміж сабою князь Дрыгайла ды кароль Гарбуз... Сёння на старонках «Беларусі» — новыя казкі пра паноў Кубліцкага ды Заблоцкага.**
**А пра тое, што яшчэ здарылася з нашымі героямі, вы даведаецеся, прачытаўшы кнігу П. Васючэнкі «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага», якая рыхтуецца да друку ў выдавецтве «Юнацтва».**

Ходзіць па нашым краі пагалоска пра паноў Кубліцкага ды Заблоцкага, што жылі яшчэ ў тыя часы, калі й вада была макрэйшая, і снег бялейшы. Можа, вы чулі, як пан Заблоцкі мыла прадаваў? Ну, які ён меў з таго прынажытак, усе ведаюць. Яшчэ дасюль кажуць: «Зарабіў, як пан Заблоцкі на мыле». Гамоняць яшчэ пра тое, як паны Кубліцкі ды Заблоцкі з'елі свае боты. Ясна, што гэта ў іх сталася не ад добрага жыцця. Раней у іх усяго было ўдосталь — і хлеба, і да хлеба. Але ж і пад'есці яны надта любілі. Нядзіўна, што гаспадарка ў абодвух звялася, усё ляснула — гаёк, палеткі, каровы, свінні, птаства. Засталася на дваіх адна ўбогая хаціна, у падполлі — вецер ды галодныя мышы.

Вось паны аднойчы расклалі агонь, набухалі вады ў чыгун, скінулі боты — ды туды ж, у чыгун. Добрая поліўка атрымалася, балазе ў паноў боты былі дыхтоўныя, шмальцам падмазаныя. Паны яе сёрбалі гэтак спраўна, што аж насы ўпрысядкі пайшлі.

Пад'есці дык пад'елі, а хто чыгун будзе мыць? Паны сварацца, ледзьве за чубы не хапаюцца, а чыгун стаіць сабе, чорны, што мурза.

— Згуляйма ў карты,— запрапанаваў пан Кубліцкі.— Хто ў дурнях застанецца, таму й чыгун мыць.

— Згода,— буркнуў пан Заблоцкі.

Сядаюць за карты. Пан Кубліцкі набраўся козыраў, што жаба мулу, дый сядзіць з імі — кум каралю. А пан Заблоцкі ад прыкрасці сапе гэтак страшна, быццам у ягоным носе шэршні завяліся. Атрымлівае свайго «дурня», але чыгун мыць не хоча.

— Пан манкіруе! — крычыць.— Пан ёсць манкірант, заглядае ў чужыя карты. Гуляйма яшчэ раз.

Гуляць дык гуляць. Распачынаецца ў паноў карцёж доўгі, зацяты. Гуляюць вечар, гуляюць ноч, ды з гэткім азартам, што на голад, на сон забыліся. Праходзіць дзень, мінаецца другі... Не тое што чыгун — уся хатка зарастае брудам, зруб у зямлю ўваходзіць аж па самыя кроквы, на страсе палын, чартапалох буяюць, грыбы-шампіньёны павылазілі.

Вось ідзе з суседняе вёскі селянін, Ахрэм Верацённік. Вядро ды рыдлёўку з сабою нясе, збіраецца на рэчцы ўюноў лавіць. Ідучы праз панскі фальварак, бачыць дзіва: заместа хаты комін тырчыць. А з коміна, з-пад зямлі чуюцца сярдзітыя галасы:

— Ага, зноў пан у дурнях сядзіць!

— Каб пан у чыстым полі каменем сеў, як я сяджу!

Ахрэм Верацённік давай раскідаць зямлю рыдлёўкай, вокны ды дзверы вызваляць. І вось паны выпаўзаюць са свае зямлянкі, твары ў іх зялёныя, непаголеныя. Сурдуты іхнія сатлелі, голыя скабы скрозь лахманы свецяцца. Ахрэм Верацённік як бачыш назбіраў грыбоў, памыў чыгун ды зварыў поліўку. Пад'еўшы, пан Кубліцкі з панам Заблоцкім пачынаюць спрачацца, каму чыгун мыць. А не прыйшоўшы да згоды, зноў сядаюць гуляць у карты.

Нават Ахрэму за поліўку не падзякавалі. Яшчэ на яго ж і бурчэлі, што перапыніў гульню.

От жа натурыстыя, каб іх віхор падхапіў ды панёс!







**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

## РАБІНКА

Яна ў двары ля дрэў дарослых
Расці нядаўна пачала.
Яе здзіўлялі травы ў росах,
Сцяжынка, ластаўка, пчала.

Яе ж, маленькай і пахілай,
Амаль ніхто не прыкмячаў.
А мне была чамусьці мілай —
І палівах, і даглядаў.

Лісточак востры, як з'явіўся,
Блізнят паклікаў за сабой...

Ля дрэўца мімаходзь спыніўся
Хлапец — з мянушкаю
«Разбой».
Рабінку гнуў ён і калечыў!
Я гэта ўбачыў сам не свой.
Паспеў ён крыкнуць —
«Ты, малеча!».
Я ж кінуўся ў кулачны бой.

І лупцаваў падлетка злога —
Цяпер ён дасць сабе зарок!
Я ростам меншы, ды нічога!
Ён напалохаўся і ўцёк.

Стаяла мілая рабінка,
Яна была жывой, жывой!
І, як удзячная дзяўчынка,
Мне ўсё ківала галавой.



**Ірына БАГДАНОВІЧ**

## ПАРТФЕЛЬ

У мяне сягоння свята:
Мы партфель купілі з татам!
Як жа тут не ганарыцца,
Бо цяпер я вучаніца!
А пакуль у клас, вядома,
Панашу партфель я дома.



# БАЦЬКА ГАРАДОЎ БЕЛАРУСКІХ

Ці ведаеш, які горад так называюць?

Калі ты падумаў, што Мінск, дык памыліўся. Бацька гарадоў беларускіх — Полацк.

Чаму? А таму, што Полацк — самы старажытны горад Беларусі. Летапісы паведамляюць, што ён існаваў ужо ў 862 годзе. Але вучоныя-археолагі, якія вядуць раскопкі, кажуць, нібыта Полацк яшчэ на стагоддзе старэйшы. Вось і падлічы, колькі яму гадоў. Такіх гарадоў не толькі ў нашай краіне, але і на ўсім свеце няшмат.

Нашы продкі пабудавалі яго там, дзе ў шырокую, няспешную Дзвіну ўліваецца другая рака — Палата, якая і дала гораду назву. Па Дзвіне, а потым па Балтыйскім моры (у тыя часы яно звалася Варажскім) полацкія купцы везлі ў іншыя краіны воск, мёд, скуры пушных звяроў. Славіліся сваімі вырабамі мясцовыя майстры — кавалі і ганчары, краўцы і шаўцы, збройнікі і ювеліры. Дзевяць з паловаю стагоддзяў таму падняўся над Дзвіною велічны Сафійскі сабор. Апрача Полацка, такія саборы былі толькі ў Кіеве, у Ноўгарадзе і ў далёкім цар-горадзе — Канстанцінопалі.

У Полацку жыло шмат адукаваных людзей. У Сафійскім саборы захоўвалася вялікая бібліятэка. Вучоныя манахі складалі полацкі летапіс, перапісвалі кнігі. Дзеці ў старажытных школах пры полацкіх манастырах не толькі вучыліся чытаць і пісаць, але і вывучалі гісторыю, грэчаскую і лацінскую мовы.

Горад быў сталіцаю вялікай незалежнай дзяржавы — Полацкага княства. У XII стагоддзі, пры славутым князі Усяславе Чарадзеі гэтая дзяржава займала большую частку сучаснай Беларусі. Палачанам не раз даводзілася са зброяю ў руках бараніць свабоду і незалежнасць — і ад кіеўскіх князёў, і ад нямецкіх рыцараў-крыжакоў.

250 гадоў у Полацку валадарылі князі з роду Рагвалодавічаў. Парадніцца з імі лічылі за гонар каралі ды імператары розных краін. Дачка полацкага князя Усяслава Брачыславіча стала жонкаю візантыйскага імператара Аляксея Комніна.

Полацк даў Беларусі і ўсяму свету шмат выдатных людзей. Наш народ заўсёды будзе памятаць імёны асветніцы Ефрасінні і дойліда Іаана, першадрукара Францішка Скарыны і славутага паэта Сімяона Полацкага...

Бацьку гарадоў беларускіх выпала шмат цяжкіх выпрабаванняў. Ён бачыў войскі жорсткага маскоўскага цара Івана Жахлівага і караля Стэфана Баторыя, Пятра Першага і Напалеона. Ён гераічна змагаўся з фашысцкімі захопнікамі ў апошнюю вайну.

Лічу, што мне вельмі пашанцавала, бо я нарадзіўся і вырас у гэтым горадзе. У дзяцінстве мы, полацкія хлапчукі, шукалі скарбы і падземныя хады — лёхі, якія калісьці вялі з полацкіх сабораў на другі бок Дзвіны. Пасля кожнае вясновае паводкі мы знаходзілі на рачным беразе што-небудзь надзвычай цікавае — старажытную манету, наканечнік стралы ці бурштынавую пацерку. Не дзіва, што ў школе мы найбольш любілі гісторыю.

Напэўна, ты па-добраму зайздросціш мне. Табе таксама хочацца туды, дзе пачыналася багатая і слаўная беларуская гісторыя. Хочацца прайсці па старых вулачках, на свае вочы ўбачыць Сафійскі сабор, Спаса-Ефрасіннеўскую царкву, наведаць полацкія музеі і пастаяць ля помніка Францыску Скарыне. Калі ты яшчэ не паспеў зрабіць гэтага, скажы сваім бацькам і настаўнікам, што на канікулах добра было б выбрацца на экскурсію ў Полацк.

Ну а калі ты прыедзеш туды, няхай тваё падарожжа па горадзе пачнецца з зялёнага берага Палаты, адтуль, дзе было самае старажытнае паселішча палачан — гарадзішча. Тысячу гадоў таму на гэтым месцы падымаліся абкружаныя равамі драўляныя сцены. На невялікія зацінЫ простага люду звысоку глядзеў княжы хорам. У ім жыў полацкі князь Рагвалод. Ён меў прыгожую, разумную ды ганарлівую дачку Рагнеду. Незвычайнае, поўнае прыгод жыццё было наканавана князёўне Рагнедзе.

Але пра гэта мы пагаворым ужо наступным разам.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

**Ірына БАГДАНОВІЧ**

## МОДНІЦА

Што за смешная сукенка,
Мультановы абажур!
Гэта ж я амаль паненка,
Хоць і ў першы клас хаджу!
Кажуць, я свавольніца,
А я ў мамы модніца!
Апрану яе спадніцу,
Камізэльку і берэт,
Пацеркі бяру з паліцы,
Завушніцы, бранзалет.
Чаравічкі пашукала.
Ой! Якой вялікай стала!
А цяпер вазьму памаду
І каля люстэрка сяду...
Мама здзівіцца, вядома,
Гэткі цуд заспеўшы дома.
Скажа мне: «Свавольніца!».
А я ў мамы модніца!
І няхай ляжыць сукенка,
Мультановы абажур.
Гэта ж я амаль паненка,
Хоць і ў першы клас хаджу!



**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

## МІКОЛКАВЫ ПАЛЬЦЫ

— Вялікі палец,
Кветкі палі.
— Няхай бы
Браточкі дапамаглі.
— Указальны палец,
Схадзі па ваду.
— Ну, што ты, Міколка,
Адзін не пайду.
— Посуд памый,
Дарагі сераднях.
— Я без братоў
Не змагу аніяк.
— Палец чацвёрты,
Падай пластылін.
— Гэта зрабіць
Не магу я адзін.
— Мезены пальчык,
Хлеба нарэж.
— Я б з дарагою душою,
Але ж —
Толькі з братамі
Сіла мая,
Толькі з братамі
Усё магу я.
— Толькі з братамі,—
Пальцы сказалі.
Мезены пальчык
Браты падтрымалі.



Малюнкі Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



**Сёння многія з нас упершыню адкрываюць для сябе запаведзі Свяшчэннага Пісання. Прачытаць іх мы ўсе можам, а вось ці здолеем правільна вытлумачыць? Дый наогул, што мы страцілі, калі адышлі ад царквы на сем дзесяцігоддзяў? Чым царква можа дапамагчы сучаснай сям'і?**

**З усімі сваімі пытаннямі я накіроўваюся да протаіерэя Анатолія Кавалёва. Другой такой сям'і, як у айца Анатолія і матушкі Веры Іванаўны, не адшукаеш, відаць, па ўсёй Беларусі. У іх дзевяць дзяцей: Пеця, Марына, Ваня, Каця, Макарый, Саша, Даша, Волечка і Дзяніс...**

# «У КАГО ДЗЯЦЕЙ МНОГА, ТОЙ НЕ ЗАБЫТЫ БОГАМ...»

— Айцец Анатолій, у вашай сям'і атрымалася, як у той прымаўцы — «У каго дзяцей многа, той не забыты Богам». Вось я і хачу запытаць, у чым, на вашу думку, роля царквы ў сямейным выхаванні?

**— Мяркую, царква можа найперш нагадаць сучаснай сям'і маральныя законы чалавечага агульнажыцця, тыя законы, якія рэгулююць адносіны людзей у грамадстве і, вядома ж, у самой сям'і. Вы, я думаю, чулі такую запаведзь: «Муж ды любіць жонку сваю».**

**Ёсць яна ў Свяшчэнным Пісанні, і яе чытаюць у час таінства вянчання. Ёсць там і другая фраза: «Жонка ды збаіцца мужа свайго». Гэту запаведзь трэба разумець больш шырока: муж павінен любіць сваю жонку не толькі як жанчыну, а найперш як чалавека. І ў той жа час жонка павінна не проста баяцца свайго мужа, як раба. Ды збаіцца яна яго засмуціць, прынесці боль, павінна паважаць яго, лічыцца з яго думкамі. Гэта і ёсць каханне. У сям'і заўсёды бываюць спрэчныя пытанні, вось тады жонка і павінна прыслухацца да думкі мужа. Гэта закон не новы, ён быў, ёсць і будзе, проста яго трэба часцей напамінаць.**

**Што датычыць наогул узаемаадносін людзей, дык зноў-такі непарушным застаецца закон любві: «Палюбі бліжняга свайго, як самога сябе...» Ад гэтага нідзе не дзенешся. Калі мы хочам добра жыць, то павінны любіць адзін аднаго. І не проста любіць, а вучыцца любві, бо ў нас закладзена здольнасць любіць і мы павінны яе развіваць.**

— Растлумачце, калі ласка, айцец Анатолій, Пятую запаведзь: «Шануй бацьку свайго і маці сваю, каб было табе добра і каб доўга ты пражыў на зямлі...»

**— Размова ідзе не проста аб фізічным даўгалецці. Пашана да бацькі і маці і наогул да сваіх продкаў, мінулага, гісторыі сваёй — адзіны спосаб сапраўды духоўнага існавання, усведамлення сябе не пясчынкай, якую носіць ветрам немаведама дзе, а звяном у непарыўным ланцугу, які злучае мінулае і будучае.**

**Уласна кажучы, адсюль бярэ пачатак і пачуццё патрыятызму. Парушэнне Пятай запаведзі помсціць за сябе. Аказваецца, што ў народа, пазбаўленага патрэбнасці шанаваць бацькоў, атрафіруецца і пачуццё патрыятызму.**

— А што гаворыць Свяшчэннае Пісанне пра бацькоўскія абавязкі?!

**— І сапраўды, мы заўсёды памятаем, што дзеці павінны шанаваць бацькоў, але не заўсёды ўспамінаем, што бацькі не павінны празмерна апекавацца над сваімі дзецьмі. Гэта не заўсёды карысна.**

**Часта бацькоўскае выхаванне зводзіцца да таго, каб матэрыяльна забяспечыць дзіцяці будучыню — даць адукацыю, адзець, апрануць. І не заўсёды мы клапоцімся пра маральнае выхаванне нашых дзяцей. А гэта ж — яго аснова. Цікава гаварыў пра гэта Іаан Златавуст. Дазволю сабе працытаваць колькі слоў з яго Павучанняў:**

**«Часта многія з бацькоў прымаюць усе меры, каб у сына быў добры конь, шыкоўны дом, а пра тое, каб у яго была добрая душа і набожны настрой, ніколькі не клапоцяцца. Гэта і разладжвае ўвесь Сусвет. Усё з-за таго, што мы не дбаем пра сваіх дзяцей, клапоцімся пра багацце, а душой іх пагарджаем, неразумную справу ўчыняючы».**

**Якім мы выхоўвалі дзіця з маленства, такім яно і вырасце. Калі мы не выхавалі яго душу, не ўклалі ў яе любоў, дабро — дзе ўзяць яму гэта ў сталым узросце! З малых гадоў прывыкне ён усё мераць грашамі, гнацца за дарагімі рэчамі, і гэта згубна паўплывае не толькі на яго — на ўсё грамадства.**



Гутарку запісала
Зоя ЛАТУН.
Фота Галіны МАСКАЛЁВАЙ.

СЛУЖБА



ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ! «ЎЗАЕМАДАПАМОГА» РАЗВІТВАЕЦЦА З ВАМІ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ. А НАКОЛЬКІ ЧАСТЫМІ І ТРЫВАЛЫМІ БУДУЦЬ НАШЫ ЎЗАЕМААДНОСІНЫ Ў ГОДЗЕ НАСТУПНЫМ — ГЭТА ШМАТ У ЧЫМ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ВАС, АД ВАШАЙ АКТЫЎНАСЦІ.

### ЗАПРАСІЦЕ МЯНЕ Ў БЕЛАРУСЬ

Я заўсёды ведаў, што вы — вялікі народ, і я шчыра спадзяюся наведаць калі-небудзь вашу рэспубліку. Сачу за тым, як развіваюцца ў вас падзеі і на гэтай падставе прыходжу да высновы, што цяперашні час — пачатак новага для вас дня. Я мару больш поўна спазнаць вашу краіну, яе людзей і ... яе музыку. Мая цікавасць да музыкі невыпадковая. Я маю ўласную музычную студыю. Як вы думаеце, ці рэальна гэта для мяне — атрымаць запрашэнне на арганізацыю канцэрта ў вашай краіне. Можа, спытаеце пра гэта ў цэрквах і школах? Дадайце, што ў нашай студыі мы робім разнастайныя музычныя запісы і вучым людзей спяваць прафесійна.

Чалавек я глыбока веруючы. Я — свяшчэннік. Я ніколі не сустракаў вас, але перакананы, што вы — выдатныя людзі. Чакаю ад вас лістоў. Дарэчы, майце на ўвазе, што па нашых паштовых правілах прынята на канвертах спачатку пісаць свае прозвішчы, імя, пасля — хатні адрас і толькі затым — горад і краіну, у якіх вы жывяце.

Да сустрэчы!

**Артур БРЭДФАРД,**
729 Cleveland Street
(at New Lots Ave.)
Brooklyn, N. Y. 11208 U. S. A.

### УСЕ ПЯЦЬ КАНТЫНЕНТАЎ — ВАШЫ!

Дарагі чытач! Уяві такую спакуслівую магчымасць: тваім добрым сябрам становіцца чалавек, з якім ты ніколі раней не сустракаўся і які ўвогуле жыве ў краіне, дзе ты ніколі не быў. Пагадзіся, што гэта зробіць тваё жыццё больш цікавым і насычаным. Ты атрымаеш добрую магчымасць удасканаліць веданне той ці іншай замежнай мовы, правесці адпачынак у іншай краіне ці проста пабыць у гасцях у свайго сябра па перапісцы, запрасіць яго да сябе. Не палохайся нашых нягод: цікавасць людзей усяго свету да нашай краіны няўхільна ўзрастае.

Улічваючы ўсё гэта, міжнароднае бюро «Балтыкон» штомесяц выдае бюлетэнь з адрасамі тых, хто жадае перапісвацца з замежнымі сябрамі. Адрасавана наша выданне не толькі аматарам перапіскі, але і калекцыянерам, турыстам, тым, хто не траціць надзеі стварыць сям'ю і да т. п. Надрукаваныя ў нас аб'явы дадуць вам магчымасць знайсці сабе сяброў адпаведна вашым узросту, прафесіі, інтарэсам, захапленням.

Калі ўсё вышэйсказанае вас зацікавіла, дык пашліце ў наша бюро адзін адрасаваны сабе канверт з чыстай паштовай маркай (20 кап.) для адказу. Бюро дашле вам анкету. Інфармацыю, якую мы ад вас атрымаем, бюро перакладзе на англійскую мову і надрукуе ў сваім бюлетэні, які атрымліваюць людзі з пяці кантынентаў зямнога шара. Вы таксама атрымаеце нумар бюлетэня з вашай аб'явай.

Ніякіх узроставых абмежаванняў не існуе. Рэлігійныя і палітычныя перакананні — ваша асабістая справа. Але вы абавязкова павінны валодаць адной з шасці моў: рускай, англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай, эсперанта.

Наш адрас: 232038, Літва, Вільнюс, а/я 727. «БАЛТЫКОН».

### НАС УЖО ДВОЕ...

Калі ты, шаноўная «Узаемадапамога», надрукуеш мой ліст — гэта будзе значыць, што я ўжо не адна. Па крайняй меры, нас будзе двое: ты ды я. А пасля, веру, з'явяцца і новыя сябры.

Цяпер па сутнасці. Спадзяюся, што рэдакцыя дапаможа мне знайсці спадарожніка жыцця. Справа ў тым, што я маю 2-ю групу інваліднасці (агульнае захворванне). Мне 29 гадоў. Жыву разам з бацькамі ў невялікім горадзе. Люблю хатнюю ўтульнасць. Захапляюся прыгодніцкімі кнігамі.

Спадзяюся, што знойдзецца чалавек, які захоча напісаць мне ліст.

**Ірына. (347).**

### Я ЗВЫЧАЙНЫ ВЯСКОВЫ МУЖЧЫНА

Чытаю «Узаемадапамогу» і часам дзіўлюся: да чаго складна і прачула пішуць людзі. Асабліва жанчыны. Я так пісаць не ўмею, таму доўга не рашаўся ўзяцца за гэты ліст. Я звычайны вясковы мужчына, працую механізатарам, восем гадоў назад развёўся, увесь гэты час жыў адзін, не верачы жанчынам. Старыя раны паціху загаіліся, і мне зноў захацелася сямейнага шчасця.

Хачу знайсці жанчыну, якая б мне павярыла. Няхай яна будзе з дзіцем — я стану для яго надзейным бацькам, а для яе — аддадным мужам. Згодны на пераезд да той, якая чакае працалюбівага калгасніка і вельмі простага чалавека, якім я сябе і лічу. Шукаю таксама простую, працалюбівую, чулую.

**Сяргей. (348).**

### РАБЛЮ КРОК ПЕРШАЙ...

Можа каму мой ліст падасца смешным і недарэчным, але... Я прашу адгукнуцца сур'ёзных маладых людзей, выпускнікоў альбо навучэнцаў ваенных вучылішчаў. Мне 20 гадоў і я мару стварыць сям'ю з ваенным чалавекам, хаця многія знаёмыя надзвычай скептычна ставяцца да маёй мары. А я хачу ісці па жыцці побач з каханым, куды б нас лёс ні закінуў, мару пра сваё гняздзечка. Можа, усё гэта толькі ілюзія, нейкі абстрактны ідэал шчаслівай сям'і, але я мару. Словам, калі мне напішуць, буду рада пасябраваць.

Я ведаю, некаторыя хлопцы таксама пакутуюць з праблемай спадарожніцы жыцця, бо не кожная жанчына пагодзіцца на пастаянныя пераезды і расстанні. А мяне цяжкасці не палохаюць. Я раблю крок першай і падаю руку — на сяброўства.

Напішу крыху пра сябе. Рост у мяне сярэдні — 160 см. Валасы русыя, вочы карыя. Трохі шыю і вяжу, нядрэнна гатую. Слухаю музыку, чытаю розную літаратуру. Адкажу на сур'ёзныя пісьмы. Веру, што такія будуць. Жыву ў Хабараўску.

**Наталля. (349).**

### НАПІШЫЦЕ МІХАЛУ Ў ГАЙНАЎКУ

У № 51 беластоцкай «Нівы» за мінулы год быў надрукаваны мой ліст, у якім я запрашаў да перапіскі свядомых суайчыннікаў у Польшчы. Неўзабаве атрымаў першы водгук. Наш суайчыннік з Гайнаўкі Міхал Келбашэўскі звярнуўся да мяне з просьбай, каб я дапамог яму адшукаць калегу па хобі ў Беларусі — ён аматар народнае музыкі, грае на гармоніку і вельмі хоча наладзіць перапіску з жыхаром Беларусі, прыкладна яго ўзросту, памяркоўным і шчырым, і каб у яго было гэткае ж хобі. Ён мае жонку і трох дзяцей. Калі б вы, шаноўная рэдакцыя, апублікавалі гэты зварот, як плённа працягнуўся б ланцужок узаемадапамогі! Пісаць Міхалу трэба на адрас: Polska, 17 — 200, Hainowka, ul. M. Reja, 712.

### ПАЙШОЎ НА ВАЙНУ І НЕ ВЯРНУЎСЯ...

Дапамажыце знайсці майго дзядзьку Барэйку Мечыслава Дамінікавіча, 1925 г. н., ураджэнца в. Старая Мядзельскага раёна. Ён пайшоў на вайну і не вярнуўся. Ведаю толькі, што знаходзіўся ў шпіталі ў горадзе Барнауле. Я хачу ведаць, ці жывы ён ці не, а калі не, то хоць бы дазнацца пра месца яго пахавання.

Мой адрас: 231224, Гродзенская вобл., Астравецкі раён, п. Спонды, **ЯКІМЕНКА Міраславе Ізыдораўне.**

### І З ПАСТАВАЙ ПАВЫ...

Маю намер стварыць сям'ю. Шукаю жанчыну, шчодра надзеленую прыродай, з прыгожай паходкай. Узрост неабмежаваны, але каб яна была не старэй за 54 гады.

Пра сябе. Маю 58 гадоў. Разведзены. Развод афіцыйна аформлены. Спецыяліст сельскай гаспадаркі — тэхнік-пчаляр. Адукацыя 10 класаў.

**Анатоль Іосіфавіч.** (351)

**Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.**



ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

# ГУЛЬНЯ НЕ ПА

## ЯЕ ВЯДЗЕ СА СПАРТЫЎНЫМІ «ЗОРКАМІ» НАША САВЕЦКАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

**Анатоль МЯСНІКОЎ**

Як толькі прыгадаю лёс кожнага з іх — з болем сціскаецца сэрца. Ніяк не магу ўцяміць, чаму яшчэ ўчора маладых, дужых, смелых і прыгожых людзей, якія выходзілі на стадыён і спартыўныя арэны, каб парадаваць мільёны аматараў спорту ва ўсіх кутках свету сілай, мужнасцю, адвагай, пасля таго, як мінуў іх «зорны» час, напаткалі нечаканыя і жорсткія выпрабаванні — адчай, няўпэўненасць, безвыходнасць...

Як зразумець гэта? Як сумясціць? І ці ёсць наогул усяму гэтаму вызначэнне?..

Барэц класічнага стылю Алег Караваеў — адзін з першых алімпійскіх чэмпіёнаў сярод спартсменаў нашай рэспублікі — славіўся рэдкай прыроднай сілай і высокім майстэрствам. Пасля трыумфу ў многіх краінах свету надышло жыццё будзённае — шэрае і невыразнае... Алег аказаўся не патрэбным нікому з тых, хто яшчэ нядаўна паляпваў яго па плячы і казаў: «Малайчына, ты цудоўны працаўнік!» І ён запіў, як сцвярджаў сам,— з гора. Кафэ «Батлейка», што знаходзіцца побач з Домам друку, калісьці мела назву «тэлевізар», і Караваеў «выступаў» там з раніцы і да закрыцця. Прапіў Алег усё, што толькі можна было, кажуць, нават залаты медаль чэмпіёна Алімпійскіх гульняў. І пакінуў дачасна свет божы...

Бліскучая гімнастка Тамара Лазаковіч канкурыравала нават з непаўторнай Людмілай Турышчавай. «Цуд-дзяўчынка» з Віцебска ў васемнаццаць гадоў была ў зеніце славы і прызнання з цэлай калекцыяй алімпійскіх узнагарод. На жаль, перад спакусамі жыцця не ўстаяла і яна...

Аляксандр Пракапенка... Футбаліст-віртуоз з мінскага «Дынама» ўмеў на полі літаральна ўсё. Яго шчыра і непадробна любіў Пётр Міронавіч Машэраў — бадай, апошні з кіраўнікоў рэспублікі, хто ведаў цану спартыўным дасягненням, разумеў таямніцы футбола. Чорныя шчырыя вочы Майстра свяціліся ярчэй, чым у каго іншага, калі амаль дзесяць гадоў назад дынамаўцы сталіцы Беларусі сталі чэмпіёнамі Савецкага Саюза. Мячы ў вароты сапернікаў Саша забіваў рэдка, але гэта былі не проста галы, а маленькі футбольны цуд...

Элегантны і інтэлігентны на футбольным полі, ён быў сціплы і сарамлівы ў жыцці. Не ўмеў Пракапенка крывіць душой, выкручвацца, не кажучы пра іншыя чалавечыя заганы. Не ўмеў вядомы футбаліст і адмовіцца ад «паслуг» уяўных сяброў,— прахвостаў, што лезлі ў душу літаральна на кожным кроку... Хто з іх налівау шклянку, з тым, як правіла, і піў. Кіраўнікі каманды выносілі яму адно пакаранне за другім, Пракапенка абяцаў: «Усё, не буду!..» Таленавіты і здатны футбаліст, ён быў маральна слабы, бездапаможны за межамі поля. Паволі, падсвядома знішчыў ён сябе гэтым «сяброўствам» з зялёным змеем. Памёр Саша ў адным з рэстаранаў Мінска...

Тры прыклады. Аднак, не ў іх справа. Дый і не прыклады гэта, а людзі, тыя, каго мы яшчэ і сёння лічым шчаслівчыкамі, улюбёнцамі лёсу.

Мы адносіліся і адносімся да іх несправядліва, несумленна. Мне і сёння крыўдна, што не змаглі мае калегі-журналісты дый я сам своечасова падрыхтаваць і «прабіць» на газетную старонку нарыс ці замалёўку пра жыццё гэтых людзей па-за спортам. А яны, я ўпэўнены, так востра адчувалі патрэбу ў такіх публікацыях.

Ім патрэбна была наша памяць пасля трыумфу, калі баль быў скончаны і свечкі паволі затухалі... Цяпер жа адных з тых «зорак» няма ўжо ў жывых, а іншым наша памяць, як кажуць, «да лямпачкі».

Іх лёсы, на жаль, ужо ў мінулым. А ў іх трагізме ў першую чаргу вінаватае наша грамадства.

Камандна-адміністрацыйная сістэма, як вядома, ва ўсім і паўсюдна патрабавала сляпога, бяздумнага падпарадкавання сабе. Яна і толькі яна прысвоіла сабе права на ісціну ў апошняй інстанцыі. Усе мы былі кімсьці і чымсьці: хто — шрубкай, хто — прывадным пасам; прыніжаныя і зняважаныя «сильными мира сего». Душэўных жа надрываў, зломаў лёсу — у тым ліку і ў свеце вялікага спорту — мы «не заўважылі»: нам проста было не дазволена заўважаць гэта. І што магло быць больш ненатуральным, дзікім, чым маўклівая, «ціхая» трагедыя таго ж Караваева, таго ж Пракапенкі?!

Усё адыходзіла на другі план, усё забывалася і замоўчвалася: сіла духу і бяспрыкладная мужнасць, нечалавечая вынослівасць і славуты савецкі характар — усё ў самым лепшым сэнсе слова, усё тое, што і сапраўды было ўласціва і спаўна дэманстравалася тымі ж Вялікімі спартсменамі.

Чаму так здараецца? Каму гэта патрэбна?

Сістэма спорту ў краіне была і застаецца да сённяшняга дня жорсткай, бяздушнай. Калі ты на Алімпе ці на подступах да яго, ты маеш усё ці амаль усё: умовы для трэніровак, харчаванне, прыёмы і сустрэчы на самым высокім узроўні... А яшчэ — абяцанні на будучыню. І маладыя, не загартаваныя арганізмы бяздумна нагружаюцца на трэніроўках, каб заўтра — не, нават сёння вечарам — узяць больш, узняцца вышэй, прамчацца хутчэй за сапернікаў... Няхай ва ўрон здароўю, з адмоўнымі вынікамі праз дзень-другі, праз год-два, але абавязкова трэба зрабіць гэта з адной, галоўнай мэтай: апраўдаць спадзяванні, дасягнуць вышынь, пераўзысці самога сябе! І ніколі не бярэ да галавы малады чалавек, што, не дай Бог, сарвецца і... стане нікому не патрэбным. Нікому: ні трэнеру, ні спартыўнаму босу, ні вялікаму спорту, ні краіне наогул...

Вось і аказаліся «па-за кадрам» знакамітыя стаер нашага часу Уладзімір Куц, Ігар Чысленка, гімнастка Алена Мухіна, дзесяткі і дзесяткі іншых — вядомых і не зусім вядомых спартсменаў краіны.

І надыходзіць расчараванне — горкае, крыўднае, невылечнае. Знікае вера ў тое, што ты патрэбен людзям, грамадству; а тваё здароўе, аказваецца, падарвана, а то і страчана назаўсёды. Тады і ідуць некаторыя з «зорак» на апошні, пагібельны крок...

Але вось прыйшоў новы час, а з ім ступілі на спартыўныя арэны і новыя «зоркі». Убачыўшы несправядлівасць, адчуўшы, што яны не больш чым «матэрыял» у руках спрытнюг і спартыўных дзялкоў, пачалі задумвацца... А ці такое ўжо бязвыходнае іх становішча? Няўжо нельга жыць лепш?

Аказваецца, можна.

— ...Звыш 40 беларускіх спартсменаў выступаюць сёння за мяжой — у заходніх прафесіянальных клубах і камандах. Большасць з іх — заслужаныя майстры спорту і майстры спорту міжнароднага класа, неаднаразовыя чэмпіёны і рэкардсмены свету, Еўропы, Алімпійскіх гульняў, Савецкага Саюза. Адзін пералік імёнаў чаго варты: гандбалісты Аляксандр Тучкін і Георгій Свірыдзенка, баскетбалістка Галіна Савіцкая, футбалісты Сяргей Алейнікаў, Сяргей Гоцманаў, Аляксандр Мятліцкі, Андрэй Шаліма, баксёр Вячаслаў Яноўскі, веднальыжнік Дзмітрый Яскевіч і Алег Надзін, хакеісты Міхаіл Захараў і Сяргей Тукмачоў... Цэлае сузор'е атлетаў, якім так горача і шчыра апладзіраваў увесь свет.

Яны падаліся на Захад **на працу.** І калі тых, хто быў першым, ганьбавалі, усяляк «тармазілі», то хлопцаў і дзяўчат, пералічаных вышэй, ужо хваляць, іх дзеянні падтрымліваюць, маўляў, пажывяце, як людзі...

Працэс эміграцыі савецкіх спартсменаў за мяжу рана ці позна павінен быў пачацца. У часе выступленняў на спартыўных арэнах свету нашы майстры высокага класа бачылі, што іх сапернікі жывуць і трэніруюцца ў іншых умовах, чым яны. Аднолькава аддаючы любімай справе сілы, таленты, здароўе (а здароўе — перш за ўсё), атлеты з СССР шчыра зайздросцяць сваім калегам. І ў многіх з'явілася натуральнае жаданне паспрабаваць сябе «у тых умовах».

У замежныя клубы і каманды савецкіх спартсменаў вабяць два шляхі: афіцыйны, так бы мовіць, праз парадны пад'езд, і неафіцыйны — па «чорнай лесвіцы». Беларускія ж «зоркі» ідуць і па першым, і па другім...

За заслужанага майстра спорту, сярэбранага прызёра чэмпіяната Еўропы 1988 года Сяргея Алейнікава італьянскія футбольныя клубы вялі сапраўдную бойку. Яго не супраць былі ўбачыць у сваіх радах уладальнікі славутага «Ювентуса», клуба «сярэдняй рукі» — «Джэноа» і пасрэднага па італьянскіх мерках «Леччэ». Да таго ж, думкай і пажаданнем самога іграка, па сутнасці, не цікавіліся: усё вырашалася праз кашалёк — хто знойдзе найбольш прымальны варыянт куплі... Неафіцыйны гандаль выйграў багаты «Ювентус»: ён прапанаваў добры куш таварыству «Дынама», што-нішто — аднайменнай камандзе з Мінска, а таксама — самому Алейнікаву. Прынамсі, у апошняга прэтэнзій асаблівых не было: гуляць за «Юве» — справа ганаровая. Аднак жорсткай канкурэнцыі за месца ў асноўным саставе Сяргей не вытрымаў. І хоць стаў ён у радах турынцаў уладальнікам Кубка УЕФА і Кубка Італіі, яго гульнёй гаспадары... не задаволіліся. Пасля першага сезона ў «Ювентусе» Алейнікава «сплавілі» ў «Леччэ». Там Сяргей на працягу ўсяго сезона быў лепшым з лепшых. Больш таго, за яго гульнёй уважліва сачылі і трэнеры зборнай Савецкага Саюза, рэгулярна ўключалі яго ў афіцыйны састаў нацыянальнай каманды. Задавальнення ж ад выступленняў у «Леччэ» ў яго — амаль ніякага. Алейнікаў — таленавіты і працавіты футбаліст, хоча быць навідавоку, а ў заштатным «Леччэ», які, дарэчы, выбыў у мінулым сезоне з вышэйшай лігі італьянскага футбола, аб «зорцы» савецкага спорту мала хто ведае. А лёс не выбіраюць...

Выпадак? Нешанцаванне? Ні тое, ні другое. Тое, што Сяргей Алейнікаў — майстар высокага класа, сумненняў у італьянцаў няма. І як чалавек ён — выдатны. Справа ў іншым: не здолелі стварыць вакол яго здаровы ажыятаж, разрэкламаваць, пастаяць за яго тыя, хто займаўся «продажам» футбаліста.

...Іншым шляхам — па «чорнай лесвіцы» — падаўся за мяжу выхаванец мінскай хакейнай школы «Юнацтва» Сяргей Фёдараў, які гуляў спачатку за наша «Дынама», а потым — за ЦСКА і зборную СССР. Мне давялося бачыць яго гульню на чэмпіянаце свету і Еўропы 1989 года ў Стакгольме. Дзеянні тройкі зусім яшчэ юных савецкіх хакеістаў: Магільны — Фёдараў — Бурэ выклікалі сапраўднае захапленне. Журналісты ў адзін голас лічылі іх пераемнікамі выдатных у недалёкім мінулым троек, як Міхайлаў — Пятроў — Харламаў і Макараў — Ларыёнаў — Крутаў. Савецкая зборная стала тады мацнейшай у свеце, і ўклад у поспех гэтых юных спартсменаў быў неаспрэчны.

Той трыумф, як вядома, закончыўся на сум-

най ноце: Аляксандр Магільны ўцёк ноччу з атэля і праз дзень-другі апынуўся ў Паўночнай Амерыцы, дзе і гуляе вось ужо трэці сезон у мясцовым клубе Нацыянальнай хакейнай лігі.

«Нехакейны ход» сябра па тройцы і ЦСКА прымусіў задумацца і нашага выхаванца Сяргея Фёдарава. Трэба было падабраць момант, каб, як казаў адзін літаратурны герой, без шуму і пылу знікнуць і яму. Неўзабаве такі шанц з'явіўся. У праграму Гульняў добрай волі, якія праходзілі ў 1990 годзе ў амерыканскім горадзе Сіэтле, упершыню ўключылі і хакей. Калі савецкая зборная прыбыла на амерыканскі кантынент, Фёдараў... знік. У рэшце рэшт хакеіст апынуўся ў Дэтройце, дзе яго чакалі ўжо новыя гаспадары — багатыя дзялкі прафесійнага клуба «Дэтройт Рэд Уінгз».

Два спартыўныя лёсы. Розныя, але шчаслівыя. І тут, на маю думку, ёсць сэнс пагаварыць аб іншым...

Сутнасць праблемы не ў тым, хто, куды і якім чынам адбывае за мяжу, а ў іншым: ва ўзаемаадносінах нашага «хворага» на сённяшні дзень грамадства са сваімі членамі — спартсменамі. Спартсменамі, якіх лічаць лепшымі з лепшых. А шкада, што пакідаюць краіну «зоркі», без перабольшання — наша нацыянальнае багацце.

Яны — наш залаты спартыўны фонд. А мы яго спакваля губляем. Калі той жа Алейнікаў па-ранейшаму застаецца вядучым іграком зборнай СССР, то Тучкін і Савіцкая, Свірыдзенка і Яноўскі, Яскевіч і Надзін савецкім нацыянальным камандам нібыта ўжо і не патрэбны. Але ж зборныя па «іх» відах спорту перажываюць сёння далёка не лепшыя часы, і на Алімпійскіх гульнях 1992 года ў Барселоне выхаванцы беларускай фізкультурнай арганізацыі маглі б прынесці айчыннаму спорту не адну ўзнагароду...

Да «зорак» спорту ў нас, на жаль, па-ранейшаму адносяцца па-спажывецку. Маральны бок тут ужо нібыта і не існуе. Вось і стаў аўкцыён «зорак» здзелкай з-пад крыса, замест таго, каб быць сумленным, высокамаральным. І ці не прынясе ён шкоды яшчэ больш, чым тая жорсткая і бяздумная сістэма, што існавала раней, якая выкінула за борт жыцця дзесяткі выдатных спартсменаў?..

Адарваць кавалак большы, даражэйшы, авалодаць валютай — вось дэвіз тых спартыўных мецэнатаў, што атрымалі доступ да продажу спартсменаў за мяжу. Тон у гэтай няшчырай гульні задае Саўінтэрспорт, створаны пры Дзяржаўным камітэце СССР па фізічнай культуры і спорту (цяпер ён называецца Дзяржспорт пры Кабінеце Міністраў СССР). Віктар Галаеў, генеральны дырэктар гэтай фірмы, якая гандлюе жывымі людзьмі, з гонарам заяўляе, што «камерцыйныя камандзіроўкі выдатных спартсменаў за мяжу з'яўляюцца новым важным фактарам міжнародных сувязей, а таксама даюць магчымасць у немалой ступені вярнуць дзяржаве, спартыўнаму таварыству, клубу выдаткі на іх падрыхтоўку і ўтрыманне...» Прыгожа сказана! Толькі на справе ўсё інакш. Сумы кантрактаў Саўінтэрспорт падзяляе па наступнаму прынцыпу: 40 працэнтаў — Дзяржспорту СССР, столькі ж — клубу, які выхаваў «зорку», і 20 працэнтаў — у дзяржбюджэт. А самому спартсмену прапануюць зарабляць грошы... у новых умовах.

Ніводнага цэнта не атрымліваюць ад сум трансфертных здзелак і кантрактаў тыя, хто рыхтуе будучых «зорак»: трэнеры ДЮСШ, школ-інтэрнатаў спартыўнага профілю, у якіх юныя спартсмены робяць першыя, самыя цяжкія крокі да спартыўных вышынь. І няцяжка здагадацца, як крыўдна ім, тым, хто па-ранейшаму працуе за 180—200 «драўляных», а нехта (хто канкрэтна — трэнеры спартшкол ведаюць) набівае кашалёк за іх вучняў доларамі і маркамі, франкамі і фунтамі стэрлінгаў...

Гэты тэрмін — «спартыўны бізнес» пакуль што таямнічы для нас. Фінансісты, не кажучы ўжо пра спартыўных работнікаў, толькі-толькі пачынаюць разбірацца ў ім. І, натуральна, ідуць часам шляхам спроб і памылак. Кан'юнктура сусветнага спорту для іх — тайна за сямю пячаткамі. Якая сітуацыя ў тым ці іншым відзе спорту, колькі каштуе (у прамым і пераносным сэнсе слова) чэмпіён Алімпійскіх гульняў, а колькі — чэмпіён свету ці Еўропы — даведацца няпроста, бо гэта камерцыйная тайна. Вось і ідуць нашы мецэнаты на страх і рызыку — а раптам...

А раптам — не атрымліваецца. І губляем мы мільёны, сотні тысяч долараў, марак, фунтаў. Згубілі — беззваротна — на Вячаславе Фяцісаве і Арвідасе Сабонісе, Аляксеі Міхайлічэнку і Аляксандры Тучкіне, Сяргеі Алейнікаве і Сяргеі Фёдараве, Галіне Савіцкай і Дзмітрыі Яскевічу... А колькі яшчэ згубім!

Калісьці — няхай толькі на словах — мы раўніва клапаціліся аб маральных устоях савецкіх спартсменаў. Мы пісалі і казалі пра гонар флага, краіны, рэспублікі, працоўнага калектыву... І нібыта было толькі там, «у іх», усё іншае: жорсткія, са смяротным зыходам зломы лёсаў, маральнае падзенне, разбэшчванне, адчай, а на глебе ўсяго гэтага — самагубствы, адыходы з жыцця, ціхія і амаль непрыкметныя. Ці не стане цяперашняя няўпэўненасць маладых людзей у заўтрашнім дні — што, на маю думку, і з'яўляецца асноўным, калі не самым галоўным матывам для спартсменаў як мага раней і хутчэй трапіць на Захад,— той тлятворнай іскрай, якая разбэсціць іх маладыя, не зусім акрэплыя душы і характары?! І праз пэўны час мы даведаемся пра новыя трагедыі...

Дай Бог, каб я памыліўся!

## ПРАВІЛАХ



Фота Віктара ДРАЧОВА.

# ВАМПІРЫ І АХВЯРЫ

**ВЫПУСК II**

«Я і сам гаварыў сабе спачатку «не можа быць!», дый цяпер іншы раз гавару сабе «не можа быць!» Але ў тым і справа, што гэта можа быць і, хутчэй за ўсё, ёсць».

Ф. М. ДАСТАЕЎСКІ.

Сярод іншых знакаў арабскага гараскопа ВАДА і АГОНЬ вылучаюцца павышаным спажываннем біяэнергіі, а значыць, і іншымі магчымасцямі яе здабывання, размеркавання і акумуліравання.

## ВАДА

**20 лютага — 19 сакавіка**
**20 чэрвеня — 19 ліпеня**
**20 кастрычніка — 19 лістапада**

У чалавека знака ВАДЫ няма праблем. Мажныя, часта паўнаватыя мужчыны і жанчыны-флегматыкі прыкладна 60 працэнтаў энергіі набіраюць з прадуктаў харчавання, спажываючы штодзень шмат мясных, мучных вырабаў, да 1,5—2 літраў вадкасці, якая ўтрымлівае соль, цукар. 25—30 працэнтаў энергіі ВАДА здабывае з навакольнага асяроддзя і толькі 10 працэнтаў бярэ ад людзей і бытавых прадметаў. ВАДА па сваёй прыродзе не можа быць вампірам, бо цудоўна засвойвае энергію практычна з усіх аб'ектаў неарганічнай прыроды, флоры і фауны, амаль не адчуваючы патрэбы ў чалавечай энергіі. Разам з тым ВАДА павінна не толькі шукаць крыніцы энергаспажывання, але і клапаціцца пра яе раўнамернае размеркаванне і выдаткаванне. Прыкладна праз 20—48 гадзін пасля спажывання яна павінна вызваліцца ад лішкаў «чорнай», скарыстанай энергіі, бо яе празмерныя запасы, гэтак жа, як і недахоп, шкодзяць здароўю. Калі штодзень чалавек пасля 15 гадзін не выдаткуе лішнюю энергію ў фізічных практыкаваннях, прагулках на прыродзе, у клопатах па хатняй гаспадарцы, на дачным участку, то к вечару яму будзе цяжка ад яе пазбавіцца, а гэта можа выклікаць сур'ёзныя захворванні: атлусценне, гіпертанію, парушэнне сардэчна-сасудзістай сістэмы, дыстрафію ўнутраных органаў — нырак, печані, падстраўнікавай залозы і г. д.

Цудоўна ўсё гэта разумеючы, ленаватая і цяжкая на пад'ём ВАДА не спяшаецца пазбаўляцца ад лішняга запасу энергіі, бавячы свой вольны час з газетай на канапе.

Спажыўцы біяэнергіі ВАДЫ— вампіры — часта не робяць ёй вялікай шкоды, бо пазбаўляюць яе ад лішкаў «чорнай» энергіі, а разам з тым і ад залішніх клопатаў. Аднак маючы працяглы час кантакты з людзьмі знакаў ПАВЕТРА і АГНЮ, ВАДА рызыкуе сваім здароўем. Справа ў тым, што наўмысна ці падсвядома вампіры пастаянна забіраюць яе жыццёвыя сілы, незалежна ад таго, хапае ёй гэтых сіл для самой сябе ці не. Гэта асабліва небяспечна ў першай палове сутак, калі ВАДА яшчэ не паспела назапасіць неабходны запас энергіі, і ў выніку баланс спажывання і размеркавання рэсурсаў жыццёвых сіл парушаецца. Параіў бы прадстаўнікам знака ВАДЫ абмежаваць зносіны з людзьмі ПАВЕТРА і АГНЮ ў першай палове дня, у другой жа палове дня такія сустрэчы нават карысныя. Затое для ВАДЫ абсалютна бяспечна мець справу з гэткімі ж, як і яны, «вадзянымі»: прадстаўнікі аднаго знака не прэтэндуюць на жыццёвыя сілы адзін аднаго, захоўваючы добразычлівыя, прыязныя адносіны.

У пэўнай ступені ёсць складанасці ва ўзаемаадносінах паміж ВАДОЙ і ЗЯМЛЁЙ. Для апошняй такія кантакты вельмі дарэчы, а вось для ВАДЫ — не заўсёды. Справа ў тым, што ЗЯМЛЯ часткова спажывае энергію ВАДЫ, не робячы на яе адмоўнага ўплыву. Гэта можна назваць джэнтльменскім узаемаабменам энергіямі, калі партнёры ў цэлым задаволены адзін адным. Але тут ёсць некаторая асаблівасць: добрыя ўзаемаадносіны складваюцца ў ВАДЫ са студзеньскай (1—19 студзеня), вераснёўскай (20 жніўня — 19 верасня) і снежаньскай (20—31 снежня) ЗЯМЛЁЙ, а вось з актыўнай майскай ЗЯМЛЁЙ (20 красавіка — 19 мая) ёй трэба быць асцярожнай і кантактаваць толькі з мужчынамі гэтага знака.

Такім чынам, ВАДА заўсёды знойдзе падтрымку з боку той жа ВАДЫ, а таксама ЗЯМЛІ. Актыўная, фізічна больш дужая лістападаўская ВАДА можа разлічваць і на актыўны жнівеньскі АГОНЬ (20 ліпеня — 19 жніўня). Як знаходзяць паразуменне супрацьлеглыя знакі? А гэта даволі проста — яны маюць шмат агульнага: абодва прадстаўнікі актыўных знакаў, як правіла, людзі буйныя, дужыя, вышэй сярэдняга росту, валодаюць магутнымі біялагічнымі палямі. Нетаропкім, памяркоўным жанчынам ВАДЫ звычайна падабаюцца мужныя, гарачыя мужчыны, прызнаныя лідэры калектыву і важакі ў сям'і.

Сямейная навука — справа няпростая, і я параіў бы мудрай ВАДЗЕ авалодваць ёю, паступова адвучваючы АГОНЬ ад «вампірскіх» звычак. Няхай АГОНЬ папаўняе свой энергазапас за кошт заняткаў спортам, работы па гаспадарцы, у кампаніі сяброў, дзе можа зрэдку выпіць чарку-другую гарэлкі. Не забараняйце яму — для АГНЮ гэта таксама спосаб папаўнення энергіі. Падумайце самі, што яшчэ можна зрабіць, каб побач з вамі быў не вампір, а каханы чалавек, бяспечны для сям'і.

## АГОНЬ

**20 сакавіка — 19 красавіка**
**20 ліпеня — 19 жніўня**
**20 лістапада — 19 снежня**

Чалавек знака АГНЮ, як правіла, не абцяжарвае сябе клопатам здабываць энергію праз намаганні цела і духу. Ён — прыроджаны вампір і атрымлівае неабходныя жыццёвыя сілы ад людзей, якія знаходзяцца побач. Магчыма, таму і адчувае сябе заўсёды лідэрам, гаспадаром жыцця.

Асаблівую небяспеку зносіны з АГНЁМ нясуць прадстаўнікам знака ЗЯМЛІ, меланхолікам, якія губляюць пры гэтым да 40—50 працэнтаў сваёй энергіі, не атрымліваючы нічога ўзамен. Невялікае шчасце — дружба з АГНЁМ і для ВАДЫ, якая аддае намнога больш, чым здольна атрымаць.

Практычна няма небяспекі ў кантактах з АГНЁМ для ПАВЕТРА — яно і само не супраць ухапіць кавалак энергіі ў АГНЮ, не надта спяшаючыся аддаваць свае сілы іншым. Яны роўныя і звычайна захоўваюць «біяэнергетычны парытэт», паважаючы сілу адзін аднаго і не прэтэндуючы на магчымасць дарма «пажывіцца» за кошт другога.

Але бываюць і выключэнні, калі, напрыклад, жанчына актыўнага АГНЮ (20 ліпеня — 19 жніўня) пакахала мужчыну, які нарадзіўся пад знакам актыўнага ПАВЕТРА (20 студзеня — 19 лютага). Наўрад ці ўзнікне паміж імі ўзаемнасць, бо ўладарная «вогненная» дама не зможа ўстрымацца ад спакусы чэрпаць жыватворныя сілы ад самога актыўнага ПАВЕТРА. А ці захоча яно стаць ахвярай такога бессаромнага рабаўніцтва? Пры ўсёй сваёй далікатнасці «паветраны» можа не ўстрымацца...

Няблага складваюцца ўзаемаадносіны ў АГНЮ з АГНЁМ, але пажадана, каб мужчыны гэтага знака асцерагаліся жанчын актыўнага жнівеньскага АГНЮ. Не выключана магчымасць запазычання энергапатэнцыялу гэтых сеньёраў іх жа сяброўкамі. Так што ведайце «вогненныя» мужчыны: і на сілу знаходзіцца сіла!

Вампіры і іх ахвяры — гэта жарт ці сур'ёзная небяспека? Усё залежыць ад таго, ці верыце вы ў сілу Космасу, ці жадаеце падпарадкоўвацца яго законам. Космас кіруе стыхіямі нашай планеты, вызначае наша жыццё, не ўмешваючыся ў думкі і пачуцці, але перасцерагаючы ад неабдуманых рашэнняў. Старайцеся кантактаваць з усімі навакольнымі, быць шчырымі, разумнымі, добрымі, але пры гэтым беражыце ўласнае здароўе. Таго, хто грэбуе законамі Вялікага Космасу, чакае пакаранне: яны хутчэй прымуць удар экалагічнай небяспекі, будуць больш слабымі ў барацьбе са стыхіяй, бо сілы іх адабралі «любімыя» вампіры. Сцеражыцеся іх!

**Сяргей АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.

# Факстрот з Галінай Уланавай

Ёсць асобы ў палітыцы, навуцы, літаратуры, мастацтве, спорце, якія атаясамліваюць сабой цэлыя галіны чалавечай культуры. Яны — эталон вышэйшага майстэрства, ведаў і таленту, да таго ж — таленту ўсебаковага.

Менавіта такой асобай з'яўляецца Міхаіл Бацвіннік — шматразовы чэмпіён СССР і свету, заснавальнік сусветна вядомай шахматнай школы, з якой выйшла цэлая кагорта таленавітых гросмайстраў, у рэшце рэшт — доктар тэхнічных навук, буйны вучоны-кібернетык, чые вынаходніцтвы ў стварэнні штучнага інтэлекту запатэнтаваны ў ЗША, Англіі, ФРГ, Швецыі, Японіі...

Міхаіл Бацвіннік — гэта жывая легенда.

Пра яго і ягоны лёс напісана шмат кніг, манаграфій, шахматных падручнікаў. Мы ж сёння прыгадаем толькі некалькі эпізодаў з біяграфіі.

З чаго пачыналася легенда Бацвінніка?

Адна з версій — эцюд, які будучы маэстра шахмат склаў і надрукаваў у 14 хлапечых гадоў.

Было гэта ў далёкім 1925-м...



1. g4+Kph4 2. Ch6! Ф : h6 (калі ферзь адступіць, тады белыя даюць чорным мат — Фh2X).
3. Фh2+ Kpg5 4. Фd2+ Kf4 5. Фd8. Мат.

У 1933 годзе Міхаіл Бацвіннік дамогся нічыёй у матчы з гросмайстрам Сала Флорам і выйшаў на першыя ролі ў свеце шахмат. Менавіта пасля таго матча на традыцыйным банкеце меў месца цікавы эпізод.

«Ніколі не думала, што шахматысты так добра танцуюць»,— сказала партнёрка Бацвінніка.

«Я ёй нічога сказаць не мог, а факстрот яна сапраўды танцавала слаба,— пракаменціраваў той «танцавальны эцюд» М. Бацвіннік і дадаў: — Факстрот і чарльстон я танцаваў на ўзроўні прафесіянала. На працягу многіх гадоў кожную суботу я хадзіў на танцулькі...»

«А факстрот яна сапраўды танцавала слаба...» Як вы думаеце, каму адрасаваў гэтыя словы шахматны маэстра? Неверагодна, але ж факт: сусветна вядомай прыме балета... Галіне Уланавай!

Цікава і тое, што праз два гады пасля таго факстрота з Галінай Уланавай Міхаіл Бацвіннік пазнаёміўся з другой танцоўшчыцай — Гаянэ Ананавай, якая і стала яго жонкай.

...Аднак вернемся да шахмат.

У 1938 годзе на турніры ў Ратэрдаме М. Бацвіннік згуляў з вялікім кубінцам Хасэ Раулем Капабланкам партыю, якой наканавана было стаць «партыяй стагоддзя».



30. Ca3! Ф : a3. (А што, падкажыце, заставалася Хасэ Раулю? 30. ...Фе8 31. Фс7+Kpg8 32. Ce7 Kg4 33. Фd7, і белыя перамаглі).

31. Kh5+!gh (Кепска і 31. ...Kph6 32. K : f6 Фс1+ 33. Kpf2 Фd2+ 34. Kpg3 Ф : c3+ 35. Kph4 Ф : d4+ 36. Kg4+!)

32. Фg5+ Kpf8 33. Ф : f6+ Kpg8 (На ход 33. ...Kpe8 — белыя матавалі саперніка ў два хады).

34. e7 Фс1+ 35. Kpf2+ Фс2+ 36. Kpg3 Фd3+ 37. Kph4 Фе4+ 38. Kp : h5 Фе2+ 39. Kph4 Фе4+ 40. g4 Фе1+ 41. Kph5.

Чорныя капітулявалі.

Праз паўстагоддзя тэлебачанне Югаславіі правяло шахматны «конкурс прыгажосці», спецыялісты выбралі 10 знакамітых шахматных партый XX стагоддзя і прадэманстравалі іх журы — амаль двум мільёнам! — аматараў старажытнай гульні. «Паядынкам стагоддзя» тэлегледачы прызналі паядынак шостага па ліку шахматнага караля свету Міхаіла Бацвінніка з Хасэ Раулем Капабланкам.

«Усе мы вучыліся ў Бацвінніка»,— адзначыў неяк гросмайстар Леанід Штэйн. А экс-чэмпіён свету Міхаіл Таль дадаў: «Я сустракаўся, напэўна, з усімі мацнейшымі шахматыстамі свету, розныя былі адчуванні. Калі гуляў з Бацвіннікам, увесь час адчуваў сябе студэнтам. Мы ўсе — школьнікі, студэнты, можа, аспіранты. Ён, Бацвіннік, прафесар...»

У гэтым годзе «прафесар шахмат» Міхаіл Бацвіннік адзначыў сваё 80-годдзе!

Няўжо 80? Так і ёсць — 80!

Віншуем, маэстра!

# КРАСВОРД



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Вертыкальная труба збудаванняў. 5. Скульптар, аўтар кампазіцый «Рэйкавая вайна», «Юныя мсціўцы». 7. П'еса І. Гурскага. 8. Выпуклая плоская замкнёная крывая. 9. Сцэнічнае амплуа акцёра. 10. Народная камандная гульня ў мяч. 12. Беларускі савецкі паэт. 15. Пісьмовае прывітанне ў гонар урачыстай падзеі. 17. Від спартыўнай барацьбы. 18. Музычны твор для аднаго інструмента ў суправаджэнні аркестра. 19. Твор жывапісу В. Цвіркі. 20. Дыпламатычны ранг у ведамстве замежных спраў. 21. Конусападобны насып пустой пароды каля шахты. 22. Спявак, народны артыст РБ. 25. Тайна. 29. Начная насякомаедная птушка. 33. Абласны цэнтр у РСФСР. 34. Актрыса, народная артыстка СССР. 35. Каштоўны камень. 36. Зборнік вершаў і песень А. Ставера. 37. Форма мастацкага адлюстравання рэчаіснасці. 38. Гарманічнае спалучэнне некалькіх гукаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Верш П. Броўкі. 2. Аўтар карціны «Легенда пра бацьку Міная». 3. Сталіца паўднёваамерыканскай дзяржавы. 4. Сядзіба за межамі асноўнага паселішча ў Сібіры. 6. Аповесць А. Карпюка. 9. Народны і бальны парны танец. 11. Частка духавога інструмента. 13. Дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе. 14. Выканаўца ролі Наталлі ў п'есе К. Крапівы «Канец дружбы». 16. Эстрадная п'еса жартаўлівага зместу. 17. Вершаваная страфа з чатырох радкоў. 23. Прадстаўнік аднаго з народаў РСФСР. 24. Беларускі савецкі кампазітар і фалькларыст, народны артыст РБ. 26. Герой рамана «Атланты і карыятыды» І. Шамякіна. 27. Пачуццё, перажыванне чалавека. 28. Прыток Дняпра. 29. Ліхтар з каляровага шкла для ілюмінацыі. 30. Ударны мембранны музычны інструмент. 31. Драпежная жывёліна сямейства дэльфінавых. 32. Балет Я. Глебава.

Склаў Фёдар БЯЛЯЕЎ.

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 11

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Балалайка. 7. Дуля. 8. Неон. 9. Кодры. 10. Піроп. 12. Казка. 14. Колі. 15. Леер. 17. «Ная». 20. Паланез. 22. Іспанія. 23. Ельск. 24. Петунія. 26. Скрыган. 28. Шар. 30. Ірга. 31. Эцюд. 33. Мойва. 35. Задор. 37. Барва. 38. Флёр. 39. «Круг». 40. Сабаленка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Палосін. 2. Кадрыля. 3. Сухі. 4. Бялок. 5. Анчар. 6. Толк. 10. Парабелум. 11. «Поле». 12. Кекс. 13. Аспіратар. 16. Батут. 18. «Альфа». 19. Шарый. 21. Зея. 22. Ікс. 25. Ігра. 27. Клюз. 28. Шарабан. 29. Рэквіем. 30. Іверс. 32. «Данка». 34. Осла. 36. Опус.

## АПОШНІМ ЧАСАМ ПАЙШЛА МОДА ПРАСІЦЬ ПАРАДЫ, КАЛІ НЕ Ў КАШПІРОЎСКАГА, ЧУМАКА І ГЛОБЫ, ТО ВА ЎСЯКІМ РАЗЕ Ў СТАРАЖЫТНАГА УСХОДНЯГА ГАРАСКОПА-КАЛЕНДАРА



І ўвогуле, ці ведаеце вы, што паводле праваслаўнага календара «ад стварэння свету» настае год 7500-ты?...

Дата, як бачым, «круглая», раней нават зрабілі б высновy, што дата гэтая — «гістарычная і лёсаносная».

Кожны год, як вядома, асацыіруецца з адным са знакаў Задыяка.

Год 1992-гі — год Малпы.

Ёсць такая старажытнакітайская легенда. Можа, чулі?

Неяк пад Новы год Буда паклікаў да сябе ўсіх жывёл і папярэдзіў: той, хто прыйдзе да яго на спатканне і выкажа тым самым сваю павагу, атрымае год з яго́ным імем. Са шматлікіх жывёл на рандэву да Буды прыйшлі толькі 12 — мыш, карова, тыгр, заяц, дракон, змяя, конь, баран, малпа, певень, сабака і кабан. Атрымаўшы, як было і паабяцана, «уласны год», кожная жывёліна надала яму тыповыя рысы ў адпаведнасці са сваім характарам, і таму, паводле легенды, кожны чалавек атрымоўвае ў спадчыну якасці той жывёлы, у год якой яму пашчасціла нарадзіцца. У залежнасці ад гэтага і складаецца ягоны далейшы лёс.

Свой год нараджэння, шаноўныя чытачы, вы ведаеце. Цяпер вам застаецца адшукаць у табліцы патрэбную вам жывёлу і пацікавіцца, «хто ёсць хто» ваш візаві...

Паводле традыцыйнага летазлічэння народаў Усходу месца Барана, які на фінішы 1991 года складае свае каляндарныя паўнамоцтвы, спяшае заняць Малпа.

І калі вы нарадзіліся пад знакам Малпы, то...

...Вы — чалавек разумны, спрытны, абавязковы, арыгінальны і лёгка вырашаеце складаныя праблемы. Аднак вас няцяжка пераканаць і ў адваротным.

...Вы чалавек цікавы і своеасаблівы, палкі і немудрагелісты, маеце шанц дамагчыся славы, але толькі пры ўмове, што вам не будуць перашкаджаць.

Канечне ж, пастулаты любога, нават усходняга, календара для большасці людзей не больш чым забаўка, накшталт казкі для дарослых. Але чаму і не прыняць удзелу ў гульні, якую прапануе гараскоп у навагоднюю ноч, калі сам лёс гуляе з чалавекам?..

### ПАДАЕМ ГАРАСКОП-КАЛЯНДАР.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1900 | 1912 | 1924 | 1936 | 1948 | 1960 | 1972 | 1984 — МЫШ |
| 1901 | 1913 | 1925 | 1937 | 1949 | 1961 | 1973 | 1985 — КАРОВА |
| 1902 | 1914 | 1926 | 1938 | 1950 | 1962 | 1974 | 1986 — ТЫГР |
| 1903 | 1915 | 1927 | 1939 | 1951 | 1963 | 1975 | 1987 — ЗАЯЦ |
| 1904 | 1916 | 1928 | 1940 | 1952 | 1964 | 1976 | 1988 — ДРАКОН |
| 1905 | 1917 | 1929 | 1941 | 1953 | 1965 | 1977 | 1989 — ЗМЯЯ |
| 1906 | 1918 | 1930 | 1942 | 1954 | 1966 | 1978 | 1990 — КОНЬ |
| 1907 | 1919 | 1931 | 1943 | 1955 | 1967 | 1979 | 1991 — БАРАН |
| 1908 | 1920 | 1932 | 1944 | 1956 | 1968 | 1980 | 1992 — МАЛПА |
| 1909 | 1921 | 1933 | 1945 | 1957 | 1969 | 1981 | 1993 — ПЕВЕНЬ |
| 1910 | 1922 | 1934 | 1946 | 1958 | 1970 | 1982 | 1994 — САБАКА |
| 1911 | 1923 | 1935 | 1947 | 1959 | 1971 | 1983 | 1995 — КАБАН |

***З ГОДАМ МАЛПЫ ВАС, ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ!***


**БЕЛАРУСЬ**

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

№ 12 (636)
СНЕЖАНЬ
1991 г.

Выдаецца са студзеня 1930 года.





ПЕРШАЯ СТАРОНКА ВОКЛАДКІ: Максім Багдановіч — якім ён быў. Здымак друкуецца ўпершыню. Фотарэканструкцыя Пятра ДРАЧОВА і Валянціна ЖДАНОВІЧА.

Заснавальнікі — Саюз пісьменнікаў РБ і працоўны калектыў рэдакцыі.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта РБ па друку. Мінск.

Журнал «Беларусь»
на белорусском языке.
Здадзена ў набор 14.10.91.
Падпісана да друку 19.11.91.
Фармат 70×108 1/8.
Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 7.
Ул.-выд. арк. 11,0.
Ум. фарбаадб. 12,6.
Т. 11 001 экз.
Зак. 600.
Цана 40 кап.

Адрас рэдакцыі:
220005. Мінск,
вуліца Захарава, 19.

Тэлефоны: галоўнага рэдактара, адказнага сакратара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры — 33-20-53; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-02-29; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.

220041, Мінск,
Ленінскі праспект, 79.
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».

# ЛАЎРЭАТЫ «БЕЛАРУСІ-91»

## ЛАЎРЭАТАМІ ШТОГОДНІХ ПРЭМІЙ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ», А ТАКСАМА ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ПАДШЭФНАГА КАЛГАСА ІМЯ ЖАЛЕЗНЯКОВІЧА ЗА ЛЕПШЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ СТАЛІ:



**Васіль ЗУЁНАК**
**(Вершы. № 10).**

Які́м ён будзе, новы наш каўчэг
Таго — радыяцыйнага — патопу?
Прамень? Крышталік генны, як арэх
З ядром Амерык, Азіі, Еўропы?

Ці слова, што наш дух перанясе
Да новых зорак і напоўніць плоццю?
Ці вогненны — у казачнай красе —
Конь-гарбунок з маланкавай аброццю?

Ці карабель, падобны нашым снам?..
Але — які́м ён, той каўчэг, ні будзе —
Бог не паможа ратавацца нам,—
Будуйце, грэшнікі, будуйце самі, людзі.

«У славян зямля — святая істота, «маці-карміцелька», ёй пакланяліся, ёй спавядаліся, каяліся. І ці далёка мы прайшлі наперад, вылучыўшы жудасныя лозунгі накшталт такога: нельга чакаць міласці ад прыроды, узяць яе — наша задача. Нельга дапусціць, каб і далей парушалася экалогія прыроды і экалогія духу. Нельга і далей адлучаць селяніна ад зямлі. Трэба аддаць яе яму. І калі селянін адчуе, што гэта надзейна і надоўга, калі ён вернецца да зямлі, як да часткі свайго «я», то гэта будзе перш за ўсё духоўнае ачышчэнне і абнаўленне».



**Аляксандр ЛУКАШЭНКА, дырэктар саўгаса «Гарадзец» Шклоўскага раёна, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь («Вялікі перадзел!». № 3).**



**Ірына ЖАРНАСЕК**
**(«Моцнае сэрца», апавяданне. № 8).**

«Маці прыснілася квецень яблыневага саду. Бела-ружовае агромністае воблака вісела нізка над зямлёй. Сляпіла сонца. Маці стаяла басанож на халаднаватай свежай раллі, ад якой падымалася і слалася над зямлёю пара. Кружылася галава. І чамусьці нікуды не трэба было спяшацца. Яна ўсё спарадкавала, яе больш не чакала ніякая пільная праца, ніхто нікуды не клікаў. Яна ведала, адчувала, што гэта ўжо назаўсёды — сонца, яблыневая квецень і лёгкасць, незвычайная, ніколі раней не знаная лёгкасць у кожнай клетачцы цела».

«Насуперак гору і злу, якія неслі і нясуць з сабой войны, сваркі і стыхійныя бедствы, якімі адзначана ўся гісторыя Беларусі, размешчанай ва Усходняй Еўропе на рубяжах, блізкіх да Прусіі, Польшчы і Літвы, вабных для каралёў, кайзераў, фюрэраў, народ Беларусі назапасіў магутны духоўны вопыт. Стварыў сваю культуру, зберагаў уласныя духоўныя каштоўнасці, даражыў маральнай чысцінёй».



**З. АЗГУР.**
**(«Велiказвонны спеў...». № 11).**



**Ала СЯМЁНАВА**
**(«Бэзавы попел», фрагмент з кнігі. № 1).**

«А жывучы ў дні сённяшнім — спрабую ўявіць сабе яго, Міхася Стральцова, сёння. Наўрад ці ён займаў бы трыбуны, наўрад ці пісаў бы злабадзённыя артыкулы і вершы, наўрад ці зрабіўся б членам якой партыі. Ён быў сузіральнікам. Філосафам па натуры. Ён глыбінна, сутнасна адчуваў душу свайго народа. Быў чалавекам, які выразна ўвасобіў беларускі нацыянальны характар. Меў вытанчаны літаратурны густ. Быў заўзятым кніжнікам. Знаўцам паэзіі беларускай, рускай, замежнай. Ніколі не быў мітуслівым. Ніколі — літаратурным прыстасавальнікам. Меціў новыя шляхі беларускай прозы. Нездарма такі высокі аўтарытэт мае сярод беларускай творчай моладзі».





**Аляксей МАРАЧКІН. (Цыкл жывапісных работ з серыі «Народныя паданні». №№ 1—12).**

